Як туман які, адна,
І спакою не знаходзіць,
І нікому не відна?
Смерць, жыццё... Дзіўно ўсё гэта!
І нашто жыць? каб сканаць?
Смерць прышла — і песня спета,
І прыложана пячаць.
І няўжо не будзе следу,
Жыў на свеце ты, ці не?..
Смуткаваў хлапчук па дзеду,
І з ім бачыўся... у сне.
А багацце, што дзед справіў
За век доўгі — скрыпку, смык, —
Ён Сымону ўсё аставіў.
— Ты — музыка-чараўнік!
Грай-жа, дзеткі: скрыпка важна;
Смутак ты ёй свой вальеш,
І душа заплача кажна,
Як ты смыкам павядзеш,
Бо хто ў горкай паняверцы
Крыж нясе свой, жывучы,
У таго ў людское сэрца
Ёсць праўдзівыя ключы.
Грай-жа, хлопча, і старога
Ты хоць раз успамяні,
Бо мне жыць, браток, нямнога:
Мае злічаны ўжо дні.
З скрыпкай збудзеш сваё гора,
З ёю ты ўжо не адзін;
Скрыпка — хлеб твой і апора,
Дык шануй яе, мой сын:
Скрыпка верна ўсім служыла,
Каб і ты ёй верны быў, —
Гаварыў пастух Курыла,
Як духоўніцу рабіў.
І цікава была скрыпка,
Як-бы ў ёй быў хтось жывы:
Многаспеўна, звонна-гібка,
Бы выказвала славы,
Як па струнах смык бывала
Ручка здольная вяла:

Добра гэта скрыпка грала
І звінела і гула.
Рад быў хлопчык: дар вялікі,
Неспадзеўны то быў дар,
А Сымону лёс музыкі
Усміхаўся ў сонцы мар.
Ён са скрыпкай неразлучны,
Не спускае яе з рук,
А ў час вольны і спадручны
Граў і цешыўся хлапчук.
А як часам горка стане
Ці засмуціцца чаго,
Скрыпку ўспомніць — сонца гляне,
Асвятляючы ўсяго.
І што ён ні ўчуў-бы толькі,
І пальецца з-пад смыка
Гоман песні, віхар полькі,
Вір бурлівы «казака».
— Вось глядзі — музыка новы
І які яшчэ скрыпач!
Спрытны, здатны, адмысловы;
З вузел сам, а ўжо пабач!.. —
На Сымонку і дзяўчаты
Паглядалі цікавей,
Ім пацешыць сэрца ў свята
Запрашалі ласкавей.
І Сымонка пад бародку
Дар старога дзеда браў
Ды, прысеўшы на калодку,
«Каваля», «кадрылі» граў.
Спрытна пальчыкі хадзілі,
Смык то плаваў, то лятаў,
Дружна струны гаманілі,
Бы іх віхар калыхаў,
То разгульна і шалёна,
То спакойна, ледзь чуваць...
Нават дома на Сымона
Сталі йначай пазіраць.
«Ну, што-ж? хлопец не загіне»,
Маці думала аб ім:
«Можна будзе жыць хлапчыне

Скрыпкай, талентам сваім;
Падзаробіць і на хату,
Дапамогу сваю дасць,
Хоць не будзе тае страты,
Хоць малую ўнясе часць».
Бацька, хоць не прызнаваўся,
Ды таксама трохі мяк,
Калі часам даставаўся
З-за сынка увагі знак.
Ды Сымонка неахвотна
Граў «кадрылі», «кавалі», —
Біў ён больш на лад маркотны,
Дзе пакутаю зямлі
Аддаваўся спеў гаротны,
Слёзы жаласці цяклі,
І дзе чуўся жаль, уціскі,
Крыўда, гора бедака,
Бо свет смутку болей блізкі
Быў для сэрца хлапчука.

## V

Час падходзіў за Пакровы.
Вецер ліст з лясоў атрос,
І на поле свае ковы
Кінуў злёганьку мароз.
Агалела поле. Знята
Збажына з яго даўно.
Глуха, пуста, і зацята,
І нікога не відно.
І ціхутка, бы ў магіле,
Звіс нязрушана туман
І свае валокны-крылле
Абапёр на той курган.
Адзінотай і пустэчай
Ўсюды веяла з палёў,
Нейкай млявасцю старэчай
Аддавала ад лугоў.
Жыццё ўнікла. Бы ў жалобе,
Неба цьмілася, зямля;

Толькі ў руневай аздобе
Вочы песціла ралля.
У такі час наш музыка
Пасвіў стадка авячок.
Ціха, глуха, ані зыку.
Сеў пад хвойкай пастушок,
А авечкі рунь шчыпалі
Каля лесу тут адны
Ды трывожна пазіралі
І пужаліся яны.
Але іх такая ўдача:
З глупства пудзяцца, бягуць,
Камень, хвойку, куст убачаць,
Капыткамі землю б'юць.
І Сымонка з іх смяяўся:
— Вось дурныя, ха-ха-ха!
Куст ім страхам паказаўся!—
Пад гаворку пастуха
Заспакойвалася стадка,
І час зноў праходзіў гладка.
Але сёння надта пудкі
Штось авечачкі былі.
— Ну, што з вамі, мае шуткі?
Што вы ў голавы ўзялі?—
Гаварыў Сымонка з імі,
Дый самога страх шугаў,
І трывожна ён вачыма
Поле, хвойнік азіраў.
— Ці не воўк іх тут пужае?—
Толькі так памысліў ён —
І затросся ўвесь Сымон:
Воўк з ядлоўцу вылятае
Ды ў авечкі проста садзіць,
Злы, раз'юшаны, бы кат,
І дзе хлопцу з ім тут зладзіць,
Бо такі драпежны гад!
Пасць разяўлена, зубата,
Сам вялізны і сівы,
Хіб адкочан, шэрсць узнята,
Нават клык відаць крывы,—

Вельмі страшны з галавы!
Драпанула раптам стадка,
Аж па полі пайшоў грук,
А ён—хоп за карк, лапатку
Ці за горла і—каюк!
Воўчым зубам чуць кранецца
Ці грудзінай дасць упол —
Ні адна не страпянецца,
Трупам кінецца на дол.
З немым крыкам перапуды
Хлопчык кінуўся туды.
— Га! ага! Ты-га, паскуда!
Людзі, воўк! Сюды! сюды!—
Разагнаў усіх звяруга,
Трох на месцы палажыў,
А баранчыка схапіў
І панёсся ў лес, зладзюга!
І такі быў страх блазноце!
З крыку ён зусім ахрып,
Перасохла хлопцу ў роце,
І язык яго прыліп,
Не мог вымавіць і слоўка,
Пабялеў, як той папер.
Ох, нагнала ліха воўка!
Што-ж рабіць-чыніць цяпер?
Страх і жаласць агарнулі,
Плача горкімі слязьмі.
Людзі гэты плач пачулі,
З лесу едучы з дрыўмі,
І на крык хоць беглі жыва,
Ды не ўпору ўжо прышлі:
Пазбіраць авец пудлівых
Толькі хлопцу памаглі.
Гнаў Сымонка рэштку стадка,
А самога страх шугаў:
Не даруе яму татка,
Што авец не ўпільнаваў!
Чула сэрца, што праборкі
І папругі не мінуць,
Што скрозь столь убачыць зоркі,
Як наджэгі зададуць.

А аб тым, што ён нявінен,
І не думаў хлопчык тут:
Хіба-ж быў яму адчынен
Справядлівы бацькаў суд?
Але-ж не! ён скажа: «Тата!
Крукам я стаяў, глядзеў,
Ды знянацку воўк праклятый,
Як той віхар, наляцеў.
Я гукаў, ахрып ад крыку.
«Га-а!» Ён голас тут падаў,
Ды ў яго хрыпаты, дзікі
Голас з грудзяў вылятаў.
Толькі-ж дома не павераць,
Ох, раскоціцца там гром!
Не хацеў-бы ні вячэраць,
Ні паказвацца і ў дом.
Ішоў хлопчык у трывозе,
Замаркоціўся, прыціх,
А прад ім вязлі на возе
Трох авечак нежывых.
Вот сяло ўжо недалёка,
Затрымаўся ў полі ён.
Унь іх хата, і высока
Шэст убіт каля акон.
Вось спыняюцца мужчыны
І авец у двор нясуць.
На спатканне ім з адрыны
Два дзядзькі яго бягуць,
Штось гавораць... там і маці...
Людзі сыпнулі туды...
«Ну, прапаў ты, Сымон браце!
Ой, бяды будзе, бяды!»
А вось чэша дзядзька Юрка.
— Добра выпасвіў авец!..
Дзе-ж баранчык?.. Ось і шкурка,
Ось і мяска!.. маладзец!
Страты — добрая палова...
Скубянуў, дык скубянуў! —
І больш дзядзька ані слова,
Толькі поглядам кальнуў,
Сам пагнаў у двор авечкі,




Вокладка паэмы «Сымон-музыка». 1928 г.

А Сымон адзін зусім,
Торбу звесіўшы праз плечкі,
Ідзе воддалек за ім,
Ды маўклівы, бы акуты
Гэтым горам і бядою,
І бязмернаю жудою
Да зямлі быў дух прыгнуты.
Вось і дворык іх і хата,
Людзі ў весніцах, дварэ;
Шуму-гоману багата,
Нейкі рух усіх бярэ.
А туман, імга пустая
Цяжка звісла над сялом.
Хлопчык цьмяна памятае,
Што тварылася кругом.
Так, абрыўкі з'яў-малюнкаў,
Слоў нязвязаных нічым,
Недарэчных вырахункаў, —
Ўсё вілося перад ім.
— Але ўсе-ж папарываны!
Ты-ж чаго глядзеў? дзе быў?
Вужу, гадзе шальмаваны,
Лепш цябе-б ён задушыў! —
Бацька ў роспачы, у злосці
Кінуў жмут калючых слоў.
Не, чакаць няма мілосці,
Але ён на ўсё гатоў:
Будуць лаяць — няхай лаюць,
Будуць біць — няхай і б'юць, —
Тыя грозьбы не пужаюць
І не кратаюць нічуць.
Усяму, усім староннi,
Ён стаіўся ў кут адзін,
Ён нібы ў пустым бяздонні
Стаяў некалькі часін.
— Што стаіш там, як закляты?
Гора ты нам, не дзіця! —
Кажа маці: — ідзі ў хату,
Недапека ты, куцця! —
І ўздыхнула. Мусіць, матцы
Шкода стала бедака,

Трэба-ж к сыну хоць азвацца;
А йдзе бацька з хлевушка,
Ён узбураны, сярдзіты,
Бровы ссунуты на нос...
— Годзі ўжо, Панас, не бі ты,
І так розум ён растрос.
— Вон адгэтуль, каб і смроду
Мне твайго тут не было!
Ты штодзень мне робіш шкоду,
З-за цябе і на сяло
Паказаць мне брыдка вочы!
Бяры скрыпку, смык і — вон!
Ідзі з дому, куды хочаш —
Больш не сын ты мне, Сымон! —
Хлопчык, змешаны з гразёю,
З дому выгнаны, стаяў
Каля пуні пад страхою
І ў мрок ночы пазіраў.
Ён не плакаў — зніклі слёзы,
Яны ўсе — на дне душы.
А дзесь вецер вербалозы
Над балотам варушыў.
А ён глух, не чуў нічога.
А куды йсці? да каго?
Ён не меў нідзе нікога,
Хто-б схіліўся да яго.
Пастаяўшы, хлопчык рушыў,
Пералез знаёмы плот,
Скрыпку ўзяўшы, і патрушыў
Упярод і ўсё ўпярод.
— Трэба, бацька, ведаць меру!
Хіба так ён вінават?
Дзе яму даць рады зверу?
Ідзі кліч яго назад! —
Сэрца маткі не ўтрывала:
— Хлопец з страху пабялеў,
Перапудзіўся не мала,
За дзень гэты пастарэў.
— От, няхай там паскавыча;
Не дзе дзенецца, не йдзі:
Змерзне, сам, нябось, прысмыча;

Сядзь ты лепей і сядзі. —
Толькі-ж маці не ўсядзела,
Вышла ціхенька на двор.
— Дзе ты? — клікнула нясмела.
Неба цёмнае без зор
Непрыветна пазірала,
Цьма халодная маўчала,
Матцы кідала дакор
І папрокі ёй за тое,
Што пакрыўдзілі сынка.
І за што? за так пустое —
Ці-ж ухілішся ваўка?
Хлопца выгнаць, праціў ночы!
— Го-о, Сымон! — і ціха зноў,
І глядзяць дарэмна вочы
Па куточках між платоў;
Вышаў бацька. — Ідзі ў хату.
Не туляйся, а то — дам!
Чуеш! слухаць трэба тату!
Што хаваешся ты там?
Нябось, бачу! — Ды нічога
Ён не бачыў і не чуў.
А мрок-багна строга-строга
Неба, землю агарнуў.
Бацькаў гнеў даўно мінуўся.
Як ні страшыў, ні гукаў,
Ды Сымонка не вярнуўся,
Слыху-голасу не даў.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Калі вясною
Над зямлёю
Раняла сонейка праменні,
Яно сказала ім тады:
«Ляцеце, промені, туды,
На боль мой выклічце стварэнні,

Удыхнеце дух ім малады,
Цяплом сагрэйце і каменні,
Няхай зямля на ўсе лады
Спявае радасць адраджэння,
Няхай там знішчыцца суцепне,
Адбітак смерці і жуды».
І косы тыя
Агнявыя,
Свайму пакорныя закону,
Ляцяць з нязмераных вышынь,
І жыватворная іх плынь
Зняла цямраную заслону —
Зацяты сон нямых пустынь. —
Выходзь, зямля, з свайго прыгону,
Развей ты сон і чары скінь!
І ткуць праменні ёй карону;
З свайго надземнага амбону
Яе вянчае неба сінь.
— Адна палоска,
Сонца коска,
Каля пустэлі пралятала,
Сустрэла хмарку на пуці.
«Спыніся, промень, не ляці:
Сагрэта ўжо зямная гала,
Мяне ты, промень, асвяці!»
Яна ад холаду дрыжала
І нікла ў жудаснай муці.
Праменю сонца шкода стала
Прыгожай хмаркі, што ўмаляла
Ёй косы сонцам заплясці.
І ён спыніўся
І скланіўся
Перад няшчасцем хмаркі божай:
Яна — адна, навокал — жуд,
Пякельны холад, мрок і мут.
І кінуў промень блеск свой гожа,
Нібы стварыў ён з ёю цуд:
Заззяла хмарка так прыгожа,
Што хто ні бачыў яе тут,
Звясці вачэй з яе не можа.
Ён з ёю дзеліць падарожжа,

Але завуць яго на суд.
За што? за тое,
Што святое
Парушыў сонца прыказанне
І, не дасягнуўшы зямлі,
Куды ўсе пасланы былі,
Каб знішчыць цьмы там панаванне,
Адстаў свавольна ад сям'і,
Разліў свавольна сваё ззянне
У цемры хмарчынай раллі.
«Блукай-жа ты ў пустой далі!»
Ён быў асуджан на выгнанне
І на бясконцае блуканне
Паміж нябёсаў і зямлі.
Ноч над светам панавала.
Поле жудасна маўчала
І халоднай цішынёй
Непрыветна сустрачала
Тых, хто скрыўджанай душой
Смутак нёс свой, сваё гора
У свет гэты, гэту даль,
Каб рассеяць на прасторы
Слёзы горкія і жаль
І ў дарозе між крыжамі
Гэты жаль узгадаваць,
Потым песнямі, слязамі
Людзям зноў яго аддаць.
Шоў Сымонка на спатканне
Змроку, цемрадзі палёў,
У круг гора і блукання
Мусіць, лёс яго павёў.
І ён шоў — куды? не ведаў
Ды аб тым і не пытаў;
Пад убогі крыжык дзедаў
Неўзаметкі прыблукаў.
Тут ён толькі схамянуўся,
Стаў патрошку разважаць,
Пудка ў страсе азірнуўся —
Глуха могілкі маўчаць!
Ён прысеў на край магілы,
Скрыпку збоку палажыў

І заплакаў. — Дзедка мілы!
Ты адзін у свеце быў,
Да каго я прыхіляўся,
Ты адзін мяне не гнаў
І не крыўдзіў, не смяяўся
І ў нядолі памагаў.
Голуб сівы мой! ачніся,
Пашкадуй мяне, дзядок! —
Плакаў хлопчык, і ліліся
Градам слёзы на пясок.
Плача, бедны, прычытае,
Вуха к долу прыхіне,
Ды маўчыць зямля сырая
І ў зацятай цішыне
Прычытанне замірае.
Змогся хлопчык, абяссілеў,
Толькі ўсхліпваў ды ўздыхаў.
Ён слязамі жаль свой выліў,
Смутак імі спаласкаў.
І яму так лёгка стала,
Як-бы што яго ўзняло
І так ціханька гайдала
І так лёганька нясло.
Вось узняўся над крыжамі
І паплыў, паплыў, паплыў!
Толькі ветрык за вушамі
Ціха-ціха захадзіў.
А ён дальш усё нясецца,
Хмаркі гоняцца за ім
І смяюцца, ён смяецца
Смехам радасным такім.
А над імі сонца ззяе,
Іх цалуе, як дзяцей,
І праменні пасылае
Сустрачаць сваіх гасцей.
Лёгка, вольна і лагодна,
Бы на крыллях светлых мар,
Ён лятае так свабодна
У клубах купчастых хмар.
Але раптам стала змена:
У багне пустых глыбінь

Бурнай плыні коціць пена
І чарнее неба сінь,
Нікне сонца ў чорным муту,
Хмаркі спуджана бягуць,
І з мінуты на мінуту
Свет затопіць тая жудзь.
А ён больш ляцець не можа,
Страх яго апанаваў.
Толькі-ж чуе — гэтак гожа
Хтось на скрыпцы заіграў.
І вярнулася зноў сіла,
Страху скінуты гужы.
Азірнуўся — зноў магілы
І пахілыя крыжы.
А на прыкладзе драўляным
Бачыць — сівенькі дзядок,
Дзед Курыла, ў бель убраны,
Галаву схіліў набок
І ўсё грае, ды так гожа,
Як ніхто яшчэ не граў.
Ці не дзедка з падарожжа
Небу скаргу пасылаў
За дзіцятка, што марнее
Без прызору, без бацькоў,
Што не песціць і не грэе
Ласка мацеры, братоў?..
Слухаў хлопчык спеў нязнаны
І няспеваны нікім,
І гаілісь сэрца раны,
Нікла крыўда перад ім.
А дзед грае, смыкам водзіць,
Плачуць струны і дрыжаць,
І такую жальбу родзяць,
Што ніхто не мог стрываць:
І крыжы на дол прыпалі
І схінуўся верх лясоў
І граць дзеду памагалі
Хорам згодных галасоў.
А Сымонка, як прыкуты,
Не мог пальцам зварухнуць,
Не мог гэтых чараў путы

Ні разбіць, ні адхінуць;
Толькі-ж чуў, што не ўздужае
Дый не схоча далей жыць,
Бо то дзедка выклікае
Яго душу супачыць.
Вось-вось ён ужо канае
І ўжо чуе смерці ўзмах.
Ён не плача, не ўздыхае,
І яго не пашыбае
Ані жаласць, ані страх.
Ды ў той час, калі, здавалась,
Дух яго ўжо пакідаў,
Дзіва новае зноў сталась:
Дзед у скрыпку ўлез, прапаў.
І сама ўжо скрыпка грала,
Покі лопнула струна,
А як лопнула — прапала
Сну праявіна-мана.
Здрыгануўся, прахапіўся,
Галаву падняў Сымон.
«Гэта-ж толькі сон мне сніўся!»
І галоўку звесіў ён.
Азірнуўся — скрыпка збоку;
Праўда, лопнула струна.
То-ж сапраўды, ненарокам,
Аж яшчэ гудзе яна!
Страшна, сцішна хлопцу стала;
Увесь трэсся ён, дрыжаў;
Песня ў сэрцы не змаўкала,
Смутак, гнеў у ёй гучаў.
Скрыпку ўзяў ён, азірнуўся,
Страх пашыб яго мацней,
Тут ён боязна прыгнуўся,
Ды з тых могілак — барджджэй,
Бег, пудліва азіраўся
Ды зноў бег па камянёх;
Толькі ў полі затрымаўся,
Пастаяў на растанцох
Пад тым крыжам, дзе дарогі
Секлі следам сваім след

Ды праз нетры і разлогі
Беглі дальш у белы свет.

Гэй, дарогі ў край шчаслівы!
Гэй, дарогі-
Паясы!
Колькі ножак праняслі вы
Праз аблогі,
Праз лясы!
Гэй, дарогі, ніці-кросна,
Тканкі кола
І зямлі!
Як зацята-безгалосна
Паўзверх долу
Вы ляглі!
Гэй, дарогі-пуцявіны,
Чыёй волі
Вы ганцы?
Што гамоняць каляіны
І на полі
Растанцы?
Вы паведайце нам былі,
Што пісалі
Вам тут дні;
Няхай скажуць вашы мілі,
Як знікалі
Тут агні!
Няхай скажуць вашы далі,
Дзе звісае
Мгла-туман,
Што яны нам абяцалі?
Хто не знае
Гэты зман!
Гэй, дарогі ў чыстым полі,
Ніці шэрыя зямлі!
Колькі к долі і нядолі
Ног людскіх вы праняслі!
Вышла-б казка, ды якая,
Каб маглі вы расказаць,
То, што й думка не згадае,
Што адным вам толькі знаць!

Над Сымонкам думкі ўюцца:
Што рабіць? Куды пайсці?
Ці назад дамоў вярнуцца,
Ці ў свет гора панясці?
Ды вялікі свет бясконца,
А ён — толькі мошка ў ім,
Лёгкі пыл у косках сонца,
У прасторы тонкі дым.
Чужаніца між сваімі,
«Непатрэбны дармаед»,
Як пагодзіцца з чужымі?
Як сустрэне яго свет?
І дадому-ж ён не пойдзе
Здзек цярпець і спіну гнуць,
Долю знойдзе ці не знойдзе —
Гайда ў пуць, далёкі пуць!

II

Заблішчала, заззяла на ўсходзе лука —
Бераг неба над краем зямлі;
Залатыя чаўночкі ўсплылі,
З безбярэжнай далі.
Разлівае ўжо блеск агнявая рака,
І чыясь там рука
Аднімае заслону з зямлі.
А з-за краю нябёс вочы ўскінуў дзянёк,
Сыпнуў чырвань на шапкі лясоў,
Нясе жмут залатых каласоў,
Абрусоў, паясоў
Белы свет убіраць, небу сплесці вянок,
І рассеяўся мрок,
Адамкнуўся цямраны засоў.
І балуе пажар — іскры сонцавых кос,
Разнімаецца шырай, дужэй, —
Ясны дзень павядзе цяпер рэй.
На душы весялей,
А ўчарашняга дня кроплі вылітых слёз
Замарозіў мароз —
Срэбрам іх парабіў, чарадзей!

Шоў Сымонка, углядаўся,
Як гарэў і зззяў усход,
Як дзень новы з ім вітаўся
І зваў весела ўпярод.
І ён шоў, мінаў сялібы,
Што чарнеліся ўдалі,
Шоў праскамі цераз скібы
Свежа-ўзоранай зямлі,
Каб з людзьмі не сустракацца
І хітрэй схаваць сляды,
Бо мог кожны запытацца,
Хто, адкуль ён і куды
Ідзе рана так, да свету,
Абарваны, чуць адзеты
І абуты ў пасталы?
Доўга ён трапаў, далёка
Кінуў роднае сяло.
Над лясамі ўжо высока
Сонца ўгору падышло
І выгнанніка ласкала,
Грэла, песціла цяплом
І, як матка, цалавала
Тою коскаю-святлом.
Як смяюцца толькі дзеці,
Усміхнуўся тут Сымон,
Бо пачуўся, што на свеце
Не адзін ён — з скрыпкай ён!
Вочкі хлопчык ускідае,
Каб акінуць гэту даль,
Крэпне сілка маладая,
Чаго-ж шкода? чаго жаль?

Эх, што можа быць даражай
Вольнай волечкі, палёў?
Гэтай сіняй далі гожай,
Невядомай і прыгожай,
Без канца, без берагоў?
Гэтых хмарак злотатканых,
Ветру посвісту ў палёх,
Думак светлых, мар нязнаных,
І нікому неказаных

Казак лесу і дарог?
Што цікавей падарожжа,
Негаданых з'яў быцця,
Шуму лесу, спеву збожжа,
Новых песень запарожжа,
Спеву новага жыцця?
Эх ты, шыр-прастор далёкі!
І шчаслівы будзе той,
Хто душою адзінокі,
Вольны сэрцам, яснавокі,
Згодна злучыцца з табой!
Ды Сымонка з-за трывогі
Ночкі жудаснай не чуў,
Што балелі яму ногі
І што голад яго гнуў.
Вось задача, дык задача:
Дзе і як здабыць яды?
Папрасіць хіба, няйнача?
Да дзе сунуцца? Куды?
І ён стаў шукаць вачамі,
Дзе-б спыніць іх і на чым.
Унь там хата за карчамі,
Якраз з коміна йдзе дым,
Коціць лёгкія клубочкі,
Дужкай звіўшыся ўгары,
І так вабяць яго вочкі
Тыя ціхія двары!
Пэўна там пякуць аладкі.
Вось каб блінчык, хоць адзін!..
Ён вачэй не зводзіць з хаткі,
Мысліць некалькі хвілін...
Не, брат, трохі рызыкоўна:
А спытаюць: хто такі?
Небяспекі ўсюды поўна,—
Не, туды йсці не з рукі.
Дый сабакі там ліхія,—
Далей лепш пайсці адсюль.
Ён мінае хаткі тыя,
А ў жываціку — буль-буль!
Слабасць чуе, млеюць ногі,
Але йдзе — куды? зачым?

Трудны першыя парогі,
А што далей будзе з ім?

Так ідзе ён, а з ім поруч
Думак коціцца клубок.
Раптам нікне ў сэрцы горач,
Унь кудзеліцца дымок!
Як ён мілы і павабны,
Толькі й можа знаць пастух.
Тчэцца сіні шнур ядвабны.
І спакойны такі рух!
Сам агонь у полі тлее,
Нікагусенька няма.
Хлопчык зразу весялее, —
Духам падаў ён дарма.
Знікла гора, як-бы труска,
Дым знёс цяжкую думу;
Будзе хлопчыку закуска,
Будзе снеданне яму!
Бо на полі бульбы многа,
Бульбы можна напячы.
І бярэ тут рух малога,
На агонь нясе карчы.
Чуць агоньчык разгарэўся,
Ён — у бульбу на загон;
Так капае, аж угрэўся,
Бо свой клопат — не прыгон.
Бульба ў прыску, а над прыскам
Бурна полымя гарыць
З шумам-трэскам, з нейкім піскам,
Бы з ім хоча гаварыць.
Той агоньчык разгараўся,
Бойка полымя шугаў,
З-пад карчажкі выбіваўся,
Тонкай стужачкай звіваўся
І паленцы ахінаў;
І дымок пагульваў жвава,
Гнаў клубочак за клубком,
Браў улева, рваўся ўправа,
Бег раўнюсенькім слупком
У прасторы горных светаў

І губляўся там, знікаў...
Жартаўнік агоньчык гэты!
Дзе-ж наўперад ён блукаў?
Думаў хлопчык: — Ён цікавы!
Дзе-ж ён быў? Дзе будзе зноў?
Ён і злосны і ласкавы,
Ён спакойны і рухавы,
Ён і стар і вечна ноў.
Ён патухне, а жыць будзе...
Хіба ў ім жывы дух ёсць?
Я-ж у свеце толькі госць,
Як і госці ў свеце людзі...
Дзіўна гэта, страх цікава;
Я-б хацеў быць сам агнём:
Я-б дымком па небе плаваў,
Па зямлі-б хадзіў святлом. —

Дагарэлі дровы, —
Полудзень гатовы.

У Сымонкі баль ды годзе,
Ён усеўся на калодзе,
Ён у лесе, бы ў гаспадзе.
А настольнік — пласт імшысты
Ды прыгожы, ды іскрысты,
З густам вытканы і чысты.
Тыя ніткі зямля прала,
Тую пражу сонца ткала.
Коскі сонца хлопцу служаць,
А бульбінкі толькі тужаць:
Ён не можа іх адужаць,
Аж зайздросцяць яму сойкі,
Штось сярдзіта свішчуць з хвойкі,
Справа чуць не йдзе да бойкі.
І мурашак бярэ дзіва,
Прыпаўзлі сюды маўкліва,
Пазіраюць унікліва,
Па-сваему б'юць у лапкі,
А Сымон сядзіць без шапкі,
Бульба тая смачней бабкі.

Узмацніў хлапчынка сілы,
Уздужаў ён і ажыў, —
Тут куточак такі мілы,
Так ён добра паслужыў.
Нават кідаць яго шкода.
Ён прысеў на гладкі пень.
Зацішно, і ў сэрцы згода, —
Хоць сядзі тут цэлы дзень.
Ён сядзіць, а ў ім штось грае,
Нейкіх спеваў шум дзіўны,
І няма ім канца-краю,
Ім валодаюць яны.
Дзе-ж ён чуў іх? І адразу
Ноч успомніў тут Сымон,
Постаць, дзедаву выразу,
І ўсё, што навеяў сон.
Ён наладзіў скрыпку жыва,
Чуць крануўся струн смычок,
Звонкіх зыкаў пералівы
Поўняць лес, маладнячок.
Свет забыў цяпер Сымонка,
Скрыпцы душу ўсю аддаў,
І пайшла-пайшла гамонка, —
Лес смяяўся і рыдаў.
А скрыпіца галасіла
Смутнай восені дажджом,
Адчувалася ў ёй сіла,
Што лілася ручаём;
І адразу адрывала
Спеў магутнасці яна,
Каб зноў квола задрыжала
Яе чуткая струна.
Граў Сымонка і часамі
Смык ад скрыпкі аднімаў
І кудысь у глыб вачамі
Пільна-пільна пазіраў,
Потым зноў ён ачынаўся;
Сэрца білася ў грудзях,
І агоньчык запаляўся
У яго кругленькіх вачах.
Зноў над скрыпкаю жалобна

Смык хадзіў, бы штось раняў,
І слязамі дробна-дробна
Лес, дубраву напаўняў.

Хлопчык змоўк і здрыгануўся,
Аж падскочыў: перад ім
Сівы дзед стаіць, сагнуўся,
Вокам міргае сляпым.
Страшны, бледны, абарваны,
Жыцця пасынак, бядак,
На ім торбы і лахманы,
У руцэ кій — то жабрак.

— Хто ты, хлопча? — дзед пытае:—
Чый сынок? якіх бацькоў?..
Ну-ж і хлопец! Моц святая!
Маладзец, каб я здароў!
Тваё гранне гоіць раны,
Ну й мастак ты, хоць малы! —
Хлопчык бачыць — дзед рахманы.
Хоць і страшны, ды не злы,
Але што сказаць адразу:
Праўду вылажыць? салгаць?
Дзед стаіць і жджэ адказу,
Потым зноў давай пытаць.
— Я... так... хлопец... падарожны,
Праз сябе сам... Я... нічый! —
І пры гэтым асцярожна
Ён зірнуў на дзедаў кій.

— Як-жа гэта: сам сабою? —
Дзед ускінуў плечуком: —
Ты-ж не вырас пад вярбою
Ці ў бары баравіком?

— Я, дзядок, прагнаны з хаты
І іду... куды? у свет! —
Больш дзівіўся дзед кудлаты,
Разважае нешта дзед.

— Гм, хлапчынка: свет вялікі,
А прыпынку ў ім няма,

Прападзеш, бы яблык дзікі,
Цяпер восень, там зіма.
Дзе-ж ты дзенешся зімою?
Хто табе прытулак дасць?
Эх, спазнаешся з бядою!
Эх, шырока яе пасць!
Горка, горка давядзецца,
Ты старога запытай.
Ой, часамі так прыпрэцца,
Што хоць рэпачку спявай!
А на свеце, хлопча, ўсякіх
Многа знойдзецца людзей.
На пахілых і сабакі
Брэшуць злосней і гарэй...
Як-жа ты надумаў, дзеткі?

— А не ведаю... ніяк...

— Го, то кепска, мая кветка! —
Галавой матнуў жабрак.
Змоўк дзядок, маўчаў Сымонка,
Апусціўшы вочы ў дол,
А стары разважыў тонка
І так кажа: — Што-ж, сакол,
Вось што я табе параю,
Каб не траціць лішніх слоў:
Я стары і лепей знаю,
Што рабіць, каб я здароў!
Пойдзем, хлопча, маім шляхам:
Будзе нам латвей удвух;
Ты не будзеш жыць пад страхам,
Што злы голад выне дух.
У мяне-ж ёсць свая хатка,
Нажабруем, купім дроў;
Печ прыгорне нас, як матка,
Добра там, каб я здароў!
І не трэба чыёй ласкі,
Хай сабе трашчыць мароз,
Мы расказваць будзем казкі —
У мяне іх цэлы воз.

— Ну, а біцца дзед не будзе?
— Што ты! Не, каб я здароў,
Каб памёр на гэтым грудзе!
— Калі так, то я гатоў. —
Дзед сядае на калоду
І, заместа барышу,
Дае сальца малышу,
Каб азначыць тую згоду.

III

Нікне ночка. Дзень чуць значна
З смехам ясным на вуснох
Ідзе з ёю ў стэп няўбачны
І губляе ў глыбінох
Цёмнасініх і далёкіх,
Там, дзе зорачкі гарэць,
І дзе хмарак адзінокіх
Віхр не смее заганяць.

Як той дзень за ночкай следам
Ходзіць кожную пару,
Шоў Сымон за старцам-дзедам,
Дзед — уніз, ён — угару.
Дзед слабеў і траціў сілы,
Круг жыцця ён замыкаў
І ступаў на край магілы,
Хлопчык круг свой пачынаў.

Шлі яны ад хаты к хаце,
З вёскі ў вёску, з краю ў край,
У сярмяжках — латка ў лаце,
З адным толькі словам — дай!
І ў прыгодзе ўсё бывала:
Ціснуў холад іх, мароз,
Снегам вочы засыпала,
Вецер торбачкі іх трос,
Як шалёны, выў, смяяўся,
Біў у твар і з ног скідаў

Ды ў лахмоцце забіраўся,
Шапкі з іх галоў зрываў
І ганяў па снежным полі,
Злы, бязжаласны вар'ят.
І Сымонка, як ніколі,
Зазнаў горачка тут шмат.
Але хлопчык шоў пакорна,
Мерным крокам, як і дзед;
Сцежка ўсюды ім прасторна,
Ім адчынен белы свет.
Ды што нам у тым прасторы?
Што нам шыр без берагоў,
Калі мы — чаўночкі ў моры
Без вясёл, без жагялёў?
І арлу прастор не мілы,
Хоць і волен яму пуць,
Калі ён не мае сілы
Вольна крылламі ўзмахнуць
І ляцець, куды ён хоча —
У бяздонне глыбіні,
Там, дзе ў хмарах гром ракоча,
Самі паляцца агні.

Неразлучны з скрыпкай-другам,
Хлопчык шоў, у снезе вяз,
А па хатах з дзедам цугам,
Вочы ўзняўшы на абраз,
Пеў жабрацкія літанні,
У тон дзеду патрапляў,
І дзядоўскія спяванні
Ён на скрыпцы выйграваў;
І тады, як зрэдку спевы
Песень дзедавых святых
Ціхім жаласці павевам
Струн краналіся жывых,
Скрыпка раптам ажывала
І ўжо новым языком
Жаласць сэрца выяўляла
І звінела пад смыком.
І тады вакол Сымонкі
Ўсе збіваліся цясней,

А дзядоўскія скарбонкі
Накладаліся паўней.
Грош завёўся ў дзеда ў латах —
Запамог Сымон яму...
Так па дворах і па хатах
Перакідалі зіму.

Надакучыла-ж зіміца!
Прыхадзі хутчэй, вясна:
Ты — крылатая зарніца,
Ты — прызыўная струна,
Ты — дзяўчынка-чараўніца,
Ты прыветна, ты ясна,
Гучнай радасці паўна;
Ты — надзей і мар злучэнне,
Ты — гром песень, цішыня,
Ты — надзорнае імкненне,
Ты — прастора-шырыня,
Ты — прыгожасць-летуценне,
Ты — развага-глыбіня,
Усмех радаснага дня.
Прыхадзі-ж, вясенька-радасць,
Буйна росамі заззяй,
Хай твая краса дабра дасць
І абудзіць гэты край!

І прышла яна, княгіня,
Пазганяла снег з зямлі,
І дзе толькі вочы кіне,
Ажыўлялася пустыня,
Травы, красачкі раслі.
А Сымонка нецярпліва,
Сам не знаючы, чаму,
Ждаў вясеньку, ждаў, як дзіва,
І кляў холад і зіму.
І цяпер ён быў вясёлы,
Бо ён чуў, што ён жыве,
Што жыве з ім лісцік кволы;
Жыцце чулася ў траве,
У гаёчку, у лясочку,
На палёх, і на лугох,
І ў зялёненькім лужочку,

І ў крынічных берагох;
І ў душы бы штось спявала,
А пра што, душа не знала —
Так спявалася само;
Чуў хлапчынка, што спадала
З шыі цяжкае ярмо
Адзіноты, долі горкай, —
Свет хацелася абняць,
І людзям бліскучай зоркай
У іх цемрадзі зазяць.
І сказаць ім, як шчасліва
Можна жыць і на зямлі,
А яны ўсе — злы-маўклівы
І гняўлівы-абурлівы,
З рубяжоў дабра зышлі.
Ён любіў і неба гэта,
Недасяжную глыб-сінь,
І бязмежжа горных светаў,
І адвечную іх плынь.

Ідуць часам яны з дзедам, —
Месца слаўнае, цяпло,
Час паўднёвы прад абедам.
— Э, куды наша ні шло, —
Кажа дзед: — прысядзем хіба? —
Хлопчык згодзен, хлопчык рад,
Хоць не любіць дзеда-грыба:
Дзед залішне скупават,
Толькі цешыць абяцанкай,
А не справіць халата,
І стары, а жыве зманкам,
Дзед — шалыга, шалахта.
А дзед сядзе каля дуба,
Кій паложыць на траву,
Люльку возьме ў рот бяззубы
І пахіліць галаву,
Ды пачне сваё казанне,
Як павінен жыць Сымон,
Каб праз тое навучанне
Лепш прыбраць яго ў палон,
Бо таму не збыць пакуты,

Хто-б над старасцю накпіў.
— А скажы, дзядок: чаму ты
Мне халацік не купіў?
Бач халат мой: — кучка гною
І няма ў ім рукавоў!
— А нашто халат вясною?
Ну, нашто, каб я здароў?
Меў-бы ты халацік новы,
Дык які-б ты быў жабрак?
Людзі пальцам ткнуць гатовы:
Жабраку абнова — брак!
Людзі скажуць: ён багаты,
Паглядзі, які халат!
На парог не пусцяць хаты,
Крыкнуць: «Вон, пайшлі назад!»
Зацкуюць яшчэ сабакам
Ды дадуць і кулакоў...
Рвань ёсць беднасці адзнака,
Беднасць — доля жабракоў.
А зірнуць, вось, на такога, —
Хіба той не дасць, хто ліх...
Слухай ты мяне, старога,
Лепей ведаю я іх.
— А скажы, дзед: ці не можна
Жыць праўдзіва, а не так?..
— Ну, а як скажы, а як?
Галава твая парожна!
Дзе-ж тут зман той? вось дзівак!
Раз узяўся ты за гуж,
Не кажы, што я не дуж;
Трэба ведаць тут парадкі:
Зверам будзь сярод звяроў,
Між авечачак — ягняткам...
Толькі так, каб я здароў!
Ты паслухай, што скажу я:

— Думала варона,
Чорная хвальбона —
Хай не марыкуе;
Думала-гадала,
Што ёй свету мала

І чагось бракуе.
Пташкі ўсе, як пташкі:
Лёгкі лёс ці цяжкі,
А жывуць, як трэба.
Хто жыве ў балоце,
Гнёзды ўе ў чароце,
Мае свой кус хлеба:
Чапля ловіць рыбу,
І ў сваю сядзібу
Носіць бусел жабы.
Плюхаюцца качкі,
Гусі, іх сваячкі, —
Ім вада была-бы.
А хто жыў на полі, —
Меў там свае ролі,
Свой парадак пэўны.
Толькі той вароне
Паў на глузд, Сымоне,
Замер неспадзеўны:
Хоча быць арліцай,
Бліснуць бліскавіцай
У надземнай багне,
Каб ва ўсім стварэнні
Выклікаць здзіўленне —
Славы сабе прагне.
І варона з шула
Крыллямі ўзмахнула —
Вышай, вышай, вышай!
Яна ўжо высока,
Чуць угледзіць вока;
І здаецца мышай.
Толькі-ж хто ні гляне
На яе лятанне,
Кажа: «То-ж — варона!»
Бачыць — прагарэла,
Бо не вышла дзела,
Не па ёй карона!
Але не шманае
Пташына дурная,
Новы шлях цярэбіць:
«Спаганю сваё я,

Спробую другое —
Паплыву, як лебедзь!»
Дэбае варона
На адхон затону,
Дэбае, гяргеча;
Стала над вадою
І — бух з галавою!
Шугнула, бы з печы,
Вымакла, бядачка,
Бо яна не качка,
Чуць не затанула,
Вылезла на бераг,
І цана ёй шэлег —
Не ўзляціць на шула.
Кінула варона
Дасяганне трону,
Зноў ідзе на летнік.
І да гэтых часаў
Ёй зачынен засаў:
Ёй прызначан сметнік.
Дык не будзь, Сымоне,
Падобен вароне
І не круці носам,
Слухай ты старога,
Не кажы пустога...
Ды... змагайся з лёсам! —

Хлопчык слухаў, ды не верыў:
Лжэ ён, гэты стары пень,
І дзядоўскія намеры
Ясны хлопчыку, як дзень.
І Сымон даўно заўважыў,
Як дзед пазухі бярог,
Як размовы меў аб кражах,
Як казаў аб зладзяёх.
— Ці дзед хвор? — пытаў хлапчына, —
Што хапаешся за бок?
— Дый не дуж такі, браток. —
Крэхча хітры старычына,
Стогне, войкае нарокам,
Як-бы й праўда, што баліць,

А ў старога там, за бокам
Срэбра цэлы спрат ляжыць.
Вось ён байкі выдумляе,
Як зладзеяў моцна б'юць,
Што за доля іх спаткае,
Калі ў пекла пападуць.
Як іх толькі не ўшчуваюць:
Вараць іх чарты ў катлох,
Скуру кіпцямі здзіраюць
З іх зладзейскіх рук і ног;
Б'юць у спіну бусакамі,
І жывое мяса рвуць,
І па пальцах малаткамі
Жараць, косці іх таўкуць.
А найгорай тым трапляе,
Хто няшчасных жабракоў
Крыўдзіць або абкрадае —
«Не сказаць — каб я здароў!»

IV

Быў якраз пачатак мая.
Ну й была тады вясна!
Ось такая, што бывае
Можа ў сотні лет адна:
Было ў меру ўсё і ў пору:
Дождж пройдзе, зноў цяпло,
Травы, краскі гнала ўгору
На прастору, на святло.
Выйдзеш з хаты надасвеце,
Так і піў-бы дух зямлі.
І раслі-б, здаецца, дзеці,
Каб іх кінуць на раллі.
А дзянёчак як настане,
Тая ранічка вясны!
Кропля роскі на каштане
Блеск запальвае дзіўны;
У ёй зорчын смех блукае,
І вясёлкі ў ёй дрыжаць,

А лес радасцю гукае,
Шчасцем вее сенажаць.
А вакол так ціха-гожа,
А паслухаеш — чутно,
Як расце трава і збожжа —
Нівак свежае руно.
І з зямлі празрыстым парам
К небу ўзносіцца туман,
Як малітва сонцу, хмарам,
І дрыжыць, гарыць пажарам
Скат узгоркаў і курган.
Ну, вясна была на дзіва!
Не, Сымонку не забыць
Той вясны, пары шчаслівай,
Покі ў свеце будзе жыць!
  То было нейк у суботу.
Слаўны выдаўся дзянёк!
Моцна парыла, а потым
Стаў павейваць вецярок
Ды густы, падуў з заходу
І засценьваў неба край.
— Будзе нейкая прыгода,
Ходу, хлопча, падбаўляй, —
Ці не пройдзе дождж, глядзі ты:
Млявасць чуецца, цяжар;
Так і спаў-бы, як забіты,
І так парыць, такі вар,
Што насілу цягнеш ногі,
Хоць лажыся дзе пад плот. —

  Дзед з Сымонкам шлі дарогай
Між палёў у свой абход.
— А ўжо сонца невысока,
Не мінуць-бы хутароў.
Бачыш ты іх? Ці далёка?
— Тут, дзядок, няма двароў, —
Паглядзеўшы, хлопчык кажа,
Зноў маўчком яны ідуць:
А на захадзе, як сажа,
Хмары цёмныя ўстаюць,

І варушацца клубы іх,
Як жывыя
І сівыя,
Нібы голавы на шыях
Нейкіх волатаў дзіўных,
З багна неба насланых,
Ды, як змей многагаловы,
Націскаюцца цяжэй;
Глушыць землю шум іх мовы,
І выконвае ім словы
Гром выразней і мацней.
Ідзе хмара. Бліскавіцы
Палыхаюць і гараць.
Сам пярун там грозналіцы
Перайшоў зямлі граніцы
І вядзе над ёю рацць.
Лук яго з маланак звіты;
Хмара — шчыт, а стрэлы — гром,
Бура — конь многакапыты;
Ён віхрамі апавіты,
Неба ўсё яму шатром.
І ўсё ніжай і ўсё ніжай
Абвісае хмар страха,
І ўсё грозней ды ўсё бліжай
Гром, зачаўшыся сціха,
Забушуе, бухне ў боры
Гукам-грукатам пярун
І пагоніць гуды ў горы,
Гне лясы, гудзе лясун,
Як гудзе струна гітары.

Пазіраў Сымон на хмары.
Што-ж яны там выраблялі!
Як клубіліся яны!
Як маланкі іх аралі!
Як траслі іх перуны!
— Дарма выбраўся ў дарогу.
Дзе-ж схавацца нам цяпер?..
Вер у бога, але богу
Не заўсёды, браце, вер!

Дзед ісці хутчэй стараўся
І Сымона падганяў,
Шоў, на момант прыпыняўся,
Хаты поглядам шукаў.
— Ну, грымоты, ай, грымоты!
І ўвалье-ж нам, ого-го!..
— А скажы, дзядок: чаго ты
На гром хрысцішся? чаго?
Толькі блісне бліскавіца,
Ты і хрысцішся? Чаму?
— Ты, Сымон, яшчэ дурніца,
І тлумач усё яму.
А затым, каб злога духа
Гэтым крыжам адагнаць!
Як-жа гэтага не знаць?
Каб не лез злы дух, псяюха,
Бо Ілья яго, паганца,
Лупіць стрэламі грамоў,
Раз'язджаючы ў маланцы
Над зямлёй між аблакоў;
Вось ён схованкі шукае
Пад хрышчонаю душой,
Бо па свеце чорт блукае,
Каб пакепліваць над ёй. —
Хлопчык слухаў у здзіўленні,
Вочы кідаў на карчы,
А ў пужлівым уяўленні
Ўсталі чэрці-рагачы.
Унь на дзераве з бярозы
Рожкі вытыркл і хвост,
Штось пабегла там у лозы,
Нешта скокнула пад мост.
А што там у пні за дзіва?
Вушы, нос і капыток...
Ну, напэўна там чарток
Прытаіўся палахліва.

А па хмарах на маланках
Громы кідае Ілья,
Аж калоціцца зямля,
Цёмна стала на палянках.

— Дзедка, бачыш, унь сядзіба,
Па-над лесам хутарок!
— На ачосы пойдзем хіба,
Ды хутчэй, хутчэй, сынок. —

Са шляху яны звярнулі,
Нацянькі ідуць мяжой.
Хмары-ж неба апранулі,
Даль закрылася імглой.
Як жывое срэбра, важка
З хмар пярэдніх дождж упаў;
За маланкай следам цяжка
Гром страшэнны загучаў.
І, здалося, не стрымала
Хмара цяжару грамоў,
Раптам ставы разарвала,
Нібы лёд рака ўзламала
І пабегла з берагоў.
Слепіць вочы бліскавіца,
Бура, громы, навальніца,
Па зямлі бягуць крыніцы...

Вайшлі ў хату дзед з Сымонам,
Чэсць далі гаспадаром,
Старасвецкім «пахваленым»
Прывіталі гэты дом.
Стаў Сымонка каля лавы,
Хату поглядам абвёў,
А халацік безрукавы
Цёк у дзесяць ручаёў.
Загарэў, бядак, ад сонца,
Твар лушчыўся і лінаў,
І мізэрна так бясконца
Гэты хлопчык выглядаў!
Толькі вочкі асвячалі
Твар зпмораны, худы
І так многа прыдавалі
Хлопцу гора і нуды.
І было ў іх задумленне
Не дзяціных яго лет,
І адбітак засмучэння

Палажыў на вочы след.
І той погляд раз даволі
Хоць на момант улавіць,
Каб ужо яго ніколі,
Назаўсёды не забыць,
Бо жыццё прайшло няскладна
Па дзяцінай паласе, —
І на хлопчыка ўспагадна
Пазіралі тут усе.
— Што, дзядуля: гэны блазан
Свой табе, чужы, ці як?
— Не, панюхна, не сваяк, —
Так нядоляй са мной звязан.
— А радню-ж якую мае,
Ёсць бацькі, ці сірата? —
Хлопчык вочы апускае,
Падаецца ў бок кута.
— Як сказаць вам? збег ён з дому!
Выгнаў бацька яго вон.
Што-ж было рабіць маломў?
І са мною ходзіць ён —
Тут на хлопца вочы строга
Сам ускінуў гаспадар.
— Бацька выгнаў? бойся бога!
Эгэ, ты, відаць, штукар!
Што зрабіў ты, прызнавайся?
Мусіць, печаны ты гад?
— Кінь ты, бацька, не чапляйся!
Мажа ён не вінават, —
Кажа ціха гаспадыня: —
Што карыць яго дарма?
Ад дабра свой дом не кіне,
Добра ведаю сама. —
Як заплача тут хлапчынка!
Як прарвецца яго жаль!
Аж дрыжыць ён, бы націнка —
Ну, канчаецца амаль,
Бо ён першы раз, няшчасны,
Слова жаласці пачуў;
Слова ласкі, погляд ясны
Сэрца хлопцу павярнуў.

Стала ў хаце ўсім нялоўка,
Бо пачулі чэрствасць, стыд,
Бо з-за ласкавага слоўка
Гэтак плакаў ён наўзрыд.
— Сціхні, годзі, а то брыдка:
Хто не бачыў тваіх слёз? —
Дзед тузнуў яго за світку,
За плячук яго патрос.
— А чыя-ж то скрыпка гэта? —
Зноў спытаўся гаспадар.
— А яго! О, граць ён мэта:
Першай гільдыі штукар!
Ну, Сымон, утні ты, браце,
Хай паслухаюць паны! —
Зацікавіліся ў хаце, —
Больш Сымон ім стаў дзіўны.
Ён уцёрся кулачкамі
І ўжо плакаць трохі сціх,
Больш вясёлымі вачамі
Ён акінуў тут усіх.
Мімавольна і выпадкам
Чыйся погляд ён спаткаў,
Хтось сачыў за ім украдкам
І вачмі вачэй шукаў.
Ён ніколі не забудзе,
Покі жыць на свеце будзе,
Пары ясненькіх вачок,
Тонкіх бровак, тварык ветлы,
І на губках такі светлы,
Такі добранькі смяшок.
Ён яшчэ раз вочкі ўскінуў,
Зноў той погляд улавіў.
Тут Сымонка скрыпку вынуў,
Чуць галоўку пахіліў
І зайграў, ды так прыўдала,
Як ніколі не іграў,
Скрыпка нібы вымаўляла —
Душу радасць авявала,
Душу смутак ахінаў.
Змоўклі ў хаце ўсе дазвання —
Зачароўваў ён усіх,

Толькі зрэдку, без пытання,
Сам сабою чуўся ўздых.
Галаву рукой апёршы,
Гаспадар прысеў за стол,
Нерухомы, бы абмёршы,
Апусціўшы вочы ў дол.
Гаспадыня, як стаяла,
І застыла так, маўчыць,
Бы яе штось прыкавала,
На твары сляза блішчала,
А струна гучыць-гучыць!
Грае хлопчык ды часамі
Кіне вочкі ў той куток,
Каб спаткацца зноў вачамі
З парай ясненькіх вачок.
А яны глядзелі пільна,
І ўспагадна, і прыхільна,
Ды так міла, ды так гожа,
Як дзяўчынка глядзець можа.
Ад тых вочак шлі праменні,
Сэрца лашчылі цяплом,
Адганялі мрок-суценне,
Душу цешылі святлом.
І тады струну раптоўна
Ажыўляў вясёлы тон,
Плаваў смык той лёгка-роўна
Ды з струнамі палюбоўна
Вёў суладны гоман-звон.
Так на полі ў вечар мая
Ветру лёгенькі павеў
Чуць калосікі гайдае
Ды з іх гутаркі складае
Нейкі гожы-ціхі спеў.

Скончыў ён, а вобраз грання
Жыў, звінеў яшчэ ў душы,
Як той голас развітання,
Што гучыць табе ў цішы.
— Хлопчык, родны ты мой, мілы!
Як-жа граеш ты, браток!

Як завешся ты, пахілы,
Залаты мой ты чаўнок? —
Хваліць хлопчыка малога
Гаспадар на ўсе лады.
— Ну, хадзі за стол, нябога;
Сядзь і ты, стары, сюды,
Пасілкуйцеся з дарогі...
Ты знімі, дзед, свой мяшок! —
Крэхча, дзякуе убогі:
— Не турбуйцеся, панок!
От прысяду я тут з краю,
Хай вас бог усіх цаліць...
Я, панок, нашто хлусіць, —
Надта хлопца паважаю,
Слаўны хлопец, малайчына,
Як-бы ў ім мая ёсць кроў,
І гляджу яго, як сына,
І люблю, каб я здароў!
— Але ён худы да змору...
Што-ж, Сымонка, не ясі?
Ганна, збегай ты ў камору,
Сыру хлопцу прынясі! —

Дык то Ганна! Ну й дзяўчынка!
І прыўдалая-ж яна!
Станік тонкі, бы націнка,
Тварык — ветлая вясна,
А як гляне, вочкі ўскіне,
Усміхнецца — ясны дзень!
Хоць якая злосць астыне,
Раптам згоніць з твару цень.
— Ну, частуй музыку, Ганя! —
Застыдзілася яна,
Як цвет маку, ўся дазвання
Шчочка стала чырвана.
Але вочкі ускідае
На Сымонку ды ізноў
Іх саромліва спускае
І ніяк не знойдзе слоў
Папрасіць яго, як трэба.

І Сымонка сам не свой:
З сырам сыр есць замест хлеба,
Трэ галушачкі рукой,
Ніжай гне свой стан сірочы,
Рук не знае, дзе падзець,
І не смее ёй у вочы
Смела, проста паглядзець.
Дзед тым часам твар жагнае,
Вочы ўзняўшы к абразом,
І прад імі выслаўляе
Ён прыветны гэты дом.
— Дзякуй вам за падвячорак! —
Кажа ён гаспадаром.
— Ну, Сымон, да першых зорак
Можа ў Ліпы сціганём? —
Хлопцу стала нейк маркотна.
— Пойдзем! — кажа, і ўздыхнуў,
І падняўся ды гаротна
Хату тую азірнуў.
І заныла, так заныла
Сэрца беднае яго!
І журбота падступіла,
А па чым яна? чаго?
Зноў ісці жабрачым шляхам
І жыць гэтак дзень за днём,
Калі тут, пад гэтым дахам,
Ён авеяны святлом!
— Тут начуйце, хто вас гоніць?
Унь на небе колькі хмар!
Ды ўжо й позна, — ім гамоніць,
Іх спыняе гаспадар:
— Клуня блізка, і на сене
Можна добра адпачыць,
Чым вы мелі па калені,
Гразь папоцемку мясіць.
— О, няхай вам бог спрыяе!
Нам абы які куток,—
Кажа дзед ды зноў знімае
Свае торбы і мяшок.

V

Адгрымелі час свой громы.
Гром-пярун імчыцца далей
З грознай раццю грознай хваляй,
А па лесе бураломы
Засталіся нерухомы;
Хто ўцалеў, маўчыць зацята,
Толькі дуб над трупам брата
Роніць з лісцяў слёзы жалю.
Дзесь на ўсходзе нікнуць хмары,
Дзесь адсвечваюць зарніцы
Блескам-ззяннем таямніцы;
Скаліць зубы слуп пажару —
Бляск над лесам, дзе стажары,
Там няшчасце, там згінота:
Нехта спален з тых грымотаў,
Спален свечкай бліскавіцы.
А ў бяздонні пас бліскучы,
З туманоў і зор сатканы,
У нябесных лёг палянах;
Там зліліся зоры ў кучы.
Неба ззяе, неба дыша,
Як-бы нейкі напіс піша,
Неўчытаны і цякучы.

Лёг Сымон з дзядком на сене —
Не змыкае вочак сон:
Перад ім плывуць, як цені,
І ўстаюць з усіх старон,
Як улетку хмаркі тыя
Над прасторамі палёў,
Думкі-вобразы такія,
Для якіх не знойдзеш слоў,
Каб іх выказаць дакладна
І ўлавіць іх рух дзіўны;
То трывожна, то павабна
Звалі-клікалі яны.
І адзін з іх, вобраз Гані,
Ад усіх ясней-ярчэй
Ззяў, бы зорачка ў тумане,

Мілым усмехам вачэй.
Ён і вабіў, і смяяўся,
Ён гарнуў к сабе, ён зваў,
Краскай майскаю вагаўся,
Нейкі голас падаваў.
І ў Сымонкі гожа ў сэрцы
Песня пелася сама:
Адчыніць ёй трэба дзверцы —
Ёй спакою там няма,
Хоча вырвацца з палону,
Каб парушыць гэты сон.
Волі песням і разгону!
Здзек над песнямі — прыгон!

І не можа хлопчык зладзіць
Сам з сабою, каб не граць.
Ён ціхутка з торпу злазіць —
Волю сэрцу хоча даць.
Ноч зямельку агарнула,
Лісцік дрэмле, спіць трава;
Краска лісцечка згарнула,
Дзесь кігікае сава.
А над цёмнай паласою,
Дзе стыкаецца з зямлёю
Край далёкіх небясоў,
Бы па слову чараўніцы,
Вочы ўскідваюць зарніцы
Над зямлёй паўзверх лясоў.
Погляд тых вачэй іскраных
Мрок калыша, мрок дрыжыць,
Ды завесак тых цямраных
Ён не думае злажыць,
Каб не страціць панавання,
Каб закрыць дарогу дню,
А Сымонка слаў вітанне
І вачамі на спатканне
Ён імкнуўся да агню.
І па струнцы па шаўковай
Тромкнуў пальчыкам Сымон, —
Адазваўся песняй новай,

І панёсся стройнай мовай
Чуткіх струн удалы звон.
І казалі струны тыя,
Струны чуткія, жывыя:

Як прыгожа-павабны вы, зоры!
Нібы высыпаў іней агністы,
Нібы пацерак шнур прамяністы
Асвятляе глыбіны-прасторы.
Ці не вам чэсць-хвалу даюць горы
І бясконцыя моры
Даляў сонна-імглістых?
Ці не вам гэтых хмарак зарніцы
Песень блескаў звіваюць вяночкі?..
Выплываюць з усходу чаўночкі.
Слугі сонца і яснай дзянніцы,
Каб дзяньку адчыніць акяніцы, —
Адсланяе граніцы
Гэта песня паўночна.
Быць хацеў-бы я сонцавай коскай:
Зазірнуў-бы я ў надзор'е;
Я гаманіў-бы з чыстаю роскай,
Я-бы каціўся з хмарчынай слёзкай,
Я-б крынічкай бег з сузгор'я
І праз гэты цёк-бы двор я.

Зоркі ў небе — неба вочкі,
Месячык — вартаўнічок,
Хмаркі — ветравы сарочкі,
Неба шыр — пастаўнічок,
Дзе ноч-цьма снуе красёнцы,
Дзе чаўночак ладзіць сонца,
Каб усплыў на іх дзянёк.
А зарніцы — пыл агнёвы
З панадземнага гарна;
Громы — водгулле размовы
Бліскавіц і перуна;
Знічка — зорачак кананне,
А вясёлка — выплыванне
Златадзеннага чаўна...

Але — ша! там штось мільгнула,
Голька шурхнула лістком!
Пад парканам каля шула
Штось стаілася цішком!
— Хто там? — ціха ён пытае.
— Гэта я, Сымонка, я!
Цьма парушана пустая.
— Не палохайся — свая! —
І як козачка лясная,
Бы той лёгкі матылёк,
Ганна вішні расхінае.
Ён назад ступіў на крок.

Ганна.

Скрыпку ўчула, не стрывала
І, схаваўшыся ў кусты,
З поўгадзіны тут стаяла, —
Вельмі-ж добра граеш ты:
Век-бы слухала, здаецца! —

Так гаворачы, яна
Села радам з ім, смяецца,
Ціхай радасці паўна.
Хлопчык здзіўлен, ён бязмовен,
Ён таксама шчасця повен.

Ганна.

Чаму-ж ты маўчыш, Сымонка?
Ці пашкодзіла? не рад?

Сымон.

Мне здаецца — ўзышло сонка,
Асвятліла гэты сад,
Бо ты добрая, з душою,
Ты ўся свецішся дабром,
І здаецца, што з табою
Я даўно-даўно знаём,
Бо душа душы шукае
Бо ёй цяжка на зямлі.

Ганна.

Не хвалі; я не такая,
Не, мяне ты не хвалі!..
Паіграй!

Сымон.

А як прагоняць?..
Лепей так пасядзімо;
Няхай ноч адна гамоніць,
Няхай граецца само.

Ганна.

Хіба-ж ночка голас мае?
Ночка проста — ноч і цень,
Калі ўсё адпачывае,
Ноч тады, як згасне дзень.

Сымон.

І ні разачку ніколі
Ты не чула, як жыва,
Галасоў начных у полі,
Ці як шэпчацца трава?
Як у лесе дрэва з дрэвам
Ціха, важна загудзе,
І як жыта шумам-спевам
Мову-песню павядзе?
Ось прыслухайся, Ганусе,
Ды навокала ты глянь...

Ганна.

А мне страшна, я баюся...
Можа гэта толькі здань,
Або нечысная тхлань?

Сымон.

Ты не бойся: не пасмее
Злыдзень нават падступіцца,
Бо дабром і згодай вее,
Ён той згоднасці баіцца.
Спіць усё, а дух сусвету
З духам лучыцца зямлі
І адводзіць ліхасць гэту,
Каб шчаслівы ўсе былі.
І ўсім добранька: раслінкам,
Пташкам, рыбе, і звяром,
І тым беленькім хмурынкам,

Дзе грымеў нядаўна гром,
І тым зоркам нерухлівым,
І тым зоркам, што дрыжаць,
І прасторам тым маўклівым,
Што над зорамі ляжаць;
І цяпер, у часе згоды,
Хоры песень іх чутны,
Голас нейкай асалоды.
Мы жывём — жывуць яны!

Ганна.

Я не ведаю нічога!
Ты-ж гаворыш, бярэ дзіва.
Так, на свеце ўсяго многа,
Як размысліш унікліва
І падумаеш над гэтым.
А скажы: і краскі жывы?
Ім баліць, як рвеш іх летам?

Сымон.

Ну, напэўна, балець будзе,
Можа нават яны плачуць,
Толькі слёзак іх не бачаць,
Ці не хочуць знаць іх людзі!

Ганна.

Ах, Сымонка, вось цікава!
Я не буду рваць іх болей:
Хай жывуць сваёю доляй,
Бо на гэта маюць права...
Як дазнаўся-ж ты, спытаю,
Аб жыцці тым, што за намі?

Сымон.

Я так, Ганя, адчуваю,
Бачу ўласнымі вачамі.
Быў я меншы, жыў я з дзедам,
Ды не з гэтым, а з другім,
І ён многа чаго ведаў,
Шмат гутарылі мы з ім.
Ён і скрыпку даў мне гэту,
Навучыў вадзіць смыком.

Ён памёр у канцы лета,
Я-ж вандрую жабраком...

Ганна.

Ты — жабрак! Чаму-ж так стала?
І ці-ж гэта справядліва?
Ты павінен жыць шчасліва,
А табе разгону мала?..
Мне так шкода цябе, шкода:
Ёсць бацькі, ты-ж сірата!..
Твая долечка люта,
І пагана, ох, прыгода!

Сымон.

Можа так, а можа й не:
Служыць шчасцейка і мне.
Вось паслухай, зрабі ласку:
Раскажу табе я казку.

«То няўдалы,
Непрыкметны быў дубок,
Нехлямяжы, заняпалы
І пахілены набок.
Хто быў дужшы і праворны,
Той грунт лепшы карыстаў,
А слабейшы і пакорны
Жыцце толькі марнаваў.
Дрэвы ўсе раслі, таўшчалі,
А закіданы дубок
За нямашто зневажалі,
І ён быў так адзінок,
Змізарнелы і адметны,
Для другіх дубоў чужы,
З ім быў кожны непрыветны,
Як той камень на мяжы.
Збоку глянуць — дуб нікчэмны
І не варты нікуды.
Ды чужы свет патаемны:
Хто зірне ў нутро, туды?
А ў яго быў кут багаты
Думак розных, спеву, сноў,

Казак вугал непачаты,
З ім парады ветрык вёў,
З ім размовы мелі хмаркі,
Перасмейваліся з ім,
Плывучы ў адзенні яркім,
Тканым сонцам залатым;
З ім улетку, дзень і ночку,
Булькаў светлы ручаёк,
А з палёў, з лясоў дубочку
Нёс навіны матылёк.
Углыбіўшыся ў плынь свету,
З тым злучыўшыся жыццём,
Часта ў жаль яго адзеты,
Ён зрабіўся песняром.
І спяваў ён так прыўдала
У той час, як свет сціхаў,
Што аж неба замірала,
І зямля ўся замаўкала,
І дух згоды ахінаў
Тады ўсё яе стварэнне,
І ўсё слухала той спеў;
Чэзла зраднае насенне,
І знікалі злосць і гнеў.
Ажывала ноч глухая,
Зноў займаўся ясны дзень,
Затраслася сіла злая,
Чуе — кепска: згіне цень.
Сціхла песня — цёмна стала,
Згаслі ўраз усе агні,
І сякера заблішчала
Пры дубовым карані!
Ссеклі злыдні дзіва-дрэва,
Сэрца вынялі з яго,
Каб не чулі болей спеву
Найдзіўнейшага таго,
А дубок без сарцавіны
Злосна кінулі на дол.
Змоўклі песні з той часіны,
Смутна стала навакол;
Толькі зрэдку на світанні,
Як павейваў вецярок,

Журба чулася, стагнанне, —
Плакаў ссечаны дубок.

Шоў тым месцам падарожны,
І спыніўся: чуе ён —
Ні то голас чый трывожны,
Ні то струн балючы звон.
Агляну́ўся — нікагутка.
Бліжай к дрэву ён ступіў —
Што за дзіва? што за чутка?
Дуб жалобна галасіў,
Як-бы скаргу слоў на кога
Ці на долю наракаў.
Падарожны з дуба тога
Дудку жыва змайстраваў
І пайшоў у свет ён божы
З тою дудкай жабраваць.
Але ўжо не так прыгожа
Гэта дудка стала граць.
Бо не тое на ёй гралі,
Чым душа яе жыла,
Бо яе дар зневажалі,
Бо нявольніцай была.
Смуткавала дудка тая
Аб тых родных каранёх,
Аб праўдзівых песнях краю,
Мілым лузе і палёх.
Толькі-ж раз яна пачула
Родны голас, родны зык:
Воля, ласка ёй вярнула
Злымі выняты язык.
А за момант ласкі, волі
Ўсё гатова даравань,
І за гэта сваю долю
Стала дудка выслаўляць.
А як волю ўсю пачуе,
Дрэва тое ажыве,
Песня-радасць запануе,
У прасторы паплыве,
А на тых яго карэннях
Дрэвы новыя ўзрастуць

І другому пакаленню
Тую песню дапяюць».

Скончыў хлопчык казку-гора
І галоўку пахінуў,
Зноў Сымонку, як учора,
Нейкі смутак агарнуў.
Ганна слоўка не ўраніла
І маўчала, як і ён,
Бы жуда іх ахапіла,
Надышла з усіх старон.
І раптоўна Ганна ўстала,
Міг — памкнулася маўчком,
Абняла, пацалавала
Крэпка-крэпка і прапала
У садку за вішнячком.
А на ўсходзе чырвань грае,
Цень радзее, нікне мрок,
І зямелька ўжо вітае
Новы радасны дзянёк.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,

Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?

Гэй, адвечныя курганы,
Сведкі прошласці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю-рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Эх, не скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі!
Вы пуцінаю няроўнай
Бежыце ў далечыню,
У бок Віліі чароўнай
І пад светлую Дзвіну.

Край мой родны! Дзе-ж у свеце
Край другі такі знайсці,
Дзе-б магла так, поруч з смеццем,
Гожасць пышная ўзрасці?
Дзе-бы вобруку з галечай
Расквітнеў багацтва цуд,
І дзе-б з долі чалавечай
Насмяяліся, як тут?..
Скрозь вяночкі дрэў вясёла
Над мястэчкам ці сялом
Цэрквы, стромкія касцёлы
Вежы ўзносяць к небясом.
А званіцы перад святам
У касцёл, царкву завуць,
Каб «прад богам і прад братам
Віны ўсе свае пачуць».
Родны край! у божа імя,
У чэсць косцелаў, царквоў
Паміж дзеткамі тваімі
Многа легла камянёў;
Многа вышла трасяніны —
Меч, агонь знішчалі край:
З двух бакоў «айцы» дубінай
Заганялі нас у рай!

Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
І цяпер над намі, брацце,
Яшчэ ў сіле той раздор —
І папоўскае закляцце,
І ксяндзоўскі нагавор.

Брацце мае, беларусы!
У той кнізе людскіх спраў
Сам лёс, мусіць, для спакусы
Гэты край нам адзначаў.
Тут сходзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесці на здзек,
Каб у віры той ашукі
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.
І лілася кроў нявінна,
Швед набытак наш паліў,
А ўрад царскі самачынна
Тут гвалтоўнасці тварыў,
Будаваў астрог народу
І барбарскім капылом
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс з калом.
І без жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў.

Родны край! ты разарваны,
І на захад ад мяжы
Пан пыхлівы, надзіманы

Моцна сцягвае гужы,
Каб з варшаўскае майстэрні
Беларусу сшыць халат,
Ды ні ксёндз, ні пан не верне
Плынь гісторыі назад!
Эх, чаго нам ні прышлося,
Брацце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, непрызнаных,
Неаплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!
Дык хіба-ж мы праў не маем,
Сілы шлях свой азначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

* * *

— Гэй, Сымон! Сымон! ты чуеш?
Сонца ўжо ўзышло — пара!
Ці забыўся, дзе начуеш?
Час нам выбрацца з двара! —
Дзед жабрак прачнуўся рана,
Будзіць хлопца. — Уставай!
Хварэць нечага на пана,
Хоць падзяку людзям дай! —
І збірае дзед манаткі
Ды бубніць сабе пад нос:
«Дзе-ж ён дзеўся, небажаткі?
Куды прах яго панёс?»
— Эй, ты чуеш? дзе ты згінуў? —
І няма адказных слоў.
Дзед трывожна погляд кінуў:
— Мусіць збег, каб я здароў! —
І затросся дзед ад страху,
Думка мозг яго ажгла:
«Абакраў, гад, і даў маху!»
І сама рука лягла
На мяшэчак пад пахвінай,

Але цэл той вузялок.
І мысленна прад хлапчынай
Тут пакаяўся дзядок.
«Але дзіва, што з ім стала?»
Сам сябе стары пытаў.
А тым часам сонца ўстала,
Промень першы завітаў
У гуменца з-пад шчыцінкі,
І ў палосцы залатой
Незлічоныя пылінкі
Закружыліся, як рой;
Пташкі-ластаўкі лятали
То на двор, то са двара,
Над гняздзечкамі снавалі
І так міла шчабятали,
Як-бы жычылі дабра.
Злез дзед з торпу ў замяшанні
«Дзе-ж падзеўся той Сымон?
Ці дзе ходзіць спазарання,
Непаседа-ветрагон?»
Абышоў дзед двойчы клуню,
Клікнуў раз, другі — няма!
І напала на дзядуню
Неадчэпная дума:
«Кінуў хлопец яго, кінуў!
Эх, не ўмеў з ім ладзіць ён!»
І шкада яму хлапчыны —
Збег музыка, збег Сымон!
— А дзе-ж хлопчык твой, дзядуня?
— Няма, панюхна, няма
Ні за клуняю, ні ў клуні,
Вось шукаю, ды дарма, —
Ну, знік проста, як кампора...
Ой, праспаў яго, праспаў!
Ой-жа ліха, гора, гора!
Я без хлопчыка прапаў! —
Гаспадар сам вышаў з хаты,
Устрывожыўся ўвесь дом,
Абышлі ўсе клеці, спраты,
Аглядзелі ўсё кругом,
Нават збегалі к суседу,

Каб напасці хоць на след, —
Не знайшлося нідзе следу,
Сіратою стаўся дзед.
— Ось, як-бы я страціў сына,
Так шкада, каб я здароў!
— Уцёк, дзедка, твой хлапчына
Да другіх гаспадароў! —
Ганна смутна і маркотна,
Яна думае аб ім.
Дзе-ж падзеўся ён, гаротны?
І куды пайшоў? за чым?
І чаму ён не паведаў?
Хоць-бы слоўка ёй сказаў!
Эх, нядобры хлопчык дзедаў, —
Свет дзяўчынцы завязаў!
А яна-ж аб ім гадала,
Думку марыла аб ім:
Ці-ж было-б тут свету мала?
Ён-бы й тут быў не чужым.
Папрасіла-б яна тату —
Так напэўна-б і было, —
Каб яго прыняць у хату
Ці прыстроіць дзе ў сяло...
А мо' ён дзе спіць на сонцы
У садку за вішнячком?
Ёй надзеі ткуць красёнцы
Залаценькім чаўначком.
І дзяўчынка ў той надзеі
Ідзе ў сад, ідзе сама.
Але там, на сонцагрэі,
Пуста ўсё, яго няма!
Пуста ў садзе і журботна,
Як-бы страціў нешта сад,
Нават лісцечка дрыготна
Шум вядзе на смутны лад.
А вось тут, пад гэтай грушай,
Ён сядзеў, а з ім яна.
Ён тут сэрца ёй парушыў,
Вымаўляла тут струна.
Вышла Ганна на дзядзінец,
Сэрца сцісквае туга.

Унь у свет бяжыць гасцінец,
Над ім сцелецца смуга.
Навакол ляжаць прасторы,
Тчэ ім наміткі туман,
І замлелі ў хлебным моры
Хвоя тая і курган...
Знаць, не вернецца ніколі,
Там чужыя рубяжы,
А на ростанях — тапалі
Ды збуцвелыя крыжы.
Куды-ж ён пайшоў? куды?
Дзе ляглі яго сляды?

Нікнуў зорак блеск халодны,
І святлеўся неба край;
Лёгкі пар, туман усходны,
Апяразваў лес і гай;
А Сымон, ачараваны
Гэтай раніцы красой
І выпадкам негаданым
Добрай ночкі веснавой,
Сам не ведаў, што з ім, дзе ён,
Проста чуў, што ён шчасліў,
Чымся новым быў авеян,
Новых сілак чуў прыліў.
Ён пазнаў тут асалоду,
Ён пазнаў тут новы свет,
То, чаго не ведаў зроду, —
Ласкай хлопчык быў сагрэт.
Ён цяпер, бы на граніцы,
На высокім рубяжы;
Па адзін бок — блеск дзянніцы,
Па другі — цьма, дзе ён жыў.
Ён цяпер — бядак, убогі,
Выклікае толькі жаль.
Ці-ж зачынены дарогі
У той край, у тую даль,
Дзе здабыць ён можа долю,
Шчасце талентам здабыць?
Ён жаданням дае волю,
Ён, як людзі, хоча жыць.

Азірнуў ён і абмерыў
Далі ветлыя палёў,
Сіле ён сваёй паверыў,
Зову новых галасоў.
І Сымонка азірнуўся
Кій-крывулю свой узяў,
У бок дому павярнуўся,
Ганну ў сэрцы павітаў:
«Будзь шчаслівa, краска-зорка!
Не пагардзіла ты мной
І ў маёй ты долі горкай
Будзеш зданню дарагой.
І вы будзьце ўсе здаровы,
Будзь і ты здароў, дзядок.
Няхай к вам з набыткам новым
Новы з'явіцца дзянёк!»

II

Я пайду, адзін пайду я.
Вольны вецер хай гадуе
Мае думкі, мае мары,
Мае песні, казкі-чары.
Я пайду, міну лясочкі,
Што чарнеюць, нібы бровы:
Там пабачу я свет новы,
Там пацешу свае вочкі,
Там другія ўчую словы...
Я міну, міну лясочкі.
За лясочкамі, за гаем
Далі, лёгшы сінім морам,
Вабяць душу мне прасторам
І чаруюць новым краем,
Клічуць к нейкім новым зорам
Далі, злеглыя за гаем.
На прасторы сэрцу люба!
Прывітаюць мяне краскі
І мне будуць баяць казкі,
Мне ўсміхнецца постаць дуба,

Чараў поўная і ласкі, —
На прасторы сэрцу люба!
Пабяжыць у свет дарога
Праз узгоркі, праз лагчынку;
Будзе ветрык гнуць былінку,
І навеюць думак многа
Мне пра мілую дзяўчынку
Далі тыя і дарогі.

Я пайду, адзін пайду я.
Няхай дзед сабе сярдуе:
Я яму цяпер не служка —
Сам сабе хачу быць панам,
Разлучыцца ўжо пара нам.
Вольным быць хачу, як птушка. —
Ціхай ранічкай, да сонца,
Хлопчык выбраўся з двара,
Ідзе ён у свет бясконцы
Пашукаць таго дабра,
Каб змяніць свой лёс паганы,
Новым спосабам зажыць,
Каб увагі і пашаны
Перад ёю заслужыць.
У Сымонкі планаў многа.
О, ён слаўна зажыве!
Гэта новая дарога
Родзіць мары ў галаве...

Па баках палі ляжалі,
Пападаліся гаі,
І дарогі прабягалі,
Чыста срэбра-ручаі,
І шчасліва беглі далей
Між высокіх беражкоў,
Гаманіла хвалька з хваляй
Спевам роўным галасоў,
Хлопцу ў душу закідалі
Водгук згоды і спакой;
Іх алешыны віталі
І ад сонейка хавалі,
Стаўшы дружнаю сцяной.

Беглі сцежкі між жытамі
Па пагорках, па лагох,
І ззяў гожа васількамі
Поля жытняга разлог.
Шоў Сымон адзін, свабодны
І нязвязаны нічым.
Чуўся ён і полю родным
І тым хмаркам веснавым;
І вітаў іх, ім смяяўся
Падарожны малады
І ціхутка ў іх пытаўся:
«А вы, мілыя, куды?
Дзеткі сонца і зямлі,
Клопат, думкі, — ўсё пазбыта,
Вас нягоды абышлі».
А дарога у пяць нітак
Павіваецца, бяжыць,
Наабапал з ёю жыта
Каласкамі гаманіць,
І бягуць-бягуць малюнкі
Поля, лесу і лугоў,
І ляжаць, бы тыя стрункі,
Зелень-засевы шнуроў.
А вось там, на павароце,
Дзе высокі крыж стаіць,
Яблык вежы ў пазалоце
Ззяе ў небе і гарыць.
Хлопчык дальш ідзе дарогай.
Сонца стала прыпякаць.
Развáжаць пачаў убогі,
Дзе-б спажывы пашукаць.
У бок сцежка павярнула,
Лёгшы зграбнаю дугой,
А з-за дрэў страха зірнула
І два коміны на ёй.
Падышоў Сымон — карчомка
Са стадолай і дваром.
Добра ўсім вядомы Шлёмка
Быў даўно тут карчмаром.
Шлёму лаялі і білі,
Ды не моцна, не са злом,

Бо яго такі любілі,
Не міналі яго дом.
І то: як з ім не паладзіць?
Як-бы ты ні быў з ім груб —
І пасудзіць і парадзіць
Ды і выпіць даць не скуп,
Абы толькі былі грошы,
Няма грошай — напавер, —
Адным словам, быў харошы,
Толькі й ты яму адмер.
Дык не дзіва, што да Шлёмы
Плыў народ, як у касцёл;
Шоў і свой, і незнаёмы,
З хутароў ішлі і з сёл.
Тут пасэсар, арандатар,
Дробны шляхціц, важны пан,
Хто папіць, гульнуць аматар,
Кожны міл быў і жадан.
Затрымаўся тут Сымонка:
Ці зайсці яму, ці не?
Паглядзеў — пуста скарбонка!
«А што зробіцца тут мне?»
Хоць нясмела, ды ступае
На карчомны ён парог
І са страхам азірае
Гэта логава-бярлог.
Удоўж сцен стаялі лавы;
За сталом — гурткі людцоў,
На сталах — сляды патравы:
Хлеб, агрызкі селядцоў.
Пры бутэльках гоман яркі,
Там і цесць, і сват, і кум;
З рук у рукі ходзяць чаркі,
А ў галовах бродзіць шум.
Пах гарэлкі, дым махоркі
Звіс пад столлю, як туман,
І ад смеху і гаворкі
Дрыгаціць карчма-майдан.
— Го, музыка тут, музыка!
А ну, хлопча, — тра-ля-ля!
Патанцуем, сват Грамыка,

Каб аж бухала зямля! —
А музыка — дух у пятах:
Як залучаць тут — бяда!
Людзі п'яныя — вар'яты, —
Аж бярэ яго жуда.
Але тут падскочыў Шлёма.
— Ну й чаго збаяўся ты?
Тут у карчме мы ўсе дома!
А ты-ж можа не святы?
Ідзі далей — месца хваціць,
Ну не бойся: не з'ядуць!
Паіграй-жа, пане браце,
У кішэню накладуць! —
Павярнуў Сымонка крута:
— А чаго-ж баяцца тут? —
Міг адзін, адна мінута —
Талент вынесе на суд.
Выняў скрыпку, смык падмазаў
Ды па струнах як павёў —
Ціха стала ўсё адразу,
Моўкне бура галасоў.
Павярнуліся галовы
У той бок, дзе граў Сымон,
І спыняе ўсе размовы
Гэтых струн прыўдалы звон.
Поўна карчма тога звону,
Ён яе рве берагі,
Іківае ў тахт Сымону
То адзін тут, то другі;
А як пусціць лад вясёлы,
Забірае рух мужчын:
Разгарнуў Грамыка полы,
Казака йдзе сам-адзін;
І самога нават Шлёму
Забірае гэты рух,
Падае кіўкі другому,
А сам кажа толькі: «Ух!»
Вышла Хава, дзецяняткі
Пазбягаліся сюды,
Ходзяць плечы іх, лапаткі
На вясёлыя лады.

Кончыў граць, скідае шапку —
Даказаў сваё-ж такі!
І працягвае ён лапку, —
Зазвінелі медзякі.
Адараюць хлопца шчыра
І грашыма і дабром,
А Грамыка даў поўсыра
І дзесятку серабром.
А ў агульным шуме-крыку
Выхвалялі яго ўсяк:
— Чый ён, жэўжык? Ось музыка!
Ось, псякроў яго, мастак! —
Першы крок — пачатак справы,
Слова — Шлёмы самаго.
Штось прамовіўшы да Хавы,
Ідзе Шлёма да яго.
— Слухай, хлопча, мой малойчык!
Хочаш нештачка ты знаць?
Да мяне зайдзі ў пакойчык:
Маю штось табе сказаць. —
Што-ж ён скажа? знаць цікава!
Трохі цяміць і Сымон,
Бы й на лад выходзіць справа,
І ў пакойчык ідзе ён.
Зашчаміўшы грошы ў жмені,
Ён вайшоў у той пакой;
У пакоі страхаў цені
Мільгатнулі талакой.
Вочы ўзняў ён, што за дзіва?
А які-ж там гэта дзед?
Чаго ён глядзіць так скрыва?
І дзіўны-ж такі партрэт!
Пойдзе ўлева, стане ўправа, —
Рабін поглядам жывым
Так і цягнецца за ім!
Вось праява, дык праява!
Хіба ўгневаны ён чым?
Але валіць тут кагалам
Племя Шлёмава ў пакой
І пастала цесным валам
І гудзе наперабой

То з Сымонкам, то з сабою,
А з іх самы дасціпны
Бярэ скрыпку і рукою
Дакранаецца струны;
І не рад Сымон той чэсці
І кампаніі такой, —
Хоць-бы ногі як унесці,
Ґорш астрога той пакой!
А той Хаім змайстраваўся,
Каб і смыкам павясці, —
Тут Сымон усердаваўся
Ды стаў Хаіма трасці.
Хаім толькі скаліць зубы,
Скрыпку ўжо бярэ Абрам.
— Го, Абрамка! го, мой любы!
Скрыпка кажа — ці-ра-рам?
Ён да скрыпкі здольнасць мае...
Ну, пайшлі вы! вон! авэк! —
Шлёма новы тон прымае,
Шлёма — спрытны чалавек!
— Вось паслухай мяне, Шлёму:
Знаю, хлопча, я твой хлеб!
Кепска жыць вось так, без дому, —
Я ўсё бачу, я не слеп.
А ты-б мог жыць так, як трэба,
Мець прыпынак, пэўны кут,
І па бораду мець хлеба
І не мець вось гэты бруд.
На табе-ж адно лахмоцце, —
Уй, які халат-рызман,
На цябе зірнуць страхоцце,
І сам высах, як таран.
Трэба-ж справіць і адзенне,
І мець боцікі ў запас,
І да квасу мець, і квас, —
Трэба ў грунт пусціць карэнне;
Трэба-ж нешта мець на мэце,
Калі маеш тут цара,
А не шворыцца па свеце,
У двор ходзячы з двара.
А што выхадзіш? нічога!

Проста... нельга тут маўчаць! —
І пачаў, пачаў малога,
Як той бацька, навучаць.
— Хочаш быць ты чалавекам?
Хочаш мець прыпынак-кут?
Заставайся ў мяне тут!
Пад маёю будзь апекай.
У мяне бываюць людзі,
Ды не простыя — паны,
Любяць музыку яны;
Вечарынка часам будзе,
А ты возьмеш сабе скрыпку —
Цім-та! цім-та! Ці-лі-лі! —
Шлёма рукі ўскінуў шыбка,
Як-бы струны там былі,
А ён сам мастак-музыка,
Аж Сымона бярэ смех.
— Ну, турбота невяліка,
І адмовіцца тут грэх!
Дык якое тваё слова?
Ну, падумай і скажы!
— А што-ж? граць мне ўжо не нова,
Скрыпка, смык мне не чужы,
І я згодзен быць у пана,
Я застацца тут гатоў! —
Так Сымонка негадана
Там прытулішча знайшоў.

III

Дом карчомны быў вялікі,
Месца хваціць хоць каму,
А тым болей для музыкі:
Чаго-ж трэба больш яму?
Кухня будзе сем на дзесяць,
Там ёсць печ, за печчу кут.
Хоць прусы там куралесяць,
Але Шлёма сказаў: «гут!»

Што там добра? — цёпла, суха,
Спі сабе, як добры пан,
А што ходзіць прус-псяюха
Або злодзей-таракан, —
Пагадзіцца з гэтым трэба:
Многа ў свеце валацуг,
Жыць дазволіла ім неба,
Іх не возьмеш на ланцуг.
У той кухні меў пасаду
Шлёмаў парабак Яхім;
Хлопца ўзяў ён пад уладу
І памог яму сім-тым.
— Ось цяпер ты князь ды годзе!
Пазайздросціць сам прусак,
Той, што ў шчыліне-гаспадзе
Век праводзіць, небарак, —
Жартаваў Яхім з музыкі,
Як абладзілі пасцель:
— І сам Шлёма, пан вялікі,
А яшчэ большы круцель,
Так не будзе з сваёй Хавай
І ў пярынах спачываць. —
Так казаў дзяцюк рухавы,
Бо любіў пажартаваць.
Агню няма.
У кухні цёмна.
Спіць Яхім,
А думкі-дым
Плывуць сукромна,
Як і цьма.
Не спіць Сымон.
Карчма варожа.
Рабін там
І Шлёма сам.
Тут нейк нягожа,
Не йдзе сон.
Але дарма —
Пяройдзе ночка,
Будзе дзень,
І нікне цень
У тым куточку,

Нікне цьма.
Яркім светам,
Агняцветам
Свеціць штосьці, —
То — Яна!
І з усмешкай
Думак сцежкай
Прышла ў госці,
Бы вясна!
Скробат мышкі,
Крокат вышкі,
Кашаль сценны,
Звон крыла.
А яна з ім
Ходзіць разам
Блескам дзённым...
Прэч, імгла!
Яны ўсюды
Толькі ў пары,
    Але імі
    Повен свет.
    Песні-гуды,
    Думкі-чары...
    Яе імя —
    Агняцвет!
І падхопяць зноў Сымонку
Думкі-мары, мыслі-сны
Ды ў яе нясуць старонку,
Дзе спаткаліся яны.
У вачох — садок прыветны;
Ён авеены дабром,
Звіс над ім спакой сусветны
Дыямэнтавым шатром.
А ў шатры тым — зор блісканне,
Спеў музычны цішыні,
Мілы голас, вобраз-ззянне,
Вочак промені-агні.
А ва ўсім тым карагодзе
Думак-вобразаў і мар
Выкрадаецца, як злодзей,
Цемнік-сон, сон-уладар.

І хлапчынка ўжо не знае,
Дзе тут сненне, дзе тут яў,
Дзесь далёка дух лунае, —
Крыллі сон яму разняў.
У аправе кос іскраных
Дзень выходзіць з-за зямлі,
Яснавокі і румяны,
Паліць свечачкі ў галлі
І пучочкамі скрозь лісце
Разлівае ззянне-смех
Для супольнае карысці
І для радасці і ўцех.
Ён зірнуў і ў кут Сымонаў
І сказаў, відаць, па дружбе,
Што Сымонка тут на службе,
Каб службовы доўг выконаў
Ён пасцельку прыбірае,
Думак поўна галава,
Ён над службай разважае —
Што-ж за служба? Якава?
А тым часам вышла Хава,
Аддае такі загад —
Кухню вымесці рухава,
На двор выгнаць куранят.
Так зачаўся дзень тут новы —
На паслугах хлопчык наш:
Ён па воду, ён па дровы,
Ён і ў пограб, і ў салаш.
І сам Шлёма дасць работу,
Бо ўсё згодзіцца ў жыцці,
На ўсё трэба мець ахвоту,
Каб свой потым лёс знайсці.
Праўда, хлопца прыадзелі,
Далі Хаімаў каптан,
Шлёма з Хавай аглядзелі
І сказалі: «Ну, як пан».
І Сымон быў рад і з тога;
Зубаскал-жа той Яхім
Тут пасмейваўся з малога
І пацвільваўся над ім.
— Падарунак, браце, хвацкі!

Ты цяпер — пан Лапсярдацкі.
Эх, ярмолачку-б дадаць!
Кім ты стаўся-б — не згадаць!
Адна ганьба, што аблезлы,
А так добры лапсярдак! —
Хоць Яхім быў хлопец не злы,
Ды на кеплі быў мастак.
Хлопцу ўсё было тут нова:
Шлёма, Хава і іх дом,
Звычай іх, жыццё і мова,
Іх трусенне над рублём.
У карчомцы быў асобны,
Свой уласны жыцця лад,
Свой рахунак, брудна-дробны,
Права, звычаі і ўрад.
Карчма рэдка пуставала:
Чуць развідніцца — сюды
Хоць чыя душа вітала,
Шоў стары і малады.
Цэлы дзень рыпелі дзверы;
І былі такія тут,
Што ніяк не зналі меры
І, сагнуўшыся, як склюд,
Вартавалі церпяліва
Кампанейскіх малайцоў,
Пазіралі так ліслiва
На заезджых тут людцоў.
Так было тут у дзень будны,
А ў святы і не прайсці:
Брата, бацькі было трудна
Тут разгледзець і знайсці.
Але ўлетку, то нічога:
Вось зімой зайдзі ў карчму!
Тут падзівішся, нябога,
Збудзеш смутную думу.
Тут падчас трасуцца сцены,
Лавы крышацца, як соль.
Часта ў ход ідуць палены,
Як разыйдзецца тут голь.
Сёмка тут пачне казанне,
Як Мацюта лез на плот,

Як Чылін спяваў літанне,
Як жаніўся Лысы Дод;
Пра шаўца пачне ён казкі,
А як скажа — з смеху ляж!
Як у Хасі з яго ласкі
Нарадзіўся Масыяш.
Два Антосі — Лузун, Лата —
Пацяшаюць тут усіх,
А Базыль, Карусь, два браты,
Зводзяць двух братоў другіх.
Тут зубамі крэпкі Сыса
Ступу тоўстую насіў,
А вар'яту Янка Лысы
Пуза ботамі мясіў.
А той жылы ўсе напружыць,
Голы выпучыць жывот,
Янку носіць ён і кружыць—
З смеху поўзае народ.
Тут бывала ў карк Піліпа
Жонка гнала з карчмы вон,
І аб сына стары Клыпа
Чапялу ламаў ці млён.
Тут ігрышчы адбываліс
Перад святамі зімой,
І трасліся, калыхаліс
Сцены, дошкі пад нагой.
Дзецюкі, пабраўшы пары,
Тут лятали, як віхры,
Як у полі на папары
У гіз бегаюць валы.
Верцяць дзевак, бы круцёлак,
На паветры іх нясуць,
Сцены, прыпек і пяколак
Іх хвальбонамі мятуць;
Аж падлога пад нагамі
Гнецца, крэхча і рыпіць,
І агонь у тахт з рубцамі
У лямпе з подскакам гарыць.
Патамяцца, папацеюць —
Дзверы насцеж—на мароз,

Пoкі лбы пахаладзеюць
І пачне сінецца нос.
Танцавалі маладыя,
Весяліліся, пілі,
Для іх скокі, гульні тыя
Многа радасці няслі.
А Сымонка, як пракляты,
Ім да трэціх пеўняў граў,
Толькі ён не ведаў свята,
Светлай радасці не знаў.
Без ахвоты-захаплення
Ускідала смык рука;
Нехапала і цярпення,
Сіл падчас у бедака
Граць праз цэлых тры гадзіны
Нескančоную кадрыль;
Марнаваўся век дзяціны,
Талент друзіўся на пыл.
Рана хлопчык падымаўся,
То каморкі падмятаў,
То пры кухні завіхаўся,
Шлёму, Хаве памагаў.
І так кожны дзень заняты,
А каб час не марнаваў,
Ад Сымонкі Шлёма кляты
Смык і скрыпку адбіраў.
— Так, мой браце, так Сымоне,
Падбаўляў агню Яхім: —
Не ў гуморы ты штось сёння;
Шлёма—кепскі твой айчым.
Ты—падкухцік, ты—музыка,
Падмятайла, ваданос,
Лупіць Шлёма з цябе лыка,
Як каня запрог у воз!
Бедны ты, брат, і няшчасны—
Без кароны стаўся цар:
Над скрыпуляй, над уласнай
Ты цяпер не гаспадар!
Няма ў Шлёмы к табе ласкі,

Не згрунтуеш ты, брат, з ім!
Цяжка жыць з чужой папаскі,
Лепш ідзі к бацьком сваім:
Сэрца бацькава не камень,
Бацькаў хлеб смачней віна,
І не зломіць табе рамень
Праца бацькава гумна.—
— А ты служыш вось, Яхіме.
— Ну, то я—другая справа:
Шлёма мне духоў не выме
І не возьме ў рукі Хава.
Я, брат, знаю, што мне трэба,
У мяне ёсць пэўны план:
Я вазьму кусішча хлеба,
А не зношаны каптан!
Я — салома, ён — мякіна,
Мне гарэць, а Шлёме—гніць,
І салома-сіраціна
З вольным ветрам паляціць.
Толькі ўскіну я вачыма—
Мой і погляд робіць след,
Ты пачуеш пра Яхіма,
І сам родзішся на свет...
Эх, Сымон!.. ды ты не пара,
Не таварыш ты мне, друг:
Мой таварыш—воўк паджары,
А быць можа і ланцуг. —
Праўду кажа ці жартуе?
Ці наводзіць ён туман?
А мо' шайку дзе гуртуе
Ён, разбойнік-атаман?
Не, у карчме штось няладна.
А той рабін! Ён дзіўны,
Вочы злосны, неспагадны
І нянавісці паўны.
Ляжа хлопчык у куце тым,
Сон не йдзе. Ён там адзін;
Эх, нямала тых гадзін
Аддае ён думкам гэтым!

IV

План гатовы,
Зложан цвёрда,
Воля горда,
Непарушна:
У свет новы
За дубровы,
Бо тут душна!
Сустрэнь, поле,
Прытулі ты!
Я пазбыты
Твае ласкі!
Хочуць волі,
Просяць долі
Песні-краскі.
Сустрэнь, лесе,
Ясным смехам,
Гучным рэхам
Загукай!
І ў завесе
Тваіх шатаў
Голас братаў
Мне падай!
Глянь ты, сонца,
З-за аблокаў
Добрым вокам:
Я—твой сын!
Я ў палонцы,
Лёдам скуты,
Я прыгнуты,
Я адзін!
Разгарнуць хачу я крылле—
Я ў свет вольны палячу,
Бо мне тут не па плячу,
Бо я тут—жывы ў магіле;
Я паставлю сілу сіле,
Волю сам я ўзяць хачу!
Так, даволі! досыць здзеку!
Не, павук, я больш не твой:
Зведаў я тваю апеку,

Час сквітацца мне з карчмой!
Хітры ты, шынкару-Шлёма:
Скрыпку ўзяў маю ў палон,
Каб не кінуў твайго дому,
Каб быў звязаны Сымон.
У Сымонкі ўсё гатова,
Абмяркована даўно,
Ён жыццё пачне нанова,
Гляне ў новае акно.
Праўда, ён — не так і бедны:
Грошай мае рублёў тры
Да дзве грывенькі з гары
І траяк яшчэ той медны!
І ён тыя заработкі
Панясе аддасць бацьком,
Хоць на момант на кароткі
Завітае ў родны дом.
Эх ты, родненькі куточак!
Ці-ж не думаў ён аб ім?
Многа думаў, не спаў ночак
Тут, слугуючы чужым!
Сніўся родны дом хлапчыне,
Вабіў моцна, бы святло.
Млела сэрца па айчыне,
Хоць і цяжка ў ёй было.
Ды хто ведаў гэты смутак,
Тугу хлопца-гаруна?
Хіба гэты вось закутак,
Печ да немая сцяна!
Але гэта ўсё пазбыта:
Ён не служка тут больш — квіта!
Ён гадае аб дарозе,
Сніць яе што ночку ў сне,
І яшчэ аб кімся грозіць —
Ці-ж ён дом яе міне?
Так гадае наш музыка,
Планы строячы цішком,
Толькі вось дзе закавыка:
Скрыпка ў Шлёмы пад замком!
І ці-ж гэта справядліва?
Ашуканец ён і лгун!

Каб той Хаімка саплівы
Смеў кранущца яе струн!
Эх, не раз агонь пякучы
Па ўсіх жылах прабягаў,
Калі Хаім скрыпку мучыў,
А Абрам дапамагаў!
Не знаходзіў хлопец месца.
Зубаскал-жа той Яхім,
Як заноза, ў сёрцы ўесца,
Кеплі строячы над ім:
— Эх, Сымоне, мая рыбка!
Ну, прапала твая скрыпка!
Раз да Хаіма папала,
Лічы смела, што прапала!
Раве — чуеш? як карова!
А ён, падла, б'е з-за вуха,
Як тым цэпам, як абухам, —
Ну, не грае — коле дровы!
А ўсё рабін той насаты!
А ўсё рабін: гэта ён
Зацягнуў цябе ў палон!
Ох, лахудра! ох, пракляты! —
Не стрываў раз ён — балюча!
Ён туды бяжыць з калом,
А там Шлёма за сталом;
Каб не Шлёма, была-б буча.
— Твая скрыпка будзе цэла:
Я-ж гляджу яе тут сам,
Граць і тромкаць — яе дзела!
Ну, больш Хаіму не дам! —
І Сымон не робіць шуму,
Хоць вяліка тое зло,
Ён стаіў у сэрцы думу,
Каб дагадак не было.
Як-жа вызваліць з палону
Скрыпку, сэрца яго часць?
Як прабрацца за заслону?
Хто памогу яму дасць?
Там і дзеці, там і Хава,
Шлёма сам і той вядзьмак...

Не прыступішся ніяк, —
Не, нялёгкая то справа!
Ляжа ў запечку хлапчына.
Абмяркоўвае свой план.
Можа здарыцца часіна,
Як заедзе які пан
І музыку затрабуе,
Як бывала тут не раз,
Шлёму ў лапці і абуе,
Скарыстае гэты час.
Ды калі яно што будзе?
Толькі час звядзеш дарма,
А ты ўсё служы паскудзе,
Покі прыдзе зноў зіма.
Ды зноў будзь усю тут зіму,
Абівай яго парог...
Расказаць хіба Яхіму:
Ён напэўна-б дапамог.
Але не: Яхім жартлівы —
Смешкі будзе строіць, кпіць.
Можа Хаім той саплівы?
Яго можна падкупіць...
Ой, не, не! Ён скажа Шлёму,
Тады будзе шмат трудней;
Не казаць тут лепш нікому,
Лепш зрабіць усё самому, —
Так надзейней, спакайней.
Але як? Вось дзе загвоздка!
Асцярога трэба, спрыт...
Ну ты, Шлёма! ну, псякостка,
Ашуканец, жываглыт!
Але як-бы ні было там,
Ён паставіць на сваім,
Ён пралезе хоць-бы кротам,
Бо пад Шлёмавым тут ботам
Ён не хоча быць зусім.
Ходзіць хлопец, выглядае,
Вухам ловіць кожны крок;
Цягне хлопца шафа тая,
Што замкнёна пад замок.

Ён прыслухаўся — нікога!
Ён у той пакой бягом!
Сэрца стукае ў малога,
А ў вушах гудзе, як гром.
Ён паслухаў — ціха ўсюды,
Нібы вымерла карчма;
На двары дзесь Шлёма руды,
Хавы так-жа тут няма.
Да дзвярэй ён крок ступае,
Ён нямее, прыліпае
І скрозь шчылінку ў замок
Той пакойчык аглядае...
Стукнуў хтось — ён раптам скок!
Прытуліўся ў кут, у цёмны,
Дух стаіўшы, ні мур-мур!
Скуль-жа стук той патаёмны?
Ці прабег дзе проста шчур?
Да дзвярэй ён зноў шыбуе,
Міг адзін, і клямка — бразь!
А скрозь цішу грабавую
Хтось крычыць яму: «Не лазь!»
Але хлопец не зважае,
Ён да шафы — пад замком!
Стукнуў злёгку кулаком,
Стук насмерць яго пужае,
А на стук той скрыпка — бом!
Струны ціха зазвінелі,
Адгукнуліся яны,
Бы агонь прабег па целе,
Трэпет палкі і дзіўны.
Так вось дзе яе няволя!
Але йдуць... Ён вобцас вон!
З карчмы выскачыў на поле,
А ў вушох — той струнны звон.
І свідруе мозг пытанне:
Ці замецілі, ці не?
Момант страху і хістання
Хлопца томіць, хлопца гне.
Ён на карчму пазірае,
Каб пытанню даць адказ,

А яна маўчыць, старая,
Пэўны маючы выраз.
Не: там ціха, мёртва-глуха,
Там нічога не чутно.
Толькі Шлёма ў нейкім руху...
Што-б то значыла яно?
Вышаў хлопец за стадолу.
Дзень надвечары. Цяплынь,
А на полі па-над долам
Жыта гойдаецца плынь;
Там дарога так знаёма.
Унь і дуб той, і той клён...
Ён стаіўся нерухома:
Да стадолы ідзе Шлёма,
Невясёлы, смутны ён.
Ходзіць, чухае чупрыну,
Штось мармоча, бы дурны,
Штось сказаў Абраму-сыну
І кудысь ідуць яны.
Пастаялі на дарозе,
Шлёма зноў ідзе назад;
Хава, хлопцы ўсе ў трывозе...
Ці-ж то ён іх зрушыў лад?
Ці не знаюць, што ў каморцы
Быў ён з замерам ліхім?
Але чуе ў іх гаворцы
Словы: «Ганаф» і «Яхім».
Пачынае хлопец цяміць:
Знік Яхім кудысь з канём.
Асвятлілі яму памяць
Тыя словы, як агнём:
«Я, брат, знаю, што мне трэба,
У мяне ёсць пэўны план:
Я вазьму кусішча хлеба,
А не зношаны каптан;
Толькі ўскіну я вачыма,
Мой і погляд зробіць след;
Ты пачуеш пра Яхіма,
І сам родзішся на свет!»
Так, прышла яго часіна, —

Ім цяпер не да яго!
Але трусіцца хлапчына,
Каб не вынікла чаго.
Абыходзіць ён стадолу,
Ідзе ў кухню са двара,
Погляд кідае наўкола,
Бачыць — постаць карчмара
Аглядае ўсё дарогу,
А з ім Хаім і Абрам.
Самы час прарваць аблогу —
Толькі рабін адзін там.
Ён падосак бярэ ў рукі,
Каб з тым справіцца замком;
Ідзе ціха, а ні гуку,
Бы кот, крадзецца цішком.
Стаў, паслухаў — мёртва-глуха.
Дзверы штурхнуў, шусь туды;
Прылажыў яшчэ раз вуха,
Поўны страху і жуды, —
Ціха ўсё. А рабін строгі
Са сцяны глядзіць стражэй...
Ці то вушы, ці то рогі?
Бровы ссунуты ніжэй,
Погляд злосны і нямілы.
Тут да шафы хлопец — скок!
Штурхнуў дзверцы з усёй сілы, —
Бразь там зашчапка-кручок!
Разышліся дзверцы самі,
Чуе ён знаёмы гуд...
Скрыпка родная! ты тут!
Ён дрыготнымі рукамі
Скінуў з вешалкі сурдут,
Скрыпку борздзенька знімае.
Скрыпка з ім! Цяпер — гайда!
Ён скрыпулю абнімае...
— У ты, рабін-барада! —
Крок ступіў і на канапу!
Кулаком яму патрос.
— У ты, чортавая лапа!
І дзве пстрычкі даў у нос!

V

Страшнавата, сцішна ўночы...
Нібы ходзіць хтось, шалпоча,
Пустым смехам дзесь рагоча...
Ці то можа плача Шлёма —
Не ўсё добра ў яго дома!
А там нешта бы рухома...
Ці то вочы, тыя вочы?
Страшнавата, сцішна ўночы!
Ноч так зманна, так варожа!
Спатайку наскочыць можа
Нехта страшны з свайго ложа...
А там... што там? двое, трое, —
Клубок страхаў, там іх роі,
І не злічыш ты іх зброі,
Многа іх! Ён іх не зможа:
Ноч так зманна, так варожа!
Хоць-бы месяц выплыў з хмары:
Асвятліў-бы ён абшары
І развеяў тыя чары.
Месяц выплыў, пасвятлела;
З мроку цэркаўка бел-бела,
Як і ён, глядзіць нясмела —
Болей страху на іх твары.
Месяц! лепш схавайся ў хмары,
Бо ў тым блеску-асвятленні
Больш замецен, менш збавення —
Страшна гэтае суценне!
Ці з кары старога дуба
Нос высоўваецца, губа,
Смех, ды страшны; рот бяззубы,
Хтось вылазіць з-пад карэння...
Ці то помста зневажэння?
Страшна гэтае суценне!
Хлопцу сцішна і маркотна...
Ноч цянюецца дрыготна...
Дзесь хтось свіснуў траякротна,
Свіснуў!.. хто? для якой мэты?
Ці то знак які? прыметы?
Ці то страшны рабін гэты?

Ці то пташка мімалётна?
Хлопцу сцішна і маркотна.
Ноч глыбее, поўнач скора;
Свецяць ў небе бледна зоры,
А карчма з-за касагору
Выглядае так жалобна;
На астрог яна падобна.
Ён, яна стаяць асобна,
Яны разам былі ўчора...
Ноч глыбее, поўнач скора.
Крыкнуў певень дзесь далёка,
Ды так глуха, так глыбока,
Так нясмела-адзінока!
Ціш, глухота, нема ўсюды,
У вушах бы енкі-гуды,
У вачах той рабін руды...
Што там бачыць яго вока?
Крыкнуў певень дзесь далёка.
Але блізка час світання,
Знікнуць страхі ўсе дазвання,
Дык жыві-ж ты, вандраванне!
Мрок радзее, ноч святлее,
Ноч і добрай быць умее.
Жывіць душу зноў надзея,
Сэрца цешаць песні рання...
Блізка, блізка час світання!
    Дрэмле чутка ў полі ніва,
    Выступае лес маўклiва
    З мроку чорнаю пілою;
    Хмарак шоўкавая грыва
    Рассцілаецца гулліва
    Агнячырванай мятлою.
Тыя-ж зоркі, бы дзяўчаткі,
Дзесь бягуць у свае хаткі,
І апошні раз іх вочкі
Шлюць свой усмех развітання, —
Промень ласкі і кахання, —
Да наступнай яснай ночкі.
Дзень праз цёмныя заслоны
Падымае сцяг чырвоны,
Каб сагнаць з зямлі туманы.

Чырвань льецца на загоны,
Нішчыць цьмы пасады-троны;
Дню складаюць гімн паляны.
Хлопец чуе адраджэнне;
Ноч прайшла, пазбыта цьма,
Волен ён, канец мучэнню,
Не гняце яго карчма!
Так прывольна, так прасторна!
Што было — прайшло, як дым;
Ён ідзе, ідзе напорна
Крокам смелым, маладым.
Ён вітае яснасць неба,
Сакаўное поле, лес,
Пах зямлянай, свежай глебы,
Каласкоў жывы навес,
Многадумныя прасторы
І шумлівыя бары...
Унь і хвоі ў жытнім моры,
Бы дзве родныя сястры,
Ён пазнаў іх, ён ім рады —
Ён замеціў іх тады.
Скора будуць і прысады —
Ці не іх унь то рады?
Ён ідзе, падходзіць сонца,
Лес агортваецца ў сінь...
Будзе горача бясконца,
Хоць садзіся адпачынь!
У бок глянуў, там сунічкі,
Бы каралі на траве.
Ну, прыпынак невялічкі —
Ён збярэ іх жменькі дзве!
І лясок тут такі слаўны —
Так і горне той лясок.
І дзесь дрозд, знаёмы даўны,
Падае там галасок,
Як-бы ў госці заклікае.
І Сымонка не чакае:
Ён з дарогі зварачае
І на сонцы пад кустом
Прысядае, спачывае,
Потым моцна засыпае,

Распасцёршыся пластом.
Доўга спаў ён, як забіты;
Сонца ўстала на паўдні,
І гудуць над ім сярдзіта
Дзеці лесу, авадні.
— Устань, любы! — шэпча сонца.
— Уставай! — шуміць дубок.
— Абудзіся, галубок, —
Кажуць травак валаконцы.
— А-а! — Ён вочы раскрывае.
— Дзе-ж то я! — глядзіць вакол.
Перад ім сцяна жывая,
Над ім шапка баравая,
Лес — зялёны частакол.
І адразу ясна стала —
Вольны ён, ён не слуга!
Разышлася і прапала
Гэта сонная смуга!..
Але што-то? здань ці дзіва?
Ці то лес навеў туман?
Мільгатнула штось маўкліва,
Промень кінуў смех шчаслівы,
Бы ажыў унь той дзірван,
Вочкам бліснуў дурасліва!
Не, не можа быць, то — зман!
То быў вобраз іскраззянны,
Момант радасці, надзей,
Сэрца гімн агнём паранным,
Песня зорак, сонцавей.
Знікла здань — так сон знікае,
Але водгулле яе
У вачох яшчэ бліскае
І спакою не дае.
Ды якая-ж то праява?
Сон няўспомнены ці яў?
Ці русалчына забава?
Ці лясун пажартаваў?
І задумаўся хлапчына:
«Сон такі прысніў, знаць, я».
Над ім гэтая хвіліна
Вее чарамі жыцця.

— Э! — махнуў Сымон рукою,
Каб ход іншы думкам даць: —
Не мне з доляю такою
Аб ёй марыць і гадаць!
Сеў і з клунка ён вымае
Рыбу, хлеб, кладзе на дол;
Няхай Шлёма прабачае:
Шабасовы гэта стол!
Будзе снеданне, бы ў пана,
На пахучым мурагу...
Што за цуд? з таго дырвану
Хтось азваў: — Сымон! а-гу! —
Ён ускочыў, азірнуўся,
Галавой абвёў вакруг;
Бачыць — куст узварухнуўся,
І адтуль, бы светлы дух,
Тварык мілы выглядае,
Здаваленне, смех на ім,
Шчасце-радасць маладая
Ззяе сонцам веснавым.
— Ганна! Родненькая Ганя! —
Крок наперад ён ступіў,
Так здзівіўся! і ў тым стане
Рукі смешна апусціў.
— Ай, Сымон! які дзіўны ты! —
Ганна смехам залілася.
Смех, бы зорамі спавіты,
І галоўка самавіта
З траўкі-зелені ўзнялася.
І бліскаюць яе вочкі,
Як у жыце васількі;
Голас — срэбраны званочак,
Шчочкі — макавы лісткі.
— Дзе спаткаліся, Сымонка!
Як-жа ты папаў сюды?
А як зыгнуў ад нас гонка —
Помніш тую ноч... тады? —
Ганна борзда гаварыла,
Распытоўвала сябра,
Нават трошкі пажурыла,
Што іх выракся двара.

— Я збірала тут суніцы,
Зірк — аж бачу, нехта спіць!
Я спужалася, дурніца:
Злодзей, думаю, ляжыць!
Я ўжо бегчы прэч хацела,
Ды дай, думаю, зірну
На «разбойніцкае цела».
Крок ступаю я нясмела,
Голькі ціхенька гарну,
Як зірнула-ж — і пазнала!
І так шкода цябе стала —
Не пасмела я будзіць,
І гадзіны дзве чакала —
«Няхай, думаю, паспіць.»
Ці здароў-жа? як жывецца?
Скуль ідзеш? куды? зачым?
Сядзьма тут! — Яна смяецца
І садзіцца радам з ім.
І так добра стала ў лесе!
Ён бярэ яе руку,
А зязюлька на суку
У жывой зялёнай стрэсе
Ім варожыць штось — ку-ку!
Ён глядзіць дзяўчынцы ў вочы,
Ён маліцца ёй гатоў.
Ёй сказаць так многа хоча,
Ды не знойдзе толькі слоў —
Аж той дрозд з яго рагоча!

Сымон.

Ах, Ануська, як я рады!
І вось, Ганя, што дзіўно:
Мяне гнала штось з прысады
І шаптала мне адно:
«Ідзі ў лес, у лес зайдзі!
Адпачынь там, пасядзі!»
І так вышла ўсё да ладу!

Ганна.

Ты-ж адкуль ідзеш, Сымонка?

Сымон.

Я ў карчме служыў, ды ўцёк.
Ох, карчмар мне так дапёк —
Ну, хоць кідайся ў палонку!

Ганна.

Бедны! бедны! А ты вырас,
Ну, зусім дзяцюк другі,
І няма тае смугі...
А ў вачох той самы выраз —
След нязбыўнае тугі...
А скажы: ты помніў нас?
І мяне ці ўспомніў з раз?

Сымон.

Не было тае часіны,
Таго вечара і дня,
Каб і ты й твая радня
Не прышлі мне на ўспаміны.
Я ляжу адзін, бывала,
Ноч зацятая, жуда,
І смяртэльная нуда
Кіпці выпусціць і джала.
Але ўспомню аб табе я —
Чымся добранькім павее,
Забываецца карчма;
Зноў абудзіцца надзея,
Што ў жыцці не вечна цьма.

Ганна.

Дык ты помніў, што ёсць Ганна
Дзесь на хутары ў глушы?

Сымон.

Ты была ў маёй душы,
Заўжды міла і жаданна.

Ганна.

Ты, здаецца, за сняданне
Думаў сесці? Снедай, дружа!
Чаго тут сціскацца дужа?

Абы меў на то жаданне!
А то хочаш: будзем разам
Мы спраўляць маёўку тут?

Сымон.

Я скажу, як Шлёма: «гут!»

Ганна.

А мой полудзень пад вязам —
Баль устроім, як паны!
Там з суніцамі збаночак,
Сыру смачнага кусочак
І грачанікі-бліны.

У цяньку старога дрэва
Селі, снедаюць яны,
І іх сэрцы згоды, спеву,
Светлай радасці паўны.
Не змаўкае іх гаворка:
Расказаў Сымон аб тым,
Як жылося яму горка,
Хто быў Шлёма і Яхім,
Як ён рабіну ліхому
Там папомсціўся за здзек,
І як пойдзе ён дадому —
Ён, з грашамі чалавек!
Павандруе ў свет з скрыпуляй,
Песні будзе ён складаць,
Ён людзей дабром атуліць,
Каб палёгку людзям даць.
Потым сціх Сымон панура,
Смутак злёг яму на твар, —
Так змаўкае перад бурай
Поля стомлены абшар.
Ганна голаву схіліла,
Смуткавала і яна,
Бы адным крылом акрыла
Іх мысль нейкая адна.

Сымон.

Што-ж мы змоўклі? Эх, Гануся!
Як падумаю, што зноў
Я адзін павалакуся —

Проста ў сэрцы стыне кроў.
Я нядаўна быў шчаслівы,
Не гадаў я ні аб чым,
Не палохаў свет жахлівы,
Як-бы я не жыў у ім,
Бо ў той міг перад сабою
Меў цябе, цябе адну.
Сэрца білася табою,
Бы сваю знайшло вясну
Ў свеце гора і блукання;
Ды канец ёсць усяму:
Наша скончыцца спатканне,
І мой дзень у сум змяркання
Зноў апусціцца, бы ў цьму.
Мы разойдземся. Дарогі
Нашы розна пабягуць:
Поміж намі ёсць парогі,
І нам іх не абмінуць.
Мы, Ганнуся, — каляіны,
Адной скрыпкі дзве струны —
Іх аднакі скрозь пуціны,
Ды не сходзяцца яны...

Ганна.

Кінь, Сымонка, смутак гэты,
Ты «не ў родных каранёх»,
Многа ў свеце ёсць дарог,
Дык шукай-жа свае мэты,
А парогі —
Прэч з дарогі!
Ты паслухай: хай у полі
Роўна колейкі ідуць,
Няхай дзве струны, дзве долі
Песню ў згоднасці вядуць.
Пойдзем, вось, да нас у госці —
Не цурайся нашай хаты.
А для мамы і для таты
Многа будзе весялосці!

Сымон.

Я зайду да вас, Ганнуся!
Я найду к табе дарогу,

Я прыду к твайму парогу —
Дом пабачу і вярнуся!
Залатыя твае слоўкі —
Мая песня ў час вандроўкі,
Ты як-бы дала мне крылле,
Многа радасці дала,
І забудзе чорнабылле,
Краскі згледзеўшы, пчала.

Ганна.

Ну, то хоць на развітанне
Паіграй, Сымонка, мне,
Каб мінута расставання
Нам казала аб вясне. —
Слухаў ён, мацнеў душою,
Свет хацелася абняць,
На калені стаць прад ёю,
Ёй жыццё сваё аддаць.
І чароўна зыкаў хвалі
Паліліся, пацяклі,
А зязюлька кукавала
Ім аб радасцях зямлі.

## ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ

### I

Дрыжыць агонь, як смех крывавы,
Дрыжыць агонь у цьме густой,
У цьме варожай і пустой,
Як адбіццё даўнейшай славы,
І зліўся з мрокам дым бялявы
Над гэтай плямкай залатой.
Дрыжыць агонь, як песня жалю,
Дрыжыць агонь у цьме начной
Пад адзінокаю сасной,
Як плеск апошні рэчнай хвалі.
У мроку нікнуць сонна далі,
Крычыць сава ў цішы лясной.

Дрыжыць агонь, як плач прашчальны,
Дрыжыць агонь, забыты тут,
Скрозь мрок нямы, скрозь чорны мут,
Як звон жалобы пахавальны,
Як песні голас развітальны,
Як струн дрыгучых ціхі гуд.
Гарэў агонь, былі тут людзі,
Вянок плялі яму з галін.
Цяпер загас ён тут адзін,
І цёмна стала на тым грудзе.
Ніхто і ведаць-знаць не будзе
Яго апошніх тут гадзін.
Цянюе мрок, густы, як сіта,
На месцы тым, дзе быў агонь,
І вецер попел знёс на гонь,
Ад лесу дзьмухнуўшы сярдзіта.
І ўсё вакол у цьму спавіта:
Гарэў агонь — пагас агонь!

Ганна.

— Ну, мой мілы! хоць і цяжка
Што-ж? бывай здароў! бывай!
Чаму я, чаму не пташка:
Паляцела-б я ў твой край.
Ну, хай будзе час прыўдалы
Долю добрую спаткаць,
Каб лёс гэты заняпалы
На лёс светлы памяняць.
Я-ж у думках сваіх буду
Жычыць шчасцейка табе,
Каб яно спрыяла ўсюды,
Каб верх меў ты ў барацьбе.
Выйду я ў садок вішнёвы
Ясны месячык спытаць:
Дзе Сымонка? як здаровы?
Папрашу яго заслаць
Мой паклон і прывітанне.
Сам на месячык зірні,
А ў цяжэнькі час блукання
Ты наш дом успамяні.
Не забудзь-жа нашай хаты

І мяне не забывай.
Ну... бывай!
Будзь шчаслівы, будзь багаты!

Сымон.

Так вось і ён, час развітання..
Бывай здаровенька!.. Бывай!
Бацьком паклон мой перадай...
Дык так — да новага спаткання!
І помні, Ганначка: ніколі
Я не забуду аб табе —
Ні ў светлы час, ні ў час нядолі,
Ні ў смутку, радасці, журбе!
Ты мне будзеш запамогай,
Сіл крыніцаю жывых.
Я табе злажу дарогай
Песню красак веснавых. —
Між зялёных нівак поля,
Дзе калоссем звісла жыта,
Бегла сцежачка сукрыта, —
Ты глядзеў туды, саколе!
Ходзіць ветрык на прыволлі,
Носіць шолах мнагадумны,
Бае казку лес разумны
Аб няясным, аб раздоллі.
Ты глядзіш туды, саколе,
Дзе імкнецца бег пуцінкі.
Не відаць ужо дзяўчынкі —
Дзесь схавала яе поле.
Пахаджае ветрык вольны,
Нібы лічыць ён загоны...
Няма хустачкі чырвонай!
Стаў маркоцен прастор польны.
У бязмежным сінім доле
Віснуць хмаркі, бы пушынкі,
Сном паўднёвым спяць былінкі,
А ты, смуцішся, саколе...
У той час ён, як ніколі,
Боль расстання адчуваў,
І пустэляй стала поле,
Лес і гай з ім смуткаваў.

І пачула сэрца страту,
Як не чула ўжо даўно;
Ні па матцы, ні па брату
Так не смуціцца яно.
— Слухай, хлопча: што, каханы,
Ты тут робіш? — Зірк Сымон —
Госць прад ім неспадзяваны!
Спужан хлопец і здзіўлён.
Па абліччы — пан, не просты,
А з вялікіх, знаць, паноў —
І ў адзенні, так і ў росту,
Так і ў тоне самых слоў.
За плячыма — дубальтоўка,
І ладуннік ёй дадан,
А шырокі пояс лоўка
Ацiскае крэпкі стан.
Боты спрытны, за калені,
Рог — бы чортава рабро.
Завяршала ўсё адзенне
Тое гордае пяро.
Вочы грозны і ўладарны,
Вусы — ворагам на страх,
А пры ім з найлепшай псярні
Псіна шворыцца ў нагах.
— А паведай мне, каханы,
Хто тут граў? — пытае пан,
Чорнавусы, надзіманы,
Шыты золатам жупан.
Што сказаць на запытанне?
Ну, які тут даць адказ?
Вось спатканне, дык спатканне!
У бяду ўляціш якраз.
Хлопец топчацца і мнецца,
А нарэшце прызнаецца:
— Я! — на рамень хлапчука
Тая панская рука,
Тая белая кладзецца.
— Гэта ты граў? ты, каханы? —
Хлопцу ў вочы пан зірнуў —
Нібы пан той і рахманы,
Хоць вачыма нейк бліснуў.

— А ты хто-ж такі, каханку?
— Я — вандроўнік... Ну, жабрак.
Я хаджу ад ганка к ганку;
Хто дасць хлеба, хто траяк.
— Ага, так... Ну, ходзь за мною! —
Зрушыў пан, у лес ідзе,
А за ім Сымон ступою.
Лес штось ціхенька гудзе.
Хлопец мысліць сам з сабою:
«Куды-ж ён мяне вядзе?
Што рабіць са мною будзе?»
І глядзіць у лес хлапчук.
Пан спыняецца на грудзе,
Стрэльбу вешае на сук.
Хлопцу страшна і цікава:
Што замысліў гэты пан,
Гэта доўгая халява,
Шыты золатам жупан?
Пан узяў рог пакручасты,
Пазалочаны, блішчасты,
Важна выставіў нагу,
Галаву крыху адкінуў
Ды расправіў грудзі, спіну
І ў ражок той — тру-гу-гу.
І пабегла гучна рэха
Ад сасонкі да дубка
І замерла тонкім смехам,
Мяккім покатам клубка.
Чуць заціхлі гукі ў лесе,
Як ім голасна ў адказ
Рог дрыгучы раз-па-раз
Загрымеў у тым навесе,
Дзе суччо развесіў вяз.
А дзесь збоку, яшчэ далей,
Грае гучная труба,
Нібы срэбранаю хваляй
З гушчару плыве журба.
Пераводзіць хлопец вочы
То на пана, то ў гушчар,
Дзе ражок, труба якоча.
Што рабіць з ім пан тут хоча?

Ён, відаць, тут гаспадар...
Вось праява негадана,
Не чакаў такіх навін!
Ці не зызнуць лепш ад пана,
Покі ён стаіць адзін?
Вось джагнуць разок-два лоўка
Ды ў кусты пісаць вузлы!
Але ў пана — дубальтоўка
Дый сабака можа злы.
Не, брат, позна: валяць з лесу
Два паны і леснікі,
Уцякаць тут не з рукі —
Няма сэнсу, інтарэсу.
Пан прысеў на пень дубовы
І чакае тут паноў.
Ён падняў на хлопца бровы,
Вочы блíснулі нейк зноў.
— Проша сядаць тут, панове! —
Кажа пан у панскай мове,
Як прышлі сюды паны:
— Я злавіў у той дуброве
Штуку добрай дзічыны. —
На Сымона, як на дзіва,
Пан паказвае паном,
А Сымон стаіць маўкліва —
Знаць, не трапіць у свой дом...
Ой, пан нешта замышляе,
Закід робячы дзіўны!..
А мо' добры лёс трапляе?
Дапамогуць тут паны?
Ён гадае так і гэтак
Ды глядзіць у гушчарняк,
Як ваўчок, як той аблетак,
Ды не вырвацца ніяк.
— А ну, хлопча, мой каханы,
Паіграй, як ты іграў! —
Хлопец злёгку задрыжаў
І ўзяў скрыпку паслухмяна;
Струны звонкія наладзіў,
Раз-другі смычком правёў
І аддаўся ўвесь абладзе,

Чарам струнных галасоў.
Льюцца гукі ў леснай цішы
Срэбраплынным ручайком;
Лес замёр, стаіць, не дыша,
Не варушачы лістком;
Прыпынілі спевы птушкі —
Скрыпцы ім не ўзяць у тон;
Толькі пчолкі, чмель і мушкі
Далучаюць сюды звон.
Ён іграў аб тым спатканні,
Аб дзяўчынцы яснавокай,
Волі вольнай і шырокай,
Аб сваім ііграў блуканні
І аб долі адзінокай;
Ён іграў аб родным дому,
Аб жыцці сваім бязлетным,
Аб імкненні тым сусветным,
Што чуваць у буры, грому.
І стаялі нерухліва
І паны і леснікі;
Вусы пан спусціў маўкліва,
Іх пакусваў канчукі.
— Дасканала, дасканала!
Вось дзе талент захаван!..
Але здольнасць, якіх мала! —
Адгукнуўся адзін пан;
А другі маўчаў здзіўлёна
Ды ўсхапіўся сакалом
І трактуе ён Сымона
Белым срэбраным рублём.
А пан першы, пан вусаты,
Да музыкі кажа так:
— Ну, каханы мой хлапак,
На жупан ты зменіш латы,
І ты болей не жабрак;
Ты-ж рабі, што загадаюць —
Я бяру цябе ў свой двор! —
Пан гаворыць, вагу маюць,
Чэшуць словы, як тапор.
Смутна ў лесе, нібы чары
Напусцілі тут паны,

Дзе-ж лятункі? Дзе вы, мары?
Адабралі ўсё яны.
Мільгатнуўся вобраз Ганны,
Такі родны і жаданы.
І чаму ён не йшоў з ёю?
А цяпер гадай, бядуй...
Хлопца штурхнуў хтось рукою —
«Руку, галган, пацалуй!»

---

Шыі выгнуўшы дугою,
Дружна коні дол сякуць,
Толькі пыл курыць трубою,
Насустрэч палі бягуць,
Адзінокія курганы,
Вёскі, фальваркі, крыжы,
Лес, смугою чуць засланы,
Сіняй далі рубяжы...
Эх, дарога! Як прыемна
На арлох тваіх ляцець,
Не гадаць-бажаць дарэмна,
Думак клопату не мець,
А сказаць: «Э, будзь, што будзе!»
І не думаць ні аб чым,
Толькі чуць, як лёгка грудзі
Дышуць полем веснавым,
А ў разлогах аксамітаў
Дрэвы пышныя ўстаюць,
І дрыготна хвалі жыта
Плыўкадымныя бягуць...
Першы раз скрыпач убогі
Зведаў гожасць той язды...
Эх, дарогі! Эх, дарогі!
Вы куды йдзяце? Куды?

II

— Унь і замак, бачыш? вежы! —
Пугаўём махнуў хурман: —
А вось тут быў лог мядзвежы,
Дзікі тут хадзіў кабан,

Тут пладзіліся і сарны,
Тут вадзіліся зубры...
Эх, бары былі, бары!
Але й ім прышоў час марны, —
І ўздыхнуў хурман стары.
Можа ўспомніў век пражыты,
Маладыя свае дні,
Вечар, мрокам апавіты,
Жыцця зніклыя агні.
— Гэй вы, конікі малыя,
Сакалы мае ўдалыя!
Што прысталі? —
Лейцы ён падцяў, махнуў...
Коні шыі заламалі,
Бы агонь іх жахануў,
І панеслі! Брычка скача,
Мякка бубенцы звіняць...
Ці не песня ў іх бядача,
Доля горкая чуваць?
А Сымон глядзіць на вежы
І на гэты замкаў пых...
Эх, чужыя гэта межы!
Не для іх ён, не для іх!
Але трохі і цікава,
Хоць нагледзіцца ўсяго,
Калі-ж кепска будзе справа,
Хто ўтрымае там яго?
А дзянёк у цішы-разважанні
На спакой адходзіць павольна;
Задуменне ляжыць у блісканні,
Як той усмех апошні расстання,
Як той погляд кахання супольны.
І вялікі-ж дзянёк у прыгодзе!
Надарыў ён Сымонку багата:
Эх, дзе раніца тая зачата!
Эх, дзе поўдзень прайшоў, яго свята!
Эх, дзе вечарам з думкамі ходзіць!
А на замку пазалота
Грае ў чырвані, гарыць.
А галота... Дзе-ж галота?
Сланяецца каля плота,

У гразі яна ляжыць!
Мрок ачнуўся, скулься глянуў,
І пасунуўся руплівa
З таго лесу праз паляну
Насустрэч якраз туману,
Што з нізіны ўстаў маўкліва,
Слепавочна, баязліва.
Мрок нявeтлы і зацяты
Жмурыць вочы з-пад карэння,
Уздымае хіб кудлаты,
Па палёх раняе латы
І край неба тчэ ў суценне,
Каб развесіць свае шаты.
Хмаркі, неба, лес, зямліца,—
Усё сціхла, зорыць чутка:
Штось замысліў мрок-сляпіца!
З горак сходзіць багравіца,
Дзесь галосіць — плача дудка, —
Будзе сцішна, будзе жудка,
Калі зляжа ноч-чарніца!
Замак грозны і варожы,
Так пануры яго вежы:
І хоць ён здалёк пахожы
На царкву, касцёл, «дом божы»,
Ды з залочанай адзежы
Вее чымся злым і рэжа,
Коле вочы ў падарожжы.
Блеск у вокнах — смех фальшывы,
Ён не вабіць, ён не грэе;
Тыя вокны — вочы змея.
Пазірае замак скрыва,
І ён душыць, гне маўкліва.
«Куды-ж еду? Дзе-ж я? дзе я?»
Хлопец думае тужліва.
Вось гара. Прыціхлі коні,
Колы рэжуцца ў пясок,
А з гары, як на далоні,
Разам выплыў гарадок
З яго цэрквамі, дамамі
Розных постацей, ладоў,
З мураванымі сцянамі,

З яго купамі садоў,
Вязаў пышных, поўнацелых,
Ліп разложыста-густых
І крыжоў, даўно збуцвелых
На магільніках старых.
Захад счырвана-ружовы;
Дзень пахованы ўжо ім,
Бы замерлі яго словы
На крыжы, на залатым.
І страх нейкі беспрычынны
Душу хлопчыка абняў.
Бы ён руку самачынна
На той горад падымаў.
Ці-ж яму, палёў дзіцяці,
Сыну лесу і дарог,
На дарозе панскай стаці,
Жыць у замку, гарадох?
І ў Сымонкі прад вачыма
Ўсталі родныя куты,
Хата бацькава, радзіма,
Грушы дзікія, платы...
І якая гэта доля —
Ласкі мацеры не знаць,
Казкі, песні свайго поля
На чужыя памяняць?!
Дык не век быць пад прыгонам:
Ён на свой лад зажыве —
Думкі ёсць у галаве —
Не жартуйце-ж вы з Сымонам!
А тым часам коні гулка
Б'юць па бруку капытом.
Вось масточак і рачулка
З сітняком і чаратом.
Ідуць домікі радамі
З акяніцамі, садамі,
Каля вокан геаргіні,
Ружы кусцікі, і мак,
І гарошак бледна-сіні
Між тых красак, бы прымак.
А там, далей, камяніцы,
Рынак, крамы, пустыры,

Манастыр, касцёл, капліца,
І муры, муры, муры...
Ад касцёлу іх дарога
Убок крута павярнула,
На падмурку мільгатнула
Постаць нейкага святога
У сутане, рукі ўздзеты,
Вочы ўзведзены кудысь,
Бы за грэшны замак гэты
Шле малітвы ён увысь.
Перад імі, як талерка,
Ціха кругліцца, блішчыць,
Ззяе возера-люстэрка,
А над возерам стаіць
Замак грозны, замак хмуры;
Валы, бойніцы відаць,
Непрытульна і панура
Сцены гэтыя глядзяць.
Замак меў адну дарогу —
Вузкі насып між вады.
«Тут не выйдзеш, як з астрогу...
Эх, куды папаў! Куды!»
Так Сымонка сам з сабою,
К замку едучы, гадаў.
Нейкім страхам і жудою
Гэты замак патыхаў.
Вось і ўезд у двор замковы —
У мурох нібы нара;
Гучна стукаюць падковы,
Бы дае тут знаць гара,
Што сюды хтось уязджае —
Госць няпрошаны, чужы.
Вось збяжыцца стража злая!
Калі вораг ты — дрыжы!
Але зараз ціха стала,
Грук замёр ад капытоў.
А ноч косы расплятае,
Мрок вылазіць з-за кустоў
І на ліпы воўну сцеле,
Іх мяняючы абрыс,—
Нібы з прасніцы кудзеля,

Голькі спушчаны наніз.
Ціха ў замку і нялюдна,
Бы ён вымер, бы пусты.
Сном заснуўшы неабудна,
Як той волат закляты.
Ды дарожкі ўсе ў парадку
І праведзены пад шнур,
Гожы клумбачкі і градкі
Розных выглядаў-фігур,
І такі йдзе дух пахучы,
Чуць-чуць ветрык патыхне,
А там дзесь у старане
То патухне, то мільгне
Нейкі блеск, агонь бягучы...
Дзіўна ўсё пад гэтым мрокам!..
Без канца вялікі двор —
Не акінуць яго вокам,
Шырыня, разгон, прастор!
Брычка двойчы павярнула,
Тры ўжо мосцікі мінула
І спынілася — канец!
— Ну, пабудзь-жа тут, хлапец!
Я на момант невялічкі
У кантору забягу —
Яна там, унь, на рагу —
Ліст аддам! — Хурман злез з брычкі,
Ідзе, ногі распраўляе,
Бо дарога-ж не малая.
Хлопцу-ж сцішна з непрывычкі.
Знік хурман у сутуненні,
І заціхлі яго крокі,
А Сымонка, адзінокі,
Ловіць зыкі ў натужэнні,
Ды ўсё ціха. Дзесь блізютка
Прамільгнуў кажан вушасты,
У кустох лісток зашастаў,
Нешта піскнула ціхутка,
Тыя-ж дрэвы, нібы зданні,
Пазіраюць грозна-строга,
Бы цікуюць на малога
У маўклівым разважанні.

Тут знаёмы толькі зоры
І прыветны з ім, лагодны;
Той-жа вобраз мілы, родны,
Той-жа блеск іх у прасторы...
Ша, ідуць! Замёр хлапчына:
Глуха тухкае хурман,
А за ім ідзе мужчына,
Незнаёмы нейкі пан.
— Ну, — сказаў хурман: — злазь, сынку!
Тут табе і хлеб і дом.
Дык служы-ж цяпер паном!
Што-ж? у добрую часінку! —
І спытаўся пан замковы:
— Гэта ён музыка й ёсць?
— Ён, ён самы, ягамосць;
Ну, сынок, бывай здаровы! —
Злез Сымонка і са скрыпкай
За «ягомасцем» ідзе.
Пан ягомасць паліць піпку,
Сам сабе пад нос гудзе;
А калёсы мерным стукам,
Коні гучным капытом
Адклікаюцца адгукам,
Як апошнім тым звяном,
Што злучала хлопца з полем
І з прасторамі лугоў...
Зашчымела сэрца болем:
Зноў чыясь чужая воля,
Ўлада новых абцугоў!
Колькі крокаў шлі маўкліва,
Потым пан пачаў пытаць
З насмяханнем і жартліва,
Дзе вучыўся хлопец граць,
Як натрапіў ён на князя,
Як дабіўся ласкі там
(Ды яму ва ўсякім разе
Трэба помніць, што ён — хам).
І з сабою пан мармоча:
«Ну, пабачым, што за жог,
Як ён заўтра засвяргоча

І капусту і гарох».
Хлопец толькі гляне скосу.
Ой, відаць, нягодны, гад!.
Хоць цяпер бяжы назад,
Але сціхнуў шум калёсаў.
Ён адзін тут з гэтым панам.
І куды ён завядзе?
Лепш памерці пад парканам,
Чым служыць такой брыдзе.
Але йдзе за ім пакорна,
Штось заныла на душы.
Як і ночка, думкі чорны,
Толькі зорачкі ў вышы
Над панурым замкамззяюць,
Блеск іх ветла так дрыжыць;
Зоркі хлопцу спагадаюць.
Ну, што-ж? трэба тут пажыць.
Вось і домік мураваны
Выплыў раптам з-за раслін.
— Ну, Шапен ты калашманы,
Ты тут будзеш не адзін:
Там пры кухні жывуць «людзі»,
Як і ты, усе яны;
Там прыпынак табе будзе.
Заўтра знімем лахманы.
Там і ложак ёсць свабодны,
Раздзявайся, спі ўсю ноч;
Калі-ж часам ты галодны,
Дык на кухню сам заскоч. —
Адчыніў Сымонка дзверы
І адразу крок спыніў:
Такой чыстае кватэры
Ён не бачыў і не сніў.
Ну, зусім пакой! прасторны,
Светлы, чыста пабялян,
Ніжай столі пасак чорны,
Мусіць пальцам правёў пан!
На адной сцяне рысункі —
Хтось наклеіў іх з газет —
Роўна цягнуцца, як стрункі,

То — не рабінаў партрэт, —
Не пакой таго зладзюгі!
Воч не зводзіць ён з сцяны:
Калі так жывуць тут слугі,
То ўжо як жывуць паны?!

III

Абудзіўся хлопец рана.
Ён не спіць ужо даўно;
Промень сонца з-за каштана
Зазірнуў яму ў акно.
Сонца ўсюды ходзіць з ласкай,
Сонца свеціць роўна ўсім;
Сонца — радасць, сонца — казка,
Што зганяе з сэрца дым.
У Сымонкі думак многа,
Не запішаш нават іх,
У іх ёсць свая дарога,
Сцежак тысяча крывых!
Перадумаў ён нямала,
Многа ўспомніў тут чаго,
І пытанне вось займала:
Што патрэбуюць з яго?
Тут усе яму чужыя,
І ён тут усім чужы,
Толькі кухар тоўсташыі
З ім бы трошкі падружыў,
Хоць прамовіў хлопцу слова,
Хай сабе на свой фасон.
Тут усё для хлопца нова,
Як-бы сніць ён нейкі сон.
А мо' гэта і ёсць зданне,
І ўсё знікне, як туман?
Аж тут зараз па сняданні
Заклікае хлопца пан
Учарашні, пан Галыга,
Ды кусlівы-ж ён, псялыга!
— Ну! музыка саматужны,

Пакажыся, што за «грач».—
Жарты, смех пранёсся дружны.
— Стасю, Вітак, Ян! пабач,
Што за сурдут адмысловы
Або майткі!.. Як се маш,
Пан вяльможны, краль замковы!
Нашу просьбу, пан, заўваж! —
Так сустрэлі там Сымона
Хлапчукі і гэты пан,
Бы прыбілася варона
У лебядзіны панскі стан.
І які з яго музыка?
Што за «фацата» знайшлі?
І ці можа быць вяліка
Вартасць з гэтакага лыка,
Сына торбы і зямлі?
Ды Сымон не паддаецца,
Скрыпку ён сваю бярэ,—
Струнны звон чароўна льецца,
То дужае ён, то мрэ.
Адгукнуліся пакоі,
Падхапілі гожы зык;
Спалі жартаў тых настроі,
Прыкусілі ўсе язык.
А Сымон іграе-творыць,
Ён забыўся, ён не тут,
З ім цяпер той лес гаворыць,
А там вочкі чыесь зорадь,
Разліваюць нейкі цуд
І вяселяць струнны гуд,
Адчыняюць ім прасторы.
То не музыка — натхненне,
Сэрца жар, агонь душы,
Злотаіскрае імкненне,
Песня зорнае вышы.
Пан Галыга збіты з тропу,
І не верыць ён вушам,
Ён вачэй не зводзіць з «хлопа»,
Чарам тым паддаўся сам.
— Гм! цікава!.. Ну, здзіўленне!
Але тэхнікі ёсць брак...

Гм! праўдзівы ты мастак! —
Пан сказаў у заключэнне.
Ён музыкам быў у замку,
Капельмейстра меў пасад.
— Ты, відаць, хлапчына цямкі,
А цяпер такі загад:
Я зайграю на раялі,
А ты ўтор мне падбяры, —
Вочкі ў хлопца бліскалі,
Слухаў ён хвілінкі тры,
Потым зразу ў тон цаляе,
Падбірае гэты ўтор,
Такт ні разу не губляе,—
Смеласць чуецца, прастор.
— Маладзец! — сказаў Галыга: —
А ты граматны, ці не?
— Дзе-ж было вучыцца мне?
Абмінула мяне кніга!—
Хлопец кажа ў засмучэнні...
— А што гэта вось, панок?
— Гэта? нотавы станок...
Але, хлопча, без вучэння
Пуста будзе тлумачэнне.
Гэта ёсць такое поле,
Дзе арэ, але не плуг,
Дзе скародзяць, ды не ролі,
Дзе сявец, ды не пастух,
І ён сее не насенне:
Тут пакінуў след натхнення
Іншы сейбіт — творчы дух.
А збірае гэта жніва, —
Зазначае пан пыхліва, —
Той, хто ведае навукі.
Слухай вось, глядзі, малы! —
На раяль кладзе пан рукі,
І марш грымнуў удалы.
Льюцца гукі гучна, бурна,
Віхрам кружацца-плывуць,
Выкрунтасіста-бравурна,
Аж паветра тое рвуць.
— Чуў, што ў знаках тых замкнёна?

Бач, як ноты ажылі!—
А Сымон глядзіць здзіўлёна
І не чуе той зямлі.
Вось дзівота, дык дзівота!
У пыл зражаны Сымон;
То на пана, то на ноты
Пераводзіць вочы ён.
Ну, ці-ж гэта не здзіўленне?
Гукі робяць там сляды!
А той пан у здаваленні
Вус пакручвае руды.
— Ну, што скажаш?—Ой, паночку!
Я хацеў-бы ведаць ноты...
Пашкадуй мае цямноты:
Навучы, скінь з мяне ночку,
Каб і я мог чытаць кнігі
І па нотах граць, як пан! —
Хлопец гне прад ім свой стан,
Не шкадуе той фатыгі.
Пан Галыга ўставіў вочы,
Нібы крануты быў ён.
— Гм, вучыцца ты ахвочы! —
Сам цяпер ён быў здзіўлён...
— Ну, ты вольны... там пабачым...
Ідзі ў сад сабе гуляй,
Але, хлопча, памятай, —
Помні ты свой лёс жабрачы! —
Вышаў хлопец на дзядзінец,
Ясны дзень... Багацце, пых,
А ён тут адзін, чужынец,
Ён адзін сярод чужых.
А ў душы бы вір віруе,
Новы свет устаў прад ім;
Ён так горне, так чаруе
Новым выглядам сваім.
У ваччу ўсё тыя ноты,
Кропкі, хвосцікі, кручкі...
Ох, як многа ў ім ахвоты
Расчытаць тыя значкі!
Як-жа выканаць жаданне?
Як заслону тую зняць,

Што хавае свет пазнання,
Як заклятая пячаць.
А тут, што ні крок, то дзіва,
Нібы баечны то кут!
Хлопец стаў, глядзіць маўкліва —
Хараство, багацце, цуд!
А той замак — ух, махіна!
Мур адзін наводзіць страх,
І няветла яго міна;
Перад ім ты — муха, прах!
Страшны замак, цяжкі, грозны.
Пара вежаў, як адна,
А навокал роў глыбозны,
І не згледзіш яго дна.
Колькі-ж трэба было працы,
Каб тут вырасла гара?
Хто дбаў князю на палацы?
Хто назнёс яму дабра?
Хто выводзіў тыя вежы?
Хто той замак будаваў?
Злотаблескія адзежы
Хто для сцен яго саткаў?
Чые рукі з мазалямі
Тут знясліі свае дары?
Потам, кроўю і слязамі
Сцамантованы муры.
Колькі роскашы — страхоцце!
А нашто яна? Каму?
На сваё зірнуў лахмоцце, —
Чаму стала так? Чаму?
І гарчэча-адчуванне
У ім кідае свой мут,
І ўстае ў душы пытанне:
«А дзе-ж тая праўда тут?»
Ім — усё, а нам — нічога,
Адным жыць да панаваць,
А другім — адна дарога:
Сваё жыцце марнаваць!..
Не, не добра тут, журботна,
І нейк ваража-маркотна.
Ён ад замку ідзе ўлева.

Парк. У парку весялей,
І прыветней і святлей;
Там гуторыць з дрэвам дрэва,
Між іх чуешся смялей.
А дарожак тых як многа!
І раўнюсенькі-ж яны!
Слаўна тут, няма нікога,
Толькі спеў чуваць дзіўны.
Ён прыслухаўся — гудзенне,
Мяккі звон і роўны шум,
Сугалоснае злучэнне
Невыразных песень-дум.
Ён успомніў ноты, пана
І мелодыі ў знаках,
Ці не тут пясняр нязнаны
Ноты склаў у тых лістках?
Ён паслухаў: у гайданні
Гэтых голек спеў чуваць...
Зноў гарыць у ім жаданне
Мудрасць кніжную пазнаць.
О, які-б ён быў шчаслівы,
Каб меў мудрасці той ніць!
Ён пайшоў-бы ў свет маўклівы
Людзям вочы адчыніць...
Слаўна ў парку! А там, далей,
Лесу кудзерка відна.
Збоку хвоя — краля-краляй,
Так купчаста-зеляна!
Прыпыніўся пад той хвояй.
Лес успомніўся другі,
Лес далёкі, дарагі.
У тым лесе — яны двое.
Была рада так Ганулька!
Дрозд спяваў на ўсе лады,
Кукавала штось зязюлька,
Мо' лічыла ім гады.
Ды якія? хто згадае?
Варажыла, ды пра што?
Эх, вясна ты маладая!
Хто не ведаў цябе, хто?
Заглядала ціш лясная

На льняныя дзве касы...
Толькі ён да сонца знае
Гэтых спеваў галасы.
І знайсці ён хоча слова,
Многа слоў, і слоў жывых,
Каб тых гукаў сэнс і мова
Ясна вылiлiся ў iх.
Блiснуць у бяздоннi вячэрнiя зоры,
Зямлю чуць авее таемная цiша, —
Імя тваё ў сэрцы мне думка напiша,
Імя тваё скажуць мне тыя прасторы,
Дзе срэбраны серп пазiрае са ўзвышша,
І вочы твае мне паказваюць зоры.
Калi ясным ранкам адвечнае сонца
Запалiць у росах мiльёны вясёлак, —
Я чую твой голас у шолаху зёлак,
Я чую твой голас у спевах бясконцых
Травы прыбярэжнай, дзе мыецца золак,
І усмех твой ясны адсвечвае сонцам.
І поўдзень, i вечар, i ззянне дзяннiцы,
Прасторы надзем'я, ружовыя далi, —
У моманце кожным сустрэчанай хвалi
Пакiнуў мне вобраз твой след блiскавiцы;
З табою я ў шчасцi, з табою i ў жалi,
Ты ўсюды мне ззяеш блiсканнем дзяннiцы.
Ты — мая радасць, маё летуценне,
    Ты — песня натхнення,
    Ты зорак — блiсканне,
    Ты — голас свiтання,
Ты — краскавых струн дрыгаценне;
Ты — водгук сэрца, душы парыванне,
    Ты — выплыванне
    Вясёлкi агнiстай,
    Ты — блеск прамянiсты,
Ты — сонцавых косак блуканне...

    Быў у замку дзед Данiла,
Родам дзесь з-пад Мазыра.
Ласка князя прыхiлiла
Дзеда тут памiж двара
Бацька князя маладога

На Палессе наязджаў;
Вепраў біў, ласёў біў многа
І мядзведзяў паляваў.
Але раз быў зроблен воступ;
Пушча-цемра ў зімні час
Чула рог і людскі поступ
За ўсё жыцце першы раз.
І пакрыўдзілася пушча:
Хто ступіць смеў у яе?
І знак грозны невідушча
Верным служкам падае.
Устае мядзведзь, вылазіць
І, угнуўшы галаву,
Садзіць просценька на князя —
Разарву, моў, разарву!
І, як бура, націскае.
Князь злажыўся і — бах-бах!
Звер на лапы прысядае,
Зубы выскаліў і — шах!
Хто быў блізка — прэч з дарогі!
Князю некуды ўцякаць, —
«Аман», — думае нябога,
Стрэльбы некаму падаць.
А мядзведзь вось-вось аблапіць,
На два крокі ўжо падбег,
Падабраць ён князя квапіць,
Ды ў той момант — шусь у снег!
— Кінь ты, княжа, сваю жынку,
Каб не смела пудлаваць!
Вось дзе стрэльба! — Паядынку
Стаў Даніла выхваляць.
— Хай звязаў я лыкам рулю,
Але пудла не дала,
І глядзі, якую дулю
У чмыс зверу паднясла! —
Князь Данілу абнімае.
— Ты жыццё мне дараваў! —
Як аддзякаваць, не знае.
— Што табе даць? — запытаў.
Паляшук-ляснік абцёрся,
Выняў люльку з капшуком,

Крок назад ступіў, прыпёрся
Ён да хвоі плечуком.
— Памяняйма, князь, на люлькі, —
Кажа проста паляшук: —
А ў прыдачу да крывулькі
Я табе, князь, дам капшук. —
Засмяяўся князь, вымае
Сваю люльку, аддае,
А Даніла разглядае,
Рады, цешыцца з яе.
З таго часу ўжо ніколі
Князь яго не забываў
І пасаду, лес і поле,
Ён яму падараваў.
Прыязджае князь, бывала,
На Палессе паляваць,—
Па Данілу пасылалі
Князя ў лесе праваджаць.
І ніхто так, як Даніла,
Не знаў пушчы той, лясоў.
Гадавала і ўскарміла
І Данілу, бы звяроў,
Шыр балотаў несканчоных,
Пушчаў дзікіх гушчары,
І ў яе таемных лонах
Чуўся панам у двары.
Потым князь забраў Данілу,
Прыпісаў яго ў свой двор,
Хоць яму і больш быў мілы
Бор палескі, родны бор.
Дзед Даніла парк вартуе,
Службу верна ён нясе,
Ўсё агледзіць і прачуе,
Ўсе кутыператрасе.
Тая-ж вопратка мужыча —
Світка рудая і брыль.
Дзед Даніла ціха смыча,
Сам з сабою штось мармыча, —
Мо' Палесся казка-быль
Дзеду думкі ўзварушыла,
Пушча ў памяці ўсплыла,

І душа па ёй тужыла, —
Паляцела-б, каб магла.
Дзед пад хвояй штось зважае,
Павярнуў, ідзе туды.
— А ты хто такі? — пытае:
Баравік ты малады?
— Я — замковы, дзедка, божы,
Ці не можна тут пабыць?
Тут так добра, гэтак гожа,
Лес — што з небам гаманіць. —
Усміхнуўся дзед Даніла.
— Любіш, хлопча, лес?.. Эге-ж,
Хараство ў лясочку, сіла...
А ты тут даўно жывеш?

IV

— Эхе-хе, мая дзяціна, —
Уздыхнуў Даніла дзед:
— Падрабнела і людзіна,
Падрабнеў цяпер і свет.
А лясоў ты настаяшчых,
Бачу, хлопчыку, не знаў,
Нетры, нерушаў лядачых —
Дзе табе! — не сустрачаў.
Ты падумай толькі: пушча!
Дзень ідзеш і два ідзеш,
І такая табе гушча, —
Вокам цемры не праб'еш!
І такія дзеравякі
Ты натрапіш, брат, у ёй,
Што прад імі стане ўсякі
Падзівіцца іх красой.
Тоўшч і веліч — страх праймае,
Волас дыбам устае!
А як пушча загуляе,
Зашуміць ды запяе!
Вось дзе музыка — паслухаць...

Але пушча больш маўчыць,
Ды не ўсякім носам знюхаць,
Што ў нутрох яе ляжыць...
Не быў ты ў вялікім лесе:
Войдзеш — свята вее ў ім,
А ўгары, зялёнай стрэсе,
Цягне спевам маладым.
І заўваж, мой хлопча-колас, —
Дрэва кожнае ў бары
Мае свой асобны голас,
А зацягнуць угары —
Спеў выходзіць самавіты,
Эге-ж, хлопчыку мой, так:
Лес гаворыць, а скажы ты, —
Не паверaць аніяк...
А лес, хлопча, хоць ён дзікі,
Але мудры і дзіўны,
Сэнс ён мае патайны,
Асабліва бор вялікі. —
Дзед прымоўк у задуменні
І, панізіўшы свой голас,
Зноў гаворыць:
— Вось здарэнне,
Ты паслухай, што было раз:
Знаў я пушчу на Палессі...
Што за дзіва? стаў я чуць
Нейкі шум у яе стрэсе,
Незнаёмы, асаблівы,
Голас жаласны, тужлівы,
Дрэвы смутна нейк гудуць.
У другіх лясох — нічога,
Там звычайны гоман-шум,
А ў той пушчы — плач, нябога!
Я гадаў і думаў многа,
Так і гэтак браў на вум, —
Не разблутаў той загадкі.
Так аб ёй я і забыў.
Раз зімою пад калядкі
Зноў я пушчай прахадзіў.
І што-ж? пушча тым-жа ладам
Шум цягнула свой тужліва.

Ну, аж проста брала дзіва:
Дзе прычына гэтым звадам?..
Што-ж ты думаў? — тую пушчу
Адкупілі гандляры,
І праз сэрца, яе гушчу,
Перайшлі іх тапары. —
І дзед раптам замаўкае
Ды на хлопчыка глядзіць,
Палец к чолу прыціскае.
— Ну, як будзеш тут судзіць?
— А вам, дзедка, не здавалась,
Вы не думалі аб тым,
Што у лесе адбівалась,
Як адбілася ва ўсім,
Жыццё, дзедку, адчуванне?
Я так думаю, дзядок,
Што на свеце ўсё дазвання,
Нават камень і пясок,
Мае думкі і настроі,
Толькі-ж нам іх не згадаць:
Трэба чыстым быць душою,
Каб іх тайнасці пазнаць. —
Дзед у хлопца ўтарапіўся.
— А цікавы ты хлапец:
Развяжаеш, як мудрэц,
Бы старэчым ты радзіўся. —
Азірнуўся дзед таёмна.
— Стаў я штось тут прымячаць,
Эге-ж, хлопча: ночкай цёмнай
Штось дзіўное тут чуваць.
Штось тут творыцца уночы, —
Сам пачуеш ты, эге-ж,
Ці то жарты патарочы,
Ці то знак які прарочы,
Ці там што — не разбярэш.
Не натрапіш тога следу,
Не налучыш ты на троп. —
Пазіраў Сымон на дзеда,
На маршчыністы той лоб
І так слухае ўнікліва —
Захапляе хлопца дзіва.

Сымон.

А якая-ж тут праява?

Дзед Даніла.

Эге-ж, хлопча: дзіўна справа,
Хтось цярэбіць тут дарогу...
Будзе змена, будзе змена!
Ідзе новае калена,
Яно тут, каля парогу,
Бо на свеце ўсё не вечна,
І зямля свой твар мяняе,
Хваля хвалю паганяе,
Пераходзіць бераг рэчны, —
Усё ў стане пераходу,
А тым болей, хлопча, людзі:
Яны самі сабе суддзі,
Хто згадае іх прыгоду?

Сымон.

А скажы мне, дзеду любы,
Чаму так на свеце стала,
Што адным даецца мала,
А другому — аж да губы?
Хоць-бы тут: раскошства, пыха,
А багацця, ох, багацця!
А другі ў ярме закляцця
Шлеі цягне, сваё ліха?
Хто багацце размяркоўваў,
Той дзяліў несправядліва,
Не для ўсіх зямля ўрадліва...
Чыя-ж гэта воля-змова?

Дзед Даніла.

Эге-ж, хлопча, у тым справа,
Што не роўны людзі ў свеце;
Слабы, цёмны жыве ў смецці,
А дужэйшы правіць права,
Ездзіць, лейцы ўзяўшы ў рукі...
Эге-ж: сіла ў гэтай штучцы.
Але, хлопча, лейцы рвуцца,
А без іх няма панукі.

Сымон.

А чаму-ж бы іх адразу
Не парваць, дзядок, і квіта?

Дзед Даніла.

Іх часіна не пазбыта,
Не настаў той час заказу.

Сымон.

А хіба-ж ён сам настане?
І наогул сам ці прыдзе?
І ці будзе канец крыўдзе?
Калі ждаць другога стану?

Дзед Даніла.

На ўсё ёсць свая часіна,
І ўсё прыдзе ў сваім часе,
І заслона ўжо ўзнялася,
Дзе хавалася прычына.
Ёсць у свеце розум нейчы,
Ён і піша ўсім законы,
Накладае забароны,
Час вартуе кожнай рэчы,
Ён знімае і кароны.
Што йдзе проціў яго волі
Ці не ў часе выступае,
Тое нішчыць цьма сляпая,
Тое жыць не мае долі.

Сымон.

А як стане не ў трыванне,
І тады чакаць пакорна,
Покі стане жыць прасторна?
А змаганне? Дзе-ж змаганне?
Ой, не, дзедку: проціў сілы
Можна ставіць толькі сілу,
Калі хочаш ты ўстаць з пылу,
Калі цягнуць з цябе жылы.

Дзед Даніла.

Хо-хо, хлопча: ты гарачы!
Ну, а ў замак як папаў?

Сваёй воляй прытрапаў?
Эге, не, мусіць, іначай!
Дзе-ж было тваё змаганне?
Толькі ў думках, так ці не?
Адлажыў, здаецца мне,
Ты свой момант пaквітання...
Не, мой хлопча, нічагутка
Ты не зробіш без пары,
А надарыцца мінутка,
Тады ўсё тваё — бяры...
А ты, хлопчыку, музыка?
Гэта скрыпіца твая?
А ну, хлопча, папілікай.
Маладым быў, граў і я.
 У тым парку радавітых
Тых князёў-багатыроў
Хвалі гукаў самавітых,
Смуткам, скаргай апавітых
Цёмных пушчаў і палёў,
Палiлiся, задрыжалі,
Як-бы срэбра рассыпалі
У галінках тапалёў.
І, здавалася, жывое
Нешта йшло ад гэтых струн,
Бы дух згоды і спакою,
Чараўнік які, вяшчун,
Натыхае ім, дрыготным,
Каб высока душу ўзняць,
Каб вясёлым і маркотным
Чары гукаў паказаць.
Слухаў дзед, акамянелы,
Апусціўшы вочы ўніз,
А пад вусам пабялелым
Губы ціханька траслісь.
Часы «жыткі» маладое,
Родны кут, далёкі край,
Гоман пушчаў, голас хвояў, —
Дзе ўсё гэта? не пытай!
Не вярнуцца ім ніколі!
І цяпер, бы скрозь туман,

Устае прад ім і поле,
І балоты, і курган.

Дзед Даніла.

Здольны-ж ты, мой дабрадзею!
Ты навёў туман чароўны;
Гэты гоман струн бясслоўны
Так расчуліць сэрца ўмее!..
А дзе-ж ты спыніўся ў замку?
І спытаць было не ўцямку.

Сымон.

Там, пры кухні.

Дзед Даніла.

А ты-б можа
Перайшоў ка мне, нябожа!
Там душы агонь затухне...
Не люблю я псярні панскай,
Палупанкаў, ахмістрынь —
Дух падлізніцкі, паганскі,
Прападзі ён там і згінь!
А мой дом — унь, бач, альтанка?
Будзем там мы жыць удвух,
Хай сабе не мураванка,
Ды ў ёй наш сялянскі дух.

Сымон.

Шчыра дзякую, дзядок!
Вельмі рад, пайду ахвотна,
Бо мне, дзедку, там маркотна —
Там ступіць баішся крок.

Дзед Даніла.

Ото-ж бачыш! А са мною
Будзе лепш табе, эге-ж.
З дзедам ты не прападзеш,
Як за добраю сцяною.
Дзедава альтанка
Зроблена з аполкаў,
Чыста ў ёй і светла;

Печ, як маці, ветла.
Горне, як каханка,
Дзедава свяцёлка.
Хараша і проста —
Дзед Даніла з густам.
І палок выгодны,
Блізкі сэрцу, родны.
Сплецена з бяросты
Кайстра густа-густа.
У сцяне лапчасты
Рог, мабыць, ласіны.
Стрэльба-паядынка
І труба-старынка,
Спрытна, выгінаста,
Зроблена з лясіны.
Ёсць тут і ашэстак
І лучнік пры печы, —
Словам, свая хата
Селяніна-брата.
Многа блізкіх вестак
Кут дае старэчы.
І застаўся тут хлапчынка.
Знікла тая марката:
З дзедам кожная часінка
Так ці йначай занята!
То гамоняць між сабою,
То майструюць што-нібудзь
Або важнаю ступою
У абход у парк ідуць.
Падзівіцца-ж тут было чым,
Разважаць было аб чым,
А Даніла быў ахвочы
Волю словам даць сваім
І даць нават тлумачэнне
З свайго погляду-знацця
Неразгаданым спляценням,
З'явам цёмнага жыцця.

Раз увечар дзед з Сымонам
Вышлі ў парк у свой абход.
Сутунела. Дзесь за клёнам

Месяц чырваніў усход,
Выступаючы ў абходы,
Што прызначаны яму;
Зоры з неба вокам згоды
Углядаліся скрозь цьму.
Было ціха і лагодна.
— Стой, паслухаем, дзядок:
Дзесь іграюць, дзедка родны...
Выйдзем унь на той грудок.
— Гэта, хлопча, тут не дзіва!
Эге, тромкаюць паны! —
Хлопчык гукі ловіць хціва,
Ім валодаюць яны.
Зноў гарыць у ім жаданне
Тайнасць нотаў пасягнуць
І заслону адгарнуць,
Каб развеяць ноч нязнання.
Ён ідзе на тыя гукі,
Ён стаіўся пад акном,
Зашчаміўшы моцна рукі, —
Ён не смее вайсці ў дом:
Там — паны, а ён — басота,
Сын мужычы, ён — «псякосць»,
Паднявольны ён тут госць,
Яго месца — каля плота...
Эх, няроўныя дзве часці!
Ён — нікчэмнасць, ён — друза...
І з вачэй гатова спасці
Крыўды горкая сляза.
Эх, для панскае пацехі
І для забаўкі паноў
Вы, саломенныя стрэхі,
Марна траціце сыноў!..

V

— Дзедку, глянь, а што бліскае
Там, дзядок, каля крыніц?
Бліс — і зараз-жа знікае...
Што за з'явіна такая?
Што за забаўкі начніц?

— Эге-ж, хлопчыку: зман гэта,
На такі агонь не йдзі:
Ні цяпла ў ім, ні прывету —
Лепш туды і не глядзі;
Не шукай агню такога:
Не даецца ў рукі ён,
Бо над ім вісіць праклён.
То — спакуса для дурнога,
То — праявіна ліхога,
Каб забраць каго ў палон.
Гэта — грошы заклятыя,
Іх замовіў чараўнік,
Неадступны вартаўнік
Там вартуе грошы тыя. —
Ноч у парку. Ціха, цёмна.
Неба зорамі дрыжыць,
А той замак патаёмна
Штось затойвае, дзяржыць;
І жудою патыхае
Ад сляпых яго акон.
Цяжка замак спачывае,
І трывожны яго сон.
А ў мурох у тых часамі
Глуха штось зашарахціць,
То сярдзіта за сцянамі
Нейкі гук затарахціць;
То застогне ў сценах, трэсне,
Як-бы хто ў іх кашляне,
То пачуецца там песня,
То ў акне крыло махне.
— А што гэта, дзедку мілы,
Там снуецца над акном?
Нейкі шолах мяккакрылы...
Гэты замак — страшны дом!
— А то, хлопчыку, кажаны;
Толькі змеркне на дварэ, —
І цянюе рой паганы,
Нейкі рух яго бярэ.
Скуль іх толькі назлятае!
Піск, гармідар, лопат крыл...
Іх тут нешта прыцягае,

Вось ім замак гэты міл.
Эге, хлопча: нешта чуюць...
Замак, хлопчыку, стары:
Многа ўжо вякоў вякуюць
Тыя цёмныя муры.
Іх не дождж і ні марозы
Не размочваюць, не б'юць,
Бо скрозь іх, мой хлопча, слёзы
Крыўды, здзек людскі цякуць,
І пакуль не перастануць
Слёзы гэтыя цячы,
Да тых часаў сцен не крануць
Іх разбурання ключы...
Э, мой хлопчыку, каб замак
Мог, як людзі, гаварыць!
Колькі цёмных-цёмных плямак
Мог-бы людзям ён адкрыць!..
А ты чуў, што людзі баюць?
Эге-ж, я табе скажу.
Можа людзі выдумляюць,
То і я табе салжу.
Кажуць людзі так, што ў сцены
Тоўстых замкавых муроў,
Каб абходзілі іх змены
І не брала плынь вякоў,
Як будынак закладаюць,
Замуроўваюць жывых.
Так, мой хлопча, людзі баюць,
Так пяецца ў песнях іх.
Вось затым-жа, хлопча, страхі
Там здараюцца не раз.
Вось і тут у позны час
Ходзяць чорныя манахі,
Нейкі носячы абраз,
І чагось яны шукаюць;
Так бывае раз у год.
Ноч паходзяць і знікаюць,
Каб у свой прыйсці чарод.
Звоны звоняць дзесь тут самі,
Самі паляцца агні,
За глыбокімі равамі

У паўночнай цішыні
Чутны песні пахавання,
Там працэсіі ідуць,
А ў труне ва ўсім убранні
Галаву чыюсь нясуць.
І вось дзіва: галава,
Як гамоняць тут, жыва.
Пазіраюць злосна вочы,
Зубы ляскаюць сярдзіта,
Губы ходзяць прагавіта,
А сама ўсё штось бармоча...
Можа байкі, хлопча, гэта,
Можа праўда, не скажу,
Але ёсць адна прымета,
Пойдзем, хлопча, пакажу.—
Цёмна ў парку і нейк пуста,
Дрэвы жудасна маўчаць,
А пад імі густа-густа
Цені чорныя ляжаць.
Страшна хлопцу мімаволі,
Прабірае яго жудзь,
А высокія таполі
З мроку зданкамі ўстаюць.
І чым далей, больш глушэе
Гэты цёмны парк стары;
Тут сапраўдным лесам вее,—
Страшна ў цёмным гушчары.
    Зварачае дзед з дарожкі.
Мрок гусцей над імі звіс.
Месяц тоненькія рожкі
Чуць скасіў, схіліў наніз.
У лагчыне перад імі
Сталлю возера блішчыць.
Дзесь за вербамі старымі
У траве бугай бубніць.
Самі-ж вербы, як бабулі,
Нейк набожненька стаяць.
Штосць зашэпчуць: «чулі-чулі»
Чараты ды зноў маўчаць.
Крэхча роўна, аднатонна
Жабак смутны харавод.

То — аераў казка сонных,
Скарга нейкая балот.
След бліскучы, слуп агністы,
Лёг ад месяца ў вадзе.
Дол вільготны і расісты.
Нікагусенька нідзе.
— Ну, вось тут. — І дзед спыніўся
Ды паказвае ў гушчар: —
Штучкі строіць там штукар,
Але сёння штось спазніўся. —
І стаў слухаць дзед уважна.
— Во! во! — дзесь у гушчары
Нібы шум прайшоў працяжна,
Хлопца штурхае стары:
— Эге, чуй: аб тэй пары
Там сякеры стук нясецца.
Сам сабе не верыў я,
Думаў, можа мне здаецца,
Ці там забаўка чыя. —
Дзед змаўкае. Стукі глуха
Раз-па-разу чутны ім.
То адно прыложыць вуха,
То паслухае другім
І Сымону дзедківае.
— Дзедку, што гэта? сякуць?
— Гэ, праява тут другая...
Ось дзе розум і марудзь...
Эге-ж, хлопча, у тым справа,
Што сячэ не чалавек.
Праўда, хлопчыку, цікава?
Варт здзіўлення дрывасек.
І прыкінь на розум, хлопча,
Што парубак там няма
І травы ніхто не топча:
Так, работа, надарма. —
І дзіўны гук, непрыемны,
Ці ён тут, ці йдзе здалёк,
Невыразны, патаемны,
Стукне тут, адыйдзе ўбок.
Потым, выбраўшы мясціну,
Дзесь запыніцца, гудзе,

Але глуха, бы ў судзіну;
Ходзіць рэха па вадзе.
І ўжо доўга не змаўкае!
Гак-гак! Гак-гак! Гак-гак!
Нібы дрэва падсякае
І кладзе там нейкі знак.
Потым раптам шум панёсся,
Заскрыпела штось там: «крра!»
Бы пад стукам тапара
Волат-дуб стары затросся
І павольна з шумам-гукам
Стаў хіліцца ён галлём
І, за сук чапіўшы сукам,
Вобзем гухкае камлём.
— Паваліў, а дрэвы цэлы!..
Зараз зноў пачне там сеч,
Любіць, бачыш, гэта дзела,
Не шкадуе сваіх плеч. —
Праўда, зноў гудзе сякера,
Глуха, бы з-пад каранёў.
— Ну, пастой-жа ты, псявера! —
Брамку ў стрэльбе дзед узвёў,
Прылажыўся ён і бахнуў,
Блiснуў іскрамі агонь;
Як пярун, стрэл гэты трахнуў.
Рэха, бы той лёгкі конь,
Па-над возерам пабегла
Незлічонай процьмай ног
І каня свайго распрэгла,
Дзесь прапаўшы ў чаратох;
Толькі гул пайшоў з балота,
Бы ўзбудзіўся вадзянік.
На міг спынена работа,
Стук на момант там унік.
— Што, злякаўся, недаверку? —
Усміхнуўся дзед у вус:
— Ці не трапіла ў «манерку»?
Ці не выскачыў дзе гуз?
Няхай стрэльба — не ламанка,
Але стрэліць — зробіць знак...
То не стрэльба, а каханка,

Нават старасць ёй не брак. —
— Дзедку, што ўсё гэта значыць?
Кажаш, там няма слядоў,
Хоць сякера там і скача,
Крышыць комлі гушчароў,
І чуваць, як дрэвы гучна
З шумам валяцца на дол...
Чалавеку — неспадручна:
Ты-ж пільнуеш неадлучна
І гаворыш, цэл і кол,
Непатоптана травінка,
А між тым работа йдзе,
І няма ёй тут упынку.
Во! ізноў тапор гудзе...
Так, няўцямна і таёмна...
Праўду ты казаў, дзядок...
Цёмна справа, дзеду, цёмна!
Нейкі зблутаны клубок.
— Эге-ж, хлопчыку, на свеце
Многа розных ёсць загадак,
Ды для іх ёсць свой парадак,
Іх ключы — у іх прымеце.
Аб іх вецер нам гаворыць,
І шумяць аб іх лясы,
І глядзяць яны з расы,
Аб іх кажуць неба зоры,
Воды ў рэчках і азёрах,
Ліст на дзераве і цвет, —
Многа, хлопча, тых прымет.
Нават звер у сваіх норах
Носіць іх адбітак-след.
Так і тут, мой хлопча-браце ..
Не, не так гэта, не так!
Гэта ёсць прымета, знак,
Толькі трэба адгадаць іх.
Вось затым-жа чалавеку
І той розум, хлопча, дан,
Каб ён мог зганяць туман,
Што гняце яго спрадвеку,
І каб змог ён, позна-рана,
Зняць няведання пячаць,

А той напіс неўчытаны
Растлумачыць, адгадаць.
І не дарма-ж на Палессі
Чуў ад сталых я галоў,
Што ў жыцці мы, як у лесе —
Пад уладай нейкіх слоў.
І казалі яшчэ людзі,
Што нічога на зямлі
Патаемнага не будзе,
Дзе-б загадкі ні зляглі,
Як-бы дзей сваіх ні блутаў,
Ні хаваў сваіх канцоў:
Здзеку голас, боль пакуты
Не схаваць і ў мгле вякоў.
І зямля ў тым паклялася
Людскім горам і слязьмі...
Так і прыказка вялася
Між разумнымі людзьмі.
Эге-ж, хлопчыку, так кажуць,
Людзі-практыкі не лгуць:
Чыесь рукі сеці вяжуць
І на замак іх нясуць.
Не дарма-ж гудзе сякера:
Чуе парк тут свой канец.
Для ўсяго свая ёсць мера,
Свой у кожнага ганец. —

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

### І

На свет прабілася вадзіца,
Што век стаяла пад гарою,
Пад цяжкай цёмнаю карою.
Яна заззяла, бы зарніца
У цьме вячэрняю парою,
Калі над стомленай зямлёю
Навісне ночка-чараўніца.
Яе з'яўленне ў той краіне

Для ўсіх было вялікім святам,
Для ўсіх жаданаю была там
Рачулкі плынь бліскуча-сіня:
Палям, лясам і той даліне,
Дзе дуб-асілак звесіў шаты,
Дзе бусел меў дом на галіне.
Лагодна, дружна і шчасліва
Жыццё зайграла каля рэчкі.
У ёй паліла сонца свечкі,
І к ёй імкнулася маўкліва
І кальва жыцейка і грэчкі,
Аер, чарот, лаза, парэчкі...
На хвалях ветрык плыў жартліва.
І нават з неба зоркі ўночы
У ёй купалі свае косы
І мілы усмех свой дзявочы;
А гэты месяц безгалосы,
Ідучы небам на ачосы,
Зірнуцца ў рэчцы быў ахвочы.
Такія мела рэчка лёсы.
Адзін мароз не знае жалю,
Не любіць радасці і волі;
Прышоў, зірнуў, сказаў: «Даволі».
І б'е на рэчцы свае палі
Ды піша розныя крамзолі,
Бо сам тут хоча стаць на чоле,
І кайданы куе на хвалі.
І стала мёртва ў той мясціне,
Хоць шчодра клаў мароз там чары.
Асілак-дуб не сцерпеў кары...
І кажа ён сухой галіне:
«Спадзі наніз, як пярун з хмары,
Разбі ты скрэп халодна-сіні:
Няхай ізноў гуляюць плыні,
Няхай жывуць ізноў абшары».
Падняўся вецер: «Гэй, да зброі,
Каб даць жыццю тут вызваленне!
Мы знішчым холаду насенне
І лёд паганы ўвесь раскроім,
Паб'ём халоднае скляпенне,
І рэчку збавім з амярцвення

І новы лад мы тут устроім».
Шуміць, кіпіць, бурліць змаганне
За шчасце, волю і свабоду,
І лес зваліў на лёд калоду,
Разбіў яго тут скрэпы-тканне.
Мароз ізноў марозіць воду.
«Я ў лёд схаваю ўсю прыроду —
Мая тут воля, панаванне!»
Глядзела сонца ў засмучэнні
На калатню варожых станаў —
Не вырваць злу ад зла кайданаў.
І шле яно наніз праменні,
Заве да згоды-замірэння,
Каб сцішыць ласкаю буянаў.
І гэта ласка з дабратою
Спыняе тую трасяніну
І зноў выводзіць на пуціну
Дабра і згоды цеплатою.
І жывіць рэчка зноў краіну,
Вакол згуртоўвае расліну
І ззяе шчасцем і красою.

---

Ажывіўся замак хмуры,
Бляск, святло, гарацць агні,
Зіхацяць там вокны, муры,
Ззяюць вежы ў вышыні.
Парк жыве, гарыць і дыша.
Як каралі на шнурах,
Скрозь дарожак ззяе-пыша
І калышацца ў агнях
Срэбра лісцяў на галінках
Старасвецкіх ліп, дубоў.
То — маёўка-вечарынка,
То банкет — гульня паноў.
І спакойна, ціха, роўна
Блеск ліюць свой ліхтары
І сплятаюць так чароўна
Святло-цені на кары
Комляў тоўстых, нерухомых,
На галінках, на суках,

Бы застыў тут веснік громаў,
Блеск маланак на камлях.
А ўгары над гэтым бляскам
Звісла ноч яшчэ цямней,
А з глыбінаў неба казкай,
Поўнай чараў, ціхай ласкі,
Пазіраў яшчэ ясней
Гожы месячык няпоўны,
Чуць пачаты баханок,
І яму ноч з хмарак-воўны
Белы выткала вянок.
— «Уміраць ім тут не трэба:
Ім тут рай і ім тут неба», —
Думаў моўчкі дзед Даніла,
Збоку стаўшы ад паноў:
— «Што ім той свет? ім тут міла,
А памруць, па іх-жа зноў
Будзе пышнае маленне,
З пыхам гроб іх панясуць;
З раю светлага збавення,
Як і тут, нас адапхнуць».
А паны сабе балююць,
П'юць заморскае віно, —
Для іх робіцца яно, —
І ім лёкаі слугуюць,
Як тут водзіцца даўно.
Між адвечных жаралістых
І растрэсканых камлёў
Тоўстых клёнаў і дубоў,
Кругам стаўшых, бы маністы,
Стол даўжэразны аж гнецца
Ад закусак дарагіх,
Там віно шуміць і льецца,
Мова хмельная вядзецца,
Смех паненак маладых,
Разубраных, як у маі
Кветкі тыя на лугах,
Як вясной бярозкі ў гаі,
Як валошкі на палях.
І якіх убораў толькі

На паненках ні было!
Анталяжыкі ў дзве ролькі...
А іх белае чало
Авівалі кудры гожа —
Лён завітых валасоў.
А іх тонкіх галасоў
І музыка зграць не зможа.
Завушніцы і пярсцёнкі
Так і ззяюць і гараць,
Як у восак, стан іх тонкі,
Вочы зорамі глядзяць.
Шчочкі тыя, ну — сунічкі...
Эх, дзяўчаткі-чараўнічкі,
Лепш на вас не пазіраць!
А прамовіць-заспявае —
Пан шалее малады:
Чорт яго і бацьку знае,
Што з ім робіцца тады!
То прыскочыць, то прыгнецца,
То рукою павядзе,
Плечы ўскіне, засмяецца,
Як матыль над лямпай, ўецца,
Як над краскай чмель, гудзе.
— Гэй, панове, ўгурэн шклянкі!
Піем здрове свэй коханкі. —
Песню пан якісь заводзіць,
Драбязіць, бы той казёл,
І вачамі ўсіх абводзіць,
Чаркай стукае аб стол.
— Віват, ксёнжа наш вяльможны! —
І ўстаюць ураз паны;
Момант — чаркі ўсе парожны,
Князя гушкаюць яны.
Тут музыкі — лознік гібкі —
Падымаюць, хто кларнет,
Хто басэтлю, а хто скрыпкі,
Каб аздобіць той банкет.
Як утнулі-ж, як уцялі
З дысканта, а хто з баса,
Аж, здаецца, задрыжалі

Лісці, дзерава краса.
Кіраўнік на часці рвецца,
Пан Галыга — адзін рух,
То да скрыпак ён памкнецца,
То заверціцца вакруг.
Ходзяць рукі, як пружыны,
Адбівае тахт нага,
Лоб збіраецца ў маршчыны,
І сам гнецца, як дуга.
— А дзе хлоп, што ладна грае?
Гэй, музыку завалаць! —
Падгуляўшы князь гукае:
— Ўраз хлапака мне падаць! —
Сціхлі госці і музыкі.
З іх застылай грамады
Праціскаецца на клікі
Наш музыка малады.
Вышаў ён і пакланіўся,
Кінуў погляд на паноў.
Эх, і дзе-ж ён апыніўся!
Пых такі яму й не сніўся,
Колькі блеску і агнёў!
— Ну, зайграй-жа нам, каханы. —
Князь крутнуў свой чорны вус
І на белы той абрус
Ставіць локаць надзімана.
Граў Сымон ужо нямала,
А чаго-ж яго рука
Так парыўна задрыжала
Пад узлётамі смыка?
О, каб мог агнём пякучым
Ён ім душы апаліць,
Болем вострым, негаючым
Думкі іх усе авіць!
Каб адчулі крыж няволі,
Заняпаласць працяка,
Зыркі свіст вятроў у полі
І лёс гэты бедака!
Ён зайграў, і струны горка
Адклікаліся-гулі,

Аддавала іх гаворка
Гневам, крыўдаю зямлі...
Скончыў граць ён, — паны ў ладкі
Заляскалі, як адзін,
Мабыць панскія парадкі
Вымагаюць такі чын.
Вус у князя зварухнуўся.
— А скажы, каханы мой,
Што ты выказаць мануўся:
Думку, песню ці настрой?
— Я скажу, вяльможны княжа. —
І пачаў Сымонка так:
— «Хто пра гора тое скажа?
Дзень памрэ, і ночка зляжа,
Чорны ўздзеўшы андарак.
А дуб будзе смуткаваці,
Бо няма яго дзіцяці,
Бо такая доля іх.
Уміраў дуб, верх быў голы,
Тоўсты комель яго — кволы,
Шум лістоў яго заціх,
І была на ім галінка,
Маладзенькая дзяцінка,
На галінцы — жалудок.
— Я, сыночку, уміраю,
Я ў табе надзеі маю:
Падтрымай наш род, сынок!
Ты — мая адна надзея. —
Сына песціць дуб і грэе,
Сок апошні аддае.
На сухіх галінках дуба
Вольнай пташцы сесці люба,
Пташка песні там пяе.
Раз паны там палявалі
І пад дубам балявалі,
Справы робячы свае.
Ох, ліха-ж ты, сіла ўража!
Хтось з іх жолуд той заўважыў.
— Ну, ці знойдзецца стралец,
Хто галінку зніжа куляй? —

Для іх забаўкі і гулі,
А дуб чуе свой канец.
Вось адзін з іх абабраўся,
Стрэліў — дуб той захістаўся,
Чуць заслаўшыся дымком.
Куля роўна паляцела
І зрабіла злое дзела —
Збіла гольку з жалудком!
І галінка ў рэчку ўпала,
І вада яе пагнала
Разам з дубавым сынком.
Плача голька, жолуд ные,
Бераг рэчкі жальба крые;
А тым плачам чужаніцы
Забаўляліся, дурніцы,
Спрытнасць хвалячы сваю.
Эх, заплача паляўнічы:
Стрэліў ён не па той дзічы —
Жолуд вырасце ў гаю...
Бура ўсходзіцца, завея,
Згіне гэта пыха,
Бо хто зло-няпраўду сее,
Пажынае ліха».
«Ой, вяліка воля княжа:
Тое свята, што князь скажа.
Князь магутны, асвячоны,
Скарбы ў князя незлічоны;
Аднаго-ж і князь не можа,
Хоць казаць пра то нягожа:
Князь не мае волі-ўлады
Вольнай думцы даць парады.
Думка ходзіць, дзе захоча:
Ад зямлі да зор і сонца
Няма думкам забаронцы.
Думка праўду кажа ў вочы
І вялікім і малому —
Гора будзе твайму дому!
    Свежы, іншы вецер вее,
    Хоць ён вее ціха.
    А хто зло-няпраўду сее,
    Той зжынае ліха».

II

Волі, волі і прастору!
Прэч граніцы!
Жыве ў сэрцы плынь крыніцы,
Дух жывы — агонь дзянніцы.
Гэй, угору!
Волі, волі і прастору!
Не зайздрошчу вашай долі,
Багацеі!
Вы — крыўдзіцелі-зладзеі,
Вы разбілі мне надзеі...
Дык даволі!
Не зайздрошчу вашай долі...
Як здабылі рай свой панскі?
Чым купілі?
Сэрца ваша поўна гнілі,
Бруд у кожнай вашай жыле,
Дух паганскі...
Як здабылі рай свой панскі?
Згіне ваша тут багацце,
Панаванне.
І вам будзе час змяркання,
Ён нясе вам біч выгнання
І праклятце!
Згіне ваша тут багацце!
Зачынілі вы нам дзверы,
Свет закрылі,
Каб не даць разняць нам крыллі,
Каб не ўніклі ў вашы былі.
Але мысль — не ў вашай сіле.
Эх вы, зверы!
Мера вам — па вашай меры!
Беглі дні, міналі леты,
Так прайшло тут тры гады...
Эх, музыка малады!
Не дасяг ты свае мэты.
Жыў Сымонка тут надзеяй,
І так марыў ён аб тым,
Што панове-дабрадзеі
Ласку будуць мець над ім

І навучаць чытаць кнігі,
Ноты тыя разбіраць,
Сам-бы ноты стаў складаць, —
Граў-бы ён не горш Галыгі.
Ён аб гэтым думаў многа,
З дзедам радзіўся не раз,
Ды, вядома, у старога
Быў старэцкі і адказ:
— Кінь ты, хлопча, абэцадлы!
Лепей плюнь на іх, эге-ж!
Кнігі розум сушаць, падлы:
У сухоты ты ўпадзеш.
Знаў я кніжніка такога,
Што ўсё ведаць-знаць хацеў,
Начытаўся гэтак многа,
Што ў скурат ён ссох, нябога.
І што-ж думаў? — звар'яцеў!..
Дый вучыць цябе хто стане?..
Дзе ты бачыў! ты — мужык,
Трэба выламаць язык,
Тваю-ж мову апаганяць,
Хай зямля іх тут апране! —
Дзед старога ўжо закалу,
Зразумець не можа дзед
Прагавітага запалу
Пасягнуць навукі свет.
І надумаўся хлапчына
Да Галыгі завітаць,
Хоць ён жорсткі, як дубіна,
І становўка ўжо прыстаць,
Каб вучыў яго чытаць,
Хоць у тыдзень, ну, хвіліну.
Вось, набраўшыся адвагі,
Ён ідзе туды цішком,
А Галыга да сярмягі
Зварачаецца з смяшком:
— Ну, што скажа, пан музыка,
Саматужны мой Шапен?
— Просьба, пане, і вяліка...
— Што, пакрыўдзіў стары «тэн»?
— Не, прышоў прасіць васпана

Паказаць навуку мне:
Без навукі жыць пагана;
Яе сню, панок, у сне —
Так хачу я знаць навуку,
За яе-б аддаў жыццё...
Хоць-бы першае знаццё. —
І цалуе пана ў руку.
— Пакажы мне, панок, ноты,
Растлумач мне, як і што;
А за панскія турботы
Хай жыве пан гадоў сто.
— Сто гадоў!.. не кепска плата.
Што-ж, распіску дай ад бога;
Сто гадоў — яму нічога:
У яго гадоў багата...
Справа добрая — навука.
Славу, хлеб яна дае...
Але, хлопча, дзе парука,
Што не згінеш праз яе?
Ты разумен без навукі:
Помніш, князю што казаў?
Ты-б язык свой прытрымаў —
За такія, браце, штукі
У мех садзяць, каб ты знаў!
Вось затым сама прырода
Вас пускае слепаком,
Каб з вас менша была шкода.
Раз мужык — будзь мужыком,
Маеш хлеб — і жуй цішком,
Будзь даволен сваёй доляй. —
Што-ж з ім гутарыць тут болей?
Сорам хлопцу — так аплёван
У жаданнях, у імкненнях!
Як-жа так, каб у праменнях
Ды знявагі бруд быў схован?
Не: праменні чысты самі,
Струны чысты, дух што будзяць,
Але людзі і іх брудзяць,
Топчуць іх у гразь нагамі.
Горка стала тут Сымону:
Нё-ж ён будзе век сляпым

І не будзе век разгону
Гэтым марам дарагім?
«А дзе праўда, браце мілы?
Справядлівасць тая дзе?
Хто ў пагардзе да магілы
Лёс мужычы наш вядзе?
І чыя рука ліхая,
Чый-жа гэта жорсткі суд
Мне каменнем высцілае
Жыцця гэты цесны кут?
І чаго я тут прыдбаю? —
Разважаў цяпер Сымон: —
Права людскасці не маю,
У твар сунулі ражон!
Дык чаго-ж я марна трачу
Між чужынцаў дні свае,
Светлай волечкі не бачу?
Песні вольныя мае!
Эх, пара нам у дарогу!
Зачакаўся ты, мой кій,
Сэрца б'е сваю трывогу,
Вецер, голасна завый!
Бо хачу я ў спевах буры
Аднавіцца і аджыць
І дажджом грымотнай хмуры
Замку фуз і бруд абмыць.
Волі, волі і прастору!
        Прэч граніцы!
Ёсць жывыя там крыніцы
        Ззяюць зоры,
        Бліскавіцы.
        Гэй, угору!»
Поле шырокае, роднае поле
        І збожжайка шаты,
        Прастор многадумны
                Разумны!
Хай-жа спаткае нас шчырая воля,
        Асветліць і хаты
                І гумны.
Я — выгнаны сын ваш, так: я — бадзяга,
        Без ласкі, без долі;

Я — колас без нівы
Маўклівы.
Хай-жа адна нас атуліць сярмяга —
Той вецер у полі
Шумлівы.
Эх, лес цёмнакудры, мілы мой лесе,
Удумныя дрэвы,
Зялёныя шаты,
Мой брат ты!
Там лісцейка дуба высака ўверсе
Выконвае спевы
Заўзята.
Там весела-вольна, ціш там лунае...
Краіна другая,
І фальшы няма там.
Як з братам,
Гутарыць краска з табою лясная
І ты, дарагая,
Была там.
Сонейка ты маё, радасць мая ты!
Дзе ты цяпер? дзе ты?
Ты дух мой будзіла,
Жывіла...
Не: не міну, не міну твае хаты,
Хоць можа мяне ты
Забыла.
А тут... павуццё пана-магната,
Панурыя сцены
І валы-акопы,
Затопы.
Многа ахвяр тут, эх, як багата!
Ламалі рамены
Тут хлопы.
Ткаў прагавіты павук свае сеці,
І вязлі ў іх мухі
І мошкі малыя,
Сляпыя.
Але ёсць праўда, ёсць яна ў свеце,
Ёсць страшныя рухі
Жывыя.

З кожным днём мацней штосьгнала
Хлопца дальш ад гэтых сцен,
І душа яго жадала
Новых з'яў і новых змен.
— Эге-ж, хлопча: іншы рады
Панству ў замку слугаваць
І цярпець, знасіць іх зрады,
Толькі-б панскі стол лізаць. —
Адзін быў тут дзед Даніла,
З кім Сымонка сябраваў.
Адзінота іх радніла,
Голас волі іх злучаў.
Дзед любіў балот разлогі,
Глуш лясоў, дзе ён узрос,
Дзе хадзілі яго ногі
Летнім часам і ў мароз.
Хоць-бы раз яшчэ, здаецца,
На Палессе мне зірнуць:
Так душа туды і рвецца —
Пушчы роднай спеў пачуць.
Недалёк мой час змяркання,
Там-жа ўвесь мой род ляжыць,
І адно маё жаданне —
Там навекі супачыць. —
Жыцце ў замку йшло без змены.
Раз заведзены там лад
Не парушваўся, бы сцены, —
Цвёрды чыйся быў загад.
Ды на свеце ўсіх здарэнняў
Не прадбачыць і мудрэц,
А прыходзіць разбурэнне;
Дзе пачатак, дзе канец,
Дзе іх схованы прычыны —
Не ўсім сцяміць і згадаць,
Але грозныя навіны
Сталі замак засмучаць.
Князю ліха налучылась:
Князь забіт бы неўзнарок,
Чыясь куля памылілась
І прабіла яму бок.
Страх у замку заснаваўся,

Змоўк там шум, вясёлы жарт,
І над вежамі падняўся
Чорны ўвесь, як ноч, штандарт.
— Вось што, хлопча, гук сякеры,
Што мы чулі, азначаў:
Для няшчасця ў замак дзверы
Хтось уночы прасякаў...
Ну, цяпер разруха пойдзе,
Эге-ж, так: адна бяда
Спадарожных сабе нойдзе,
І ў кампанні цэлай войдзе
З ёю бед тут чарада.
Мы-ж цяпер з табою — мошкі,
Непрыметныя для воч:
Можам смела ў пуць-дарожку
З замку выбрацца мы ўпроч. —
Ноч у замку. Варам дыша,
Парнасць вее ад зямлі,
І паблісківае-пыша
Хмара цёмная ўдалі;
Віхар вогненны гуляе
І рве мрок узлётам крыл,
І гарыць і палыхае
За лясамі небасхіл.
А ў касцеле звоны звоняць,
Гукі жудасныя роняць, —
Позна правіцца імша:
Нагла зніклая душа
Грэх знявагі, уціснення,
Што ад роду ўжо і ў род
Гнуў людскія пакаленні,
Крыўдзіў знішчаны народ, —
Замаліць цяпер жадае,
Ноч гатова агарнуць,
Невядомы лёс чакае,
Жджэ яе нязнаны пуць.
І яшчэ страшней у замку,
Бы з адвечных тут муроў
Паспадалі часаў клямкі,
Каб папомсціцца за кроў...
— Час нам, час у пуцявішча,

Жджэ на возеры чаўнок...
Неспакойна неба блішча,
Навальніца йдзе, сынок.—
Рэжа човен водаў лона,
След-палёт тае стралы,
Слізгаціць чаўнок шалёна,
Гоняць два яго вяслы.
Далей замак з кожным разам
Бліснь маланка — ён, бы змей,
Страшным выплыве выразам
Ды ў мрок спусціцца чарней,
Нібы грозіць і сярдуе
На сваіх няверных слуг...
Човен дном пясок шаруе,
Цішыня і мрок вакруг.
Дзед з Сымонам пад вярбою
Селі буру пераждаць.
Жах маланка! а за ёю
Біць пярун пачаў, страляць.
— Дзед, глядзі: унь вежа збіта!
Бач, агні як абвілі!
— Эге-ж, хлопча: не забыта
Тая праўда на зямлі.

III

Не, не ведаў ніхто, скуль паўстала яна,
Гэта думка нябёс і зямлі.
Эх, убралі-ж яе светлы май і вясна —
З злотаблескаў хмурынку спрялі!
Пазірала яна, зачароўвала ўсіх
Шоўкарунннымі пасмамі кос,
Радасць, моцны прываб адбіваліся ў іх,
І шчаслівым здаваўся іх лёс.
І ляжала вакол без канца-берагоў
Гэта даль, задумення пячаць.
Хмарка хоча паплыць па бязмежжы святоў,
Каб жыцця свайго радасць пазнаць,
Бо для шчасця свайго і для ўцехі зямлі

Была выткана сонцам яна,
І да думкі такой усе згодна прышлі:
Неба высь і зямлі нізіна.
Але вецер падзьмуў, падняліся віхры
Там, дзе вечны здаваўся спакой,
Здрыганулася высь, узыгралі віры
Гэтай багны надземнай пустой.
І халодны віхор, бурагон-сухавей
Гэту хмарку-красуню чапіў,
Летуценне яе, радасць светлых надзей,
Паламаў, пакрышыў і пабіў.
— Ой, як ночанька яснютка!
У ноч гэту грэх і спаць.
Як прыгожа, як святлютка
Шыбы ў месячку блішчаць!
Хоць прысяду на пасцелі,
Пасяджу каля акна...
Спяць усе, як-бы памлелі,
Толькі я не сплю адна. —
Ганна коўдру адхіляе,
Штось на плечы накідае
І садзіцца на пасцель.
За акном агнямі зззяе
І іскрыцца снегу бель.
Стынуць вербы, бы змярцвеўшы,
Тчэ мароз ім свой узор,
Бы кахае іх, адзеўшы
Чараўны на іх убор.
У іх косах месяц зззяе,
Зоры сінія гараць...
І княгіня, хоць якая,
Так не зможа шчагаляць...
Эх, мароз, эх, дзед жартлівы!
Ты — аматар і штукар
Распісаць на шыбах дзівы,
Гожства поўныя і чар.
Халады, віхура свішча,
Хаты ў снезе аж да стрэх,
У тых комінах — ігрышча:
Плач надрывісты і смех.
Лес, да ніткі абадраны,

Як за подаці мужык,
Замест лісця ў бель убраны,
Іней тчэ яму башлык.
І палёў змярцвелі гоні,
Снег, бы посцілка, ляжыць,
Пуста, гола, — і вароне
Трудна корму дзе спажыць.
А мароз і не шманае,
Як-бы ён тут і не лыс,
І на вокны накідае
Свой малюнак-рукапіс.
І маляр ніякі ў свеце
Паспрачацца з ім не можа:
Хто напіша так прыгожа
Аб тым ясным, светлым леце?
Тут свабодны ўзлёт малюнкаў,
Тут шырокі светазор;
Тут і пальмы ўсіх гатункаў,
І караі ясных зор,
І дарожка тканкі тонкай,
Ручаінкі беражок,
Тут бяжыць у дзве старонкі
Зорна-роўны ланцужок;
Тут цукровыя чароты,
Лісце буйнае дубоў,
Спелых нівак пазалота,
Сноп нажатых каласоў;
Тут пляцёнкі-завітушкі,
Стрэлы гонкія, шчыт, лук,
Тут і пер'е райскай птушкі,
І ўсялякіх многа штук.
А як сонца блеск агністы
Гляне з усходу ў акно, —
Загуляе жар іскрысты,
Шугне полымем яно.
Ззяе шыбка, аж ірдзіцца,
Грае чырвань-пераліў
І стварае столькі дзіў,
Што не можаш надзівіцца.
У ноч месяц той чароўна
Ткань марозу серабрыць,

Мілай казкі гожа-роўна
Тчэ-пляце за ніццю ніць.
Ганна ў думках пазірае
У халоднае акно.
Ноч далёка рассцілае
Снягоў белых палатно.
Ціха, мёртва і тужліва,
Толькі лускае мароз,
Толькі зрэдку баязліва,
Бы па твары колькі слёз,
Іней скінецца з галіны
Зачараванай вярбы.
— «Дзе ён, мілы, мой ядыны?
Дзе, бяздомнік мой любы?
Дзе ён ходзіць, лёс шукае
Паднявольнік-галубок?
Кут-прытулачак ці мае?
Ёсць ці не — яму хлябок?
Хоць прыходзіла-б вясенька
Ды павеяла цяплом:
Пад жывым яе крылом
Жыці болей весяленька;
Хоць-бы лецейка любое
Надыходзіла хутчэй:
Доля-жыцце, хоць ліхое,
Летам чуецца лягчэй...
Эх, мароз, мароз траскучы!
Шклечкі краскамі ты ўбраў,
Толькі-ж холад твой пякучы
Краскі ў полі ўсе пабраў.
Тчэш красёнцы ты прыўдала;
Лёд — аснова і вуток,
Снег — і цэўкі і сукала,
Іней-зоры — твой чаўнок.
Для чаго-ж у зімні холад
Ты красёнцы лета тчэш
І пад свой халодны молат
Сэрца жар мой ты кладзеш!
Месяц, ты блінок ясненькі!
Ходзіш ты ў далёкі край!
Дзе-ж музыка маладзенькі?

Хоць ты вестачку падай!»
— Ганна, што табе не спіцца?
Час за поўнач, а яна
Села там і не лажыцца,
Як прышыта да акна! —
 Маці Ганну аклікае,
Прымушае дочку спаць
І чагось сама ўздыхае,
А чаго? Адной ёй знаць.
З таго часу, як музыка
Тут убогі пабываў,
Змена з Ганнаю вяліка,
Бы яе прычараваў.
Ганна стала больш маўкліва;
Зойдзе ў сад, сядзіць адна,
Штось там думае яна;
Проста матку брала дзіва —
Гэта змена так відна.
Паскупела і на словы,
Ні яе тут распытаць,
Ні пачуць яе тут мовы, —
Ну, дзяўчыны не пазнаць!
А надыйдзе ёй мінута,
Зараз песню завяла,
І душа ёй разамкнута,
Бы дзень майскі, весяла.
Ды дзіўная ўсё-ж дзяўчына:
Песні складвае сама,
А да песень — малайчына, —
Ну, ёй роўных тут няма.
Ці ўрадзілася такою,
Ці яе тут ураклі
І часінаю ліхою
Насланое навялі?
Ці пара яе такая,
Час дзявочае вясны?
Матка думае-гадае,
І нішто не памагае —
Ні знахар, ні шаптуны.
Час прайшоў — паспакайнела,
А спаткала яго — зноў

Штось у сэрцы зарунела:
Не астыла тая кроў.
Так за днямі йшлі дзянёчкі,
Распускаўся сад, лясы,
Зацвіталі і вяночкі
Той дзявочае красы.
Ганна — красачка дзяўчынка:
Рост у меру, тонкі стан, —
Пазайздросціць ёй былінка,
Што аздобіла курган.
Вочы Ганніны — дзве зоркі,
Броўкі — выгібы крыла.
Грудкі — дзве блізніцы-горкі,
Як сад, Ганна расцвіла.
Ды часамі задуменне
Ценем зляжа ёй на твар.
Сэрца ведае тамленне,
Сэрца знае слодыч мар.
Надыходзіць тройчы лета;
Жджэ яго ды жджэ дарма:
Няўжо-ж тая песня спета.
І ёй водгулля няма?
«І чаму ён — вось пытанне, —
Ганна думала не раз. —
І ў апошні той наш час,
У той мілы час спаткання.
Не схацеў зайсці да нас?»
Нейкі жаль бярэ дзяўчыну,
Сэрца смуціцца яе —
Тры вясны з пары тае!
Не: напэўна ёсць прычына.
Абяцаўся-ж ён так шчыра,
Як той родны, як той брат...
Паляцела пташка ў вырай,
Пташка вернецца назад.
Жывяць зноў яе надзеі,
Думкі светлыя ўстаюць,
Зноў у сэрцы сонцавеі
Ёй красёнцы шчасця ткуць.
І так любы думкі тыя,
Што гутораць ёй аб ім!..

Чары-мары веснавыя,
Іскры сэрца залатыя!
Вы знікаеце, як дым.
Ды каму агнём ружовым
Не свяцілі вы ў жыцці?
Хто не верыў вашым словам
У шчаслівым забыцці?
Жне Ганўся ў полі жыта,
Сонца цешыцца з яе;
Конік гожа-самавіта
Песню ёй сваю пяе.
Ганна-ж песню заспявае, —
Яе слухае лясок,
Тую песню пераймае
І той звонкі галасок.
А як пройдзе дождж шумлівы,
Сець працягне па зямлі,
Загрыміць раўчук бурлівы,
Стануць лужынкі ў раллі.
Ідзе жнейка праз гаёчак,
Спыніць лужынка яе:
«Ты пацешся з сваіх вочак,
Глянь на брованькі свае».
І прыпыніцца дзяўчынка,
Каб адбіцца ў люстры тым,
Дзе глядзіцца і ялінка
Верхам пышным і густым.
Дно той люстры чорна-чорна,
Як растопленая смоль;
Там блакіт нябёс надгорны,
Бы ў глыб кінутая столь.
Ганна схіліцца над лужай,
Косы звесяцца з пляча;
Там садовай свежай ружай
Адбіваецца дзяўча.
Усмех шчасця, здаваленне, —
Ганна цешыцца сабой.
«Ты прыгожа на здзіўленне»,
Люстра тое кажа ёй.
І па нейкай тут прычыне,
Нібы ўсплыўшы з глыбіні,

Сон успомніўся дзяўчыне,
Сон забыты, сон дзіўны.
І ёй нават страшна стала —
То напэўна сон ліхі:
Яна ў цёмны вір упала,
Голас чула там глухі:
«Я зраблю цябе русалкай,
Для цябе свет прападзе!
Белай кветкаю-купалкай
Будзеш гушкацца ў вадзе».
Расступіўся вір шырока,
Мільгатнула яго дно,
І згусціўся мрок глыбокі,
Свету, сонца не відно.
Захапіла дух Ганусі,
«Я тут кінута на здзек...
Ой, ратуйце! захлынуся!
Ой, прапала-ж я навек!»
Ноч дзяўчыну агарнула,
Завярцеў яе той вір,
Цяжкім сном яна заснула,
А пасцель — халодны жвір.
Аж пачула — грае скрыпка,
Скулься музыка плыве
«Ганна, Ганна! я тут, рыбка!»
Гэта ён яе заве:
«Ты не бойся: я з табою».
І падаў ён ёй руку;
Ён змагаецца з вадою.
«Смела, смела йдзі за мною».
Вось яны ўжо на гаку.
Знікла тая небяспека,
Свет адчынены ёй зноў;
Цёмны вір шуміць далёка,
Вір не выйдзе з берагоў.
А ён зорыць ёй у вочы,
І так добра стала Ганне —
Быў салодак час спаткання...
То напэўна сон прарочы.
Думалася ўсяк дзяўчаці,
Знала яснасць і смугу.

Заўважала яе маці
Гэты смутак і тугу.
— Ох, дачушка! ты дзіўная;
Ну, ці-ж можна рабіць так?
Выкінь з дум яго, дурная:
Ён — вандроўнік, ён — жабрак,
Сам без хлеба, сам без хаты,
Мо' разбэсціўся адзін...
Ты пільнуйся лепш Кандрата:
Гаспадарскі гэта сын.
— Ці-ж я, мама, вам абрыдла,
Ці шкадуеш ты мне хлеба?
Мне сватоў гэтых не трэба —
Многа ёсць такога быдла.
— Ой, глядзі, змяняеш быка,
Ды змяняеш на індыка.
Хіба зловіш ветра ў полі?
Вецер ветрам быў і будзе!
Ды што скажуць табе людзі?..
І мне рупіць твая доля! —
З-паміж хлопцаў-кавалераў
Быў адзін такі тут жох,
Што сябе занадта мерыў
І ў хлапцоўскасць сваю верыў
І меў рызыкі на трох.
Стаў за Ганнай валачыцца
Хвалька гэты, Дамянік —
На каханкі ён навык,
Абы толькі падражніцца.
Толькі-ж тут не пашанціла,
Як ён лістам ёй ні слаў,
Як рука вус ні круціла,
Як вачыма ні ўскідаў.
Ён з сябрамі закладаўся
Сэрца Ганны паланіць,
У два тыдні — пахваляўся —
Ганна будзе дух раніць,
Будзе з ім шукаць спаткання
І паступіцца усім,
І ўсе выпаўніць жаданні —
Хоць у пекла пойдзе з ім.

Зачалося ўсё з пустога,
Але скончылася так,
Што наш дока, зух і гога,
Сам уклюкаўся, бядак.
Жабраком хадзіў за ёю,
Ёю жыў і сніў яе;
Ён не ведае спакою,
Мысль аб ёй жыць не дае.
«Эх, дурніца-ж я, дурніца!
Вось дастукаўся чаго!»
А Гануся-чараўніца
Пасміхалася з яго.
— Ці-ж ты хочаш маёй мукі?
Ці не бачыш, як тужу?
Я на ўсё пайду: і рукі
На сябе я налажу!
І сябе са мной загубіш —
Да таго ты давядзеш,
Але той, каго галубіш,
Не, не прыдзе — не прыжджэш!..

IV

У іскрах змяркання
Ружовага ззяння
Дзянёк на спакой адплывае,
Дзянёк замірае,
Дзянёк спачывае
З усмехам ясным кахання.
І вочы Венеры
Праз цёмныя дзверы
Зірнулі лагодна, прыветна,
І ноч незаметна,
Бы ўдоўка ўсясветна,
У вэлюм адзелася шэры.
Выпоўзваюць мрокі
На тыя сутокі,
Дзе неба злілося з зямлёю,
Ідуць грамадою,

Трасуць барадою,
Бы страшаць дзянёк яснавокі.
А месяц двурогі
З далёкай дарогі
Спусціў на зямлю свае ніці.
Блішчыць на ракіце,
І ціха па жыце
Туман прапаўзае бязногі.
Зямля занямела.
У лесе нясмела
Ачнецца лісток на галіне.
І знічка ў глыбіне
Мільгне і загіне —
Пагасне слядок яе белы.
І мрок і бліскание,
Спакой і дрыжанне
Зліліся ў суладныя тоны.
У цемры знікання
Ёсць іскры світання —
Разумнае волі законы.

Чырвань захаду цямнела.
Над зямлёю мрок нясмела
Калыхнуў сваім крылом.
Вол у полі скончыў дзела,
Шоў дамоў з гаспадаром.
У спакойных небясох
Зоры чуць-чуць мігацелі.
Бы застылі, занямелі
Ў мяккіх водблесках-агнёх
Тканкі хмарачак ружовых,
Лёгкіх, тонкіх, бы шаўкі,
І з вадзіцаю ў размовах
Спачывалі беражкі.
Косы чорныя маўкліва
Распусціла ноч па свеце,
На лістку, на кожным квеце
Волас звіс яе жычліва.
І было спакойна-ціха;
Толькі дзесь сава-начніца,
Бы якая чараўніца,

Выклікала людзям ліха.
Між кустоў лазы кудлатай
Бегла сцежачка, вілася,
А па сцежцы той плялася
Постаць нейча ў цьме зацятай.
Бы туляга, бы той злодзей,
Ідзе-сунецца фігура,
Азіраецца панура,
Каб ёй хто не перашкодзіў.
Збоку сцежкі чорным пасам
Бегла рэчачка лажком.
Хто-ж ідзе тут позным часам,
Выкрадаецца цішком,
Як начніца, ці начнік?
Гэта — зух наш, Дамянік.
Ён ідзе да варажэі,
Каб параду сэрцу даць,
Бо разбіты ўсе надзеі
Сэрцам Ганны заўладаць.
Ён ідзе, а мрок гушчае,
Ноч становіцца чарней;
Песню ў лозах зачынае
Над рачулкай салавей;
А ў трушчобе за рачулкай
Свішча жудасна пугач,
І нясецца рэха гулка,
Бы дзяціны смех і плач.
Сцежка ўлева забірае
Ды шыбуецца ўгару.
Каля цёмнага яру
Хатка туліцца старая.
У акенцы ўроўнядзь з долам
Цьмяна свеціць начнічок,
Бы купальскі светлячок,
Блескам смутным, невясёлым.
У той хатцы заняпалай,
Трошкі водаль ад сяла,
Бабка-знахарка жыла
І жыла тым, што гадала.
Ідзе хлопец па-над ярам,
У яго адна дума:

Хай навучыць бабка чарам —
Іншых спосабаў няма.
Хлопец сохне ўвачавідкі,
Ён няволен над сабой...
У аконца варажбіткі
Хлопец стукае рукой.
— Хто там? — Гэта я, бабуля.
— Хто такі ты? — Дамянік!
Я да вас, бабка Аршуля,
Кажа ён — і дух унік.
Скрыгнуў засаў. Клямка двойчы
Тут закашляла ў дзвярах.
— Ну, заходзь, заходзь, малойча —
І тым засавам — ра-рах!
За Аршуляю нясмела
Ідзе ў хату Дамянік;
Цьмяна лямпачка курэла,
То скакаў агонь, то нік.
Густа пах стаяў ад зёлак
І дурманіў галаву;
Разлажыла на пяколак
Бабка розную траву,
І пучочкі ўсякіх кветак
Тут развешаны былі:
Бабцы подаць даў палетак,
Луг і лес яе зямлі.
Хатка чысценька прыбрана;
Сама бабка акуратна,
А як знахарка — выдатна:
Так даўно аб ёй казана.
— Ну, малойча, у чым справа?
З сэрцам, мусіць, нелады?
З ім дзяўчынка не ласкава?
Ну што, праўда, малады?
— Так, бабуся мая: пакахаў я дзяўчыну,
Пакахаў, як нікога ніколі!
Праз яе я папаў у няволю,
Праз яе мне няма, бабка, долі.
І хацеў-бы я кінуць яе, ды не кіну...
Праз яе, праз яе, чарадзейку, я гіну!
Дай-жа, дай-жа ты радачку мне і збавенне:

Я не ведаю сну і спакою!
Каб яна так хадзіла за мною,
Як хадзіў і хаджу я за ёю.
Дай папомсціцца мне за яе зневажэнне!
Вырві з сэрца суздром насланое насенне!

— Ну, напэўна-ж ёсць прычына,
Калі кпіць з цябе яна?
Ой, хлапчына-малайчына,
Справа штосьці тут цямна!
Вось пабачым! — бабка ўстала,
Вады конаўку ўзяла,
Пашаптала, паплявала, —
Страх на хлопца навяла.
— Я бяду
Навяду,
Я бяду
Адвяду
На лясы,
Верасы,
На бары,
Амшары,
На горы,
На моры,
На пусташ-аблогі,
На безлюдзь-дарогі,
У пушчы,
У гушчы,
У чыстае поле,
У гіблыя ролі,
У нетры глухія,
У багны нямыя,
Ад сэрца, ад дому —
Ліхое ліхому.—
Марматала заклінанне
Бабка ўпоўгалоссе.
— Будзе, хлопча, табе зданне.—
Дамянік затросся.
— На, на воду паўглядайся...
Вочы ты цяпер заплюшч...
Што ні здасца — не лякайся...

Стань, сляпы, як дзень відушч! —
Строга кажа варажбітка.
Зноў затросся Дамянік,
З плеч на зямлю спала світка,
І прыліп яму язык.
— Тфу ты, ліха! што са мною?
Што за чортава чмута?!
Хтось рукою касцяною
Пастрашаў мяне з кута!
Бачыў — з лесу хтось дыбае,
І святлела ў тым баку,
А яна, яго любая,
Чараўніца гэта злая,
Падае яму руку.
— Між табою і дзяўчынай
Хтось мілейшы ёй стаіць,
І цябе па той прычыне
Ёй ніяк не палюбіць.
Смерць іх толькі і разлучыць —
Так злюбіліся яны...
Не паможа, не навучыць
Знахар самы увіхны.
— Чмуціш ты і лжэш, старая:
Гвалтам я яе вазьму!
І пабачым, хто прайграе —
Трасца будзе ў бок яму! —
. . . . . . . . . . . . . .

Раз пад вечар між жытамі
Ганна з поля йшла адна;
З каласкамі, як з братамі,
Забаўлялася яна.
Жоўтацвецень красавання
Аздабляла каласкі;
Ім казалі аб каханні
Нітак срэбраных жмуткі.
Варажыла тут дзяўчынка
На калоссях аржаных,
Сашмаргнуўшы з іх шчацінку,
А пытала так у іх:
«Калі ён мяне кахае, —

Зацвіце мой каласок».
У касу яго хавае.
Пазірае —
І — о, радасць! Зацвітае
Новы срэбраны пучок.
Так ідзе адна, гадае,
Аж зірнула — дух унік:
На пярэсцягі ёй з гаю
Шусь пануры Дамянік!
Сэрца ёй так і апала.
Азірнулася — ціш, глуш,
І Ганўся задрыжала:
Што замысліў гэты вуж?
Недарма-ж ён сярод поля
Выкрадаўся цемаком;
Погляд дзікі так і коле,
Так і рэжа, як нажом.
Ганна сэрцам тут пачула
Гразь душы яго і бруд.
Дзеўча ў жыта шмыганула,
Агібаючы той кут.
Азірнулася — умлела:
Валіць следам ён, як дым,
Толькі жыта шарахцела
І ламалася пад ім.
Глуха поле адбівала
Грук і тупат пары ног.
Ганна плацце падабрала,
Напрасткі бяжыць у лог.
І, як сарна, за каторай
Улягаюць ганчакі
Неадступнай злою сворай,
Бяжыць Ганна то разорай,
То мяжой праз раўчакі.
Азірнецца — ўсё нырае
Тая ў жыце галава,
Цяжка дыша, зрок бліскае;
Іх адлежнасць раздзяляе
Не больш — вератняў на два.
— Стой, гадзюка-чараўніца!
Стой, насенне ведзьмака!

Будзеш помніць ты, начніца,
Як зняважваць дзецюка! —
То ён злосны тон мяняе:
— Стой, Гануська, стой, дурная!
Ганна! Ганна! я жартую;
Ну, спыніся, не ўцякай!
Хоць разочак пацалую...
Ганна, рыбка, пачакай! —
Чуе Ганна — таюць сілы,
Блізка-ж дзікая пагонь.
Разрывае кроў ёй жылы,
Смажыць ёй нутро агонь.
Спала хустка, і развіты
Дзве шаўковыя касы,
Бы русалка ў моры жыта,
Поўна спуджанай красы.
Бегла бедная і ўпала
У глыбокі калдабан,
Ўстаць хацела, ды не ўстала,
Вочы ёй заслаў туман.
Дамянік пранёсся міма.
Бег — шуршэлі каласы,
Стаў — іх змоўклі галасы,
І дарма шукаў вачыма
Постаць любачкі-красы,
Ён рвануўся злосна-крута
У другі бок — на лясы...
Не, не знаць табе красы,
Бо яе схавала рута
І ржаныя каласы...

А Ганусю ночкай цёмнай
Знайшлі ў полі непрытомнай.

. . . . . . . . . . . . . .

V

Развітаўся хлопец з дзедам,
Зноў ён — лесу, поля сын
І старым знаёмым следам
Ідзе, вольны і адзін.
У яго пуцец гатовы —

Ён у сэрцы моцна лёг,
І Сымонка помніць словы —
На яе ступіць парог.
Але справа тут не ў словах:
Словы можа сцерці час,
А ў другіх зусім умовах
Вузел быў прычын якраз —
Абудзілася ў ім песня,
Гімн, жыццёвы чараўнік, —
Той няясны клік прадвесня,
Той юнацкі сэрца клік.
Прагла сэрца маладое
Сэрца водгулле пачуць,
І даўно ў ім гарыць тое,
Чаго нельга абмінуць.
Тым агнём душа сагрэта,
Свет аздоблен тым агнём;
З ім без лета свеціць лета,
З ім і ноч здаецца днём.
Ён чаруе сваім словам,
Спевам вечна маладым;
Але ў полымі ружовым
Ёсць і горкі, едкі дым.
І каму сноў не складалі
Чары-мары летуны?
Эх, насілі вашы хвалі
Нашы гонкія чаўны!..
Лес... той самы, сінекрылы,
Ён лісцём, бы п'е віно;
Пазалота нівак мілых,
Хмарак лёгкае руно...
Пад зялёнаю накідкай
Голькі песцяцца ў цяпле;
Жупіць ветрычак з ракіткай,
Гуд у дубавым дупле.
А сам дуб у нейкай думе
Разгарнуў сваё лісцё.
Тут у кажнай з'яве-шуме
Сваё чуецца жыццё.
А ў падножжы лясных шатаў,
Дзе каліна расцвіла,
Легла пышна і багата

Тканка цені і святла.
Ён спыніўся — лес знаёмы,
Лес наводзіць многа дум...
Эх, зялёныя харомы!
Сэрца ведае ваш шум...
На курганчык той, дзе колісь
Развіталіся яны,
Дзе іх сцежкі раскалолісь
Тры таму назад вясны,
Зноў цяпер Сымонка ўсходзіць
Месца тое павітаць;
Стаў і поглядам абводзіць
Даль палёў, нябёсаў гладзь.
Унь дарога між прысады
Двух радоў старых бяроз,
Ён шчасліў тут быў і рады,
Ён душою тут узрос...
Страх, развага і сумненне
Сталі хлопца пашыбаць:
Што ён знойдзе? што сустрэне?
Што ён мае ёй сказаць?
Мо' даўно ён там забыты
І для Ганны стаў чужы,
Бы той зеллем апавіты
Цяжкі камень на мяжы?
Ды сярод тых думак горкіх,
Праганяючы ўвесь страх,
Вочкі Ганны, як дзве зоркі,
Хлопца клікалі на шлях
І так гожа пазіралі,
Так смяяліся яму,
Што бясследна разганялі
Гэтых думак чорных цьму.
Што-ж тут думаць? Смела, браце!
Не — назад няма дарог!
Гайда, покі сілак хваціць,
На прасторыну-разлог.
Гоніць хлопец прэч трывогу,
Як паганы які сон,
І з кургана на дарогу
Зварачае зноў Сымон.
Сталым крокам між бярозак

З сябрам-кіем ён ідзе,
А з ім лісце ў гушчы розаг
Мову згодную вядзе;
Іх там ветрычак гайдае,
Песціць іх, бы тых дзяток;
Збоку ветру ў тахт спявае
Гутарлівы ручаёк.
Песні — з'явы падарожжа!
Колькі мар і чар у вас!
Што мілей размовы збожжа
На палёх у летні час?
Што прыемней даляў гэтых,
Апавітых у туман,
І лясоў, смугой адзетых,
Горак сіні караван?
Што цікавей хмар страшэнных,
Громаў гучных, іх сыноў,
І маланак, слуг нязменных
Грозных, страшных перуноў?
Што таемней зор бліскучых,
Зор дрыготных, бы жывых,
Што ў асобку або ў кучах
Свецяць з багнаў векавых?
Вось дарожка ў бок ад шляху
Павіваецца між ніў.
Хлопец стаў, цясней пад паху
Скрыпку-друга прытуліў
І гарнітур апраўляе,
Шапку гне крыху набок,
Пыл дарожны абівае,
Гразь даўнейшую, пясок,
Бо ўжо блізка, і з узгорку
Іх гаспода ўся відаць,
Нават нейчая гаворка
Ці не з іх двара чуваць?
Унь і хата, сад вішнёвы.
Як разросся той садок!
Хлопцу ўспомніўся часок
Іх спаткання, іх размовы,
Смех і звонкі галасок.
І час нейкі, бы прыкуты,

Ён стаіць, глядзіць туды...
Прайшлі цэлыя гады,
Жывы-ж гэтыя мінуты!
Ну, што-ж? досыць разважання!
Ідзе ўзмежкам напрасцяк.
Лёгкі трэпет хвалявання
Адчувае ўсё-ж юнак.
І вось бачыць ён: з-за хаты
Ідзе жнейка ў яго бок;
У руцэ — глячок пузаты,
На плячы — крывы сярпок.
Прыглядаецца — хто-ж гэта?
Маці Ганніна, яна!
Пастарэла, страх, кабета.
А чаму-ж ідзе адна?
Гаспадынька, бы не тая, —
Так змянілася яна.
«Добрым днём» яе вітае
І пытае:
«Ці пазналі-ж вы блазна?»
Прыпынілася жанчына,
Углядаецца ў хлапца,
А журботныя маршчыны
Леглі ўпоперак ліца.
— Не, галубок: не пазнала я —
Памяць мая заняпалая...
Да ці можа быць?! Сымонка!
Спала мне з вачэй пялёнка,
А пазнала-ж па вачох!
Ах саколік, маё сонка,
Зноў у нашых ты краёх!..
А як вырас!.. Ох, мой любы!
А ў нас тут бяда-напасце
Ды такое ўжо няшчасце,
Што і не будзе горшай згубы...
Ой, якое-ж гэта гора:
Наша Ганна навек хвора!
Збіла краску, бы марозам, —
Памяшаўся яе розум. —
Хлопцу раптам цёмна стала,
Пабялеў, як палатно;
Сэрца ў ім як-бы апала,

Свету тога не чутно,
І асеў, бы птах бяскрыльны,
На мурожную траву,
І рукамі моцна-шчыльна
Ён сціскае галаву.
Ён не плача, не галосіць,
Ён сядзіць як-бы ў агні,
А кабета гляк падносіць,
Нахілілася і просіць:
— На, вадзіцы палыкні!
— А дзе-ж Ганна? — Яна ў хаце.
Супакойся-ж хоць ты сам...
Няма долечкі дзяўчаці —
Марна згублена краса!
Лепш хай смерць яе атуліць,
Як вар'ятам быць дурным.—
І заплакала матуля
Плачам ціхім, нутраным.
— Пакажэце мне яе вы:
Яна мусіць ачуняць!
Трэба мрок той адагнаць,
Знішчыць цёмныя навевы
І з душы заслону зняць! —
Ён гаворыць, бы ў натхненні,
Вочы іскрацца агнём,
А кабета ў засмучэнні
На яго глядзіць маўчком.
«А мо' станецца тут дзіва?..
Хоць малая то надзея»,
Маці думкай сэрца грэе
Ды йдзе ў хату з ім рупліва.
Ідучы казала маці:
— Ноч, адна ноч загубіла!..
Яна-ж так цябе любіла,
Ды не лёс майму дзіцяці.
Людзі злыя і без сэрца:
Загубілі век блазнерцы. —
Яны ў сенцах. Вось і хата,
Тая хата, той парог.
А тут хтось яго сцярог,
Як-бы тая рука ката...

Мухі роем. Цемнавата.
Унь той кут, унь той палог,
А яна... да ці-ж то Ганя?
Нерухліва і глуха,
У яго бок і не гляне;
Косы збіты, як страха.
Рукі звязаны ў няшчаснай,
І прывязана сама,
Каб не білася дарма
У вар'яцтве буры страшнай.
Губы скусаны і сіні,
У вачох — імгла-туман;
Твар яе — зямля пустыні,
Сонцам спалены дзірван.
А цяпер, у час знямогі,
Яна туліцца ў куце;
Нейкі страх і біч трывогі
Б'е дзяўчыну і гняце.
Пазірае кудысь дзіка,
Падаецца ўся назад,
Ды як крыкне немым крыкам:
«Жаба! Жаба!.. тыга, гад!»
І ўсім целам затраслася
І жахаецца: «Гах, гах!»
Жмецца, кідаецца ў страсе,
А ў ваччу — нязмерны жах.
Анямелы, страхам скуты,
Відам зражаны яе,
Ён глядзіць, і боль пакуты
І на ім свой след кладзе.
І што сталася з дзяўчыны!
Што зрабіла з яе цьма?
Адна форма, стан руіны,
А Ганусі ўжо няма...
Ён бліжэй на крок ступае
І ў няясным парыванні
Зазірае ў вочы Ганне,
А яна як-бы сляпая.
Згас румянец, твар упалы,
На ім след пякельнай мукі,
Боль няведанай дакукі,

Цяжар страшнае навалы.
А ён сам, бы ў памяшанні,
На яе глядзіць бачліва.
Вочы ўскінула пужліва
З патаемным садрыганнем.
У тым поглядзе на мгненне
Блеск знаёмы мільгатнуў,
Мільгатнуў і ў мрок зацьмення
Зноў бясследна патануў.
І ён разам тут памкнуўся
У натхненні, бы ў агні,
І дзяўчыны дакрануўся.
— Ганна! Ганначка! зірні! —
Ён глядзіць ёй пільна ў вочы,
Бы ўвесь жар, агонь цішы,
Перанесці ў мыслі хоча
Яе зломанай душы.
Ён глядзіць, як-бы чаруе,
Ён шукае тую ніць,
Каб заслону цемраную
Ёй адсунуць, адсланіць.
Мутным поглядам дзяўчына
Пазірае на сцяну;
Ёй вар'яцтва павуціна
Густа сцеле пеляну:
Потым вочы мімаволі
Пераводзіць на яго
І глядзіць з адбіткам болю.
— Каго бачыш ты? каго? —
Яна разам задрыжала,
Нема крыкнула і ўпала
І застыла нерухліва.
— Ганна! Ганна! Нежывая!
Ой, дачушка, дарагая... —
Плача маці праразліва.
— Ша, не плачце — будзе жыва. —
Глядзіць маці на Сымона,
А ён сам нібы шалёны —
Зрок той бегае блукліва.
Ганна ўпала ў сон глыбокі.
Ноч прайшла, прайшоў і дзень,

Аджываюць яе шчокі,
З яе твару нікне цень.
Ён вартуе сон дзявочы,
Навявае ёй спакой,
Заглядае ў яе вочы
З нейкай любасцю нямой.

«Спі, мая рыбка, спі, залатая!
Сонейка ўзыйдзе: у блеску святла
Знікне-загіне імгла.
Промень бліскучы да нас завітае,
Мрок ён адгоніць узмахам крыла,
Знішчыць дыханнем цяпла».

Спіць дзяўчына моцным сном
Цемнакрыліць ноч другая,
Мрок цярушачы крылом.
Ноч — памочніца благая.
Ноч стаілася пры лесе,
А лес знізіўся, унік;
Месяц паліць свой лучнік,
Кужаль сцелючы на стрэсе,
Зоркам белячы ручнік.
І маркотна, так маркотна!
Што нясе ёй гэты сон?
Мімавольна, мімалётна
Тую ноч успомніў ён.
І тут нейк само сабою
Напаткалася яму
Выйсці ў сад, як той парою,
І парушыць ночку-цьму:
Можа Ганна скрыпку ўчуе,
Можа звонкая струна
Яе душу пацалуе,
Ускатурхае да дна
І разгоніць ноч зацьмення,
Знойдзе ў сэрцы тую ніць,
Што паможа памутненне
Адагнаць ці праясніць.
Ён ціхутка бярэ скрыпку,
Адчыняе ў сад акно,

На дзяўчыну, сваю рыбку,
Сэрцу родную даўно,
Пазірае ў засмучэнні
І ёй шэпча, бы ў натхненні:

«Ты пачуеш голас мае песні
Мыслі твае праясняцца,
Згіне цемра, як гінуць туманы
Ў блеску сонца;
Зыйдзе ў душу тваю ўспакаенне —
Выплыве сонца з зацьмення».

На яе твары збалелым
Нейкі проблеск мільгатнуў,
Усмех ціхі і нясмелы
Яе вусны ўскалыхнуў,
Бы зарніца цені ночы.
Ён шчасліў, бязмерна рад;
Ён цалуе яе ў вочы
І з надзеяй ідзе ў сад,
Выбірае там мясціну.
Як тады, у тую ноч —
Адратуе ён дзяўчыну,
Мрок з душы адгоніць проч!
Кінуў погляд ён нясмела
У бок цёмнага акна,
І натхненна зазвінела
Звоннаплыўная струна.
І гамоніць, як жывая,
У зялёным салашы,
Нібы срэбра разлівае,
Рухі сэрца адбівае,
Звоніць водгуллем душы;
Галубком ляціць над борам,
Пчолкай зумкае ў галлі
І імкнецца к ясным зорам
Палкай просьбаю зямлі.
І, здаецца, сама ночка
Гэтай просьбе спачувала:
Яна нават не гайдала
Ні галінкі, ні кусточка,

Ні былінкі, ні лісточка,
Ні на ніве каласочка.
І выразней свае ніці
Месяц звешвае ў дно цьмы
І затрымлівае ў жыце
Смех няясны, смех нямы.
І раптоўна моўкнуць струны,
Задрыжаў увесь пясняр:
У акне скрозь змрочча руны
Вырысоўваецца твар!
Ён глядзіць у аняменні,
Ён застыў, акамянеў, —
Дух надзеяй зарунеў,
Дух агорнут у сумненне.

Ганна.

Ці то сон, ці то здань?..
Чула музыку я!..
Не, то — мара мая...
Ах, адстань ты, адстань,
Сэрца мне не тумань!
Ноч... Адчынена аконца.
Сад... Ён цёмны, ён глухі,
А мне смутненька бясконца,
Сон гняце мяне ліхі...
Вір... Я ў віры! я — русалка.
А як пеніцца вада!
Як гуляе на ёй скалка!..
Ой, бяда будзе, бяда!..

Сымон.

Ганна, Ганначка! не бойся:
Гэта я: не зман, не сон!..

Ганна.

Ты? А хто ты?

Сымон.

Я — Сымон,
Той музыка... Заспакойся!..

Ганна.

Дык то праўда?.. Што са мною?
Дай успомніць!.. Душыць жвір,
Адабраў мне памяць вір,
Зацягае глыбінёю!..

Сымон.

Вір? Ён знік; яго няма!
Паглядзі: святлее ўсход,
Месяц кончыў свой абход,
Ноч праходзіць, нікне цьма --
Ты трывожышся дарма.
Ты, Ганулька, была хвора —
Проста трызніла ты ў сне.
Ты заснула пазаўчора,
А цяпер твой вір засне!

Ганна.

Сон, ты кажаш? І цяпер сон?
І ты сон?.. А праўда дзе?..
А што гэта так гудзе?..
Страшна!.. Ох, як свет забэрсан!
Дай мне руку... Ну, во гэтак...
Гавары-ж мне, будзь са мной:
Чуць хачу я голас твой,
Бо твой голас — песня кветак.

Сымон.

Ганна-рыбка! ды не бойся,
    Заспакойся
        І засні.
Ты стамілася, галубка,
    Ссохлі губкі,
    Ты ў агні.
Спі, я сон твой павартую,
Я цябе пакалышу —
Спаткі трэба малышу.
Люлі-люленькі малую!
Казку Ганначцы скажу я,
Вочкі-зоркі патушу.

«Раз сышла з нябёс вясёлка
І ступіла на зямельку
Ды ўраніла там кудзельку,
Кудры ранічнага золку,
    На зямлю пасцельку.

Спрала зорачка кудзелю,
Зладзіў месячык красёнцы,
А дзянёк саткаў на сонцы
З нітак красачку-лілею,
    Гожую бясконца.

Хараством лілейка ззяе,
Як дзянніцы абуджэнне;
Яе белае адзенне
Навакола разлівае
    Злотаблеск-ірдзенне.

Усміхалася ёй неба,
Пазірала вокам ласкі;
Ёй складалі байкі-казкі
Лес і поле морам хлеба,
    Ёй спявалі краскі.
І была яна шчаслівa,
Бо любілі ўсе лілею.
Пчолка зумкала над ею,
Штось казала ёй жычліва
    Гутаркаю тэю.
Лесны жаваранак вольны,
Снуючыся ў яснай сіні,
Песню пеў у жытнім кліне
І будзіў прастор наддольны
    І пяскоў пустыні.
І бывала, калі ў небе
Чуць прыжмураць вочкі зоры,
Ён імкнуўся ўжо ў прасторы;
Пеў ён песні роднай глебе
    І яе разорам.
А лілейка ў блеску росным
Ад тых песень замірала

І лісточкі расчыняла
Ды ціхутка, безгалосна
Песняра зазвала.
Ён зірнуў на травы-руні,
Што рунелі на тым полі,
І спускаецца на ролі,
Дзе расла яна, красуня,
У пясчаным доле».
— Чуеш казку ты? — пытае.
А яна пад той шумок
Спіць салодка... Дзень вітае,
Цьма расходзіцца густая,
Радасць суліць ім дзянёк.
Спіць Ганууся ціха-роўна,
Ружавеюць яе шчочкі;
Нікнуць з твару цені ночкі,
А ён цешыцца бясслоўна.
Вось з-за лесу ўстала сонца.
Рассыпае каснікі,
Залатыя ручнікі
І цалуе праз аконца
Збітых кудзер валаконцы,
Жылкі сінія рукі.
І ў адказ на тое ззянне
Смех ёй вусны асвятліў:
То — яе душы світанне,
Сілы свежае прыліў.

---

Я развітаюся з Сымонам —
Тут круг замкнут адзін, а там
Сваім звычайным ходам-гонам
Пачнуцца новыя кругі —
Яшчэ далёкі берагі,
Аб іх раскажа повесць вам
Ужо не я, а хто другі.
Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,
Бо ён прыроджаны пясняр.
Панёс ён людзям песень дар —
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пяснярскай каляінай.

Рука ў руку з ім і з ахвотай
Дзяўчына мілая ішла.
Пад сховам дзеўчага крыла
Гарнула далі пазалотай,
І не кранала іх журбота,
Не засмучала іх імгла.
І ўжо ў пуці, ідучы з ею,
Як надышоў той час-пара,
Дакончыў казку пра лілею
І пра пташыну-песняра.

---

## «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

Паэма «Новая зямля» — адзін з самых буйных і выдатных твораў Якуба Коласа і беларускай літаратуры. Гэты твор па праву называецца мастацкай энцыклапедыяй жыцця беларускага сялянства канца XIX стагоддзя. У ім з вялікай рэалістычнай сілай паказаны супярэчлівы гістарычны шлях працоўнага сялянства да рэвалюцыі. Ідэя «Новай зямлі» — імкненне шырокіх сялянскіх мас да волі, да соцыяльнага вызвалення.

Галоўным вобразам паэмы з'яўляецца Міхал — тыповы прадстаўнік працоўных сялянскіх мас Беларусі. Імкненне вызваліцца ад панскай залежнасці, настойлівасць і ўпартасць у дасягненні пастаўленай мэты, любоў да працы, усведамленне сваёй высокай чалавечай годнасці, нянавісць да прыгнятальнікаў народа—асноўныя рысы характару Міхала. Аднак ён «...выбірае няправільны, фальшывы шлях свайго вызвалення — і ў гэтым яго вялікі і сапраўдны трагізм — уласны кавалак зямлі, свая гаспадарка, да якой з усёй палкасцю свайго сэрца імкнецца Міхал і ў якой бачыць ён сваё вызваленне, не могуць даць яму гэтай волі, гэтага вызвалення» *.

Смерцю галоўнага героя паэмы Колас развенчвае дробнабуржуазныя ілюзіі сялянства, паказвае іх поўны крах. Толькі перад смерцю Міхал пераконваецца ў тым, што шлях яго быў памылковым, што здабыць зямлю і волю можна, толькі перабудаваўшы жыццё нанова.

У паэме «Новая зямля» найбольш поўна і глыбока выявіліся традыцыі пушкінскай рэалістычнай паэзіі. Якуб Колас вучыўся паэтычнаму майстэрству ў геніяльнага рускага паэта А. С. Пушкіна.

---

* Якуб Колас. «Новая зямля», Мінск. 1934 г., стар. 4 («Ад аўтара»).

«Калі-б не было Пушкіна з яго «Анегіным», одай «Вольнасць», «Пасланнем у Сібір», «Капітанскай дачкой» і казкамі, — пісаў Якуб Колас, — не было-б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», маёй лірыкі і прозы».

Значэнне паэмы «Новая зямля» не толькі ў праўдзівым адлюстраванні імкненняў і спадзяванняў працоўных мас беларускай вёскі канца XIX стагоддзя, але і ў глыбокім пранікненні пісьменніка ў быт народа, у паэтызацыі народнай працы, у цудоўных замалёўках беларускай прыроды, якія характарызуюць Коласа як непераўзыйдзенага майстра беларускага пейзажу.

Высокая ідэйнасць твору, багацце, прастата і народнасць мовы, якая вызначаецца яркасцю, каларытнасцю і дасціпнасцю; гумар як арганічная асаблівасць усёй творчасці пісьменніка; шырокае выкарыстанне беларускіх прыказак і прымавак, удалых трапных выразаў, афарызмаў; высокая тэхніка верша, стройнасць кампазіцыі — усё гэта робіць паэму «Новая зямля» шэдэўрам беларускай нацыянальнай паэзіі, сапраўды народным творам.

Над паэмай «Новая зямля» Колас працаваў з 1910 па 1923 год з перапынкамі. З канца 1910 года і 15-га верасня 1911 года ў Мінскім астрозе былі напісаны наступныя раздзелы паэмы: I — «Леснікова пасада», II — «Раніца ў нядзельку», III — «За сталом», IV — «На першай гаспадарцы», V — «Пярэбары», VI — «Дзядзька-кухар», VII — «Смерць ляснічага», XXVII — «Па дарозе ў Вільню», XXVIII — «Дзядзька ў Вільні», XXIX — «На Замкавай гары»; у гэты-ж час быў пачаты XIV раздзел — «Дарэктар».

У далейшым праца над паэмай была спынена да 1919 года. У 1919 годзе, знаходзячыся ў эвакуацыі на Куршчыне, Коласам быў напісан XVIII раздзел — «Зіма ў Парэччы», у 1920 годзе — XIX раздзел — «На рэчцы».

Пасля вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў Колас пераязджае ў Мінск. Тут у 1921 годзе ім напісаны раздзелы: IX — «Новы ляснічы», X — «На панскай службе», XIII — «Падгляд пчол», XXI — «Таемныя гукі», XXII — «На глушцовых токах», XXIII — «Панская пацеха», XXIV — «Вялікдзень»; у 1922 годзе — XI — «Дзедаў човен», XII — «Сесія». XIII — «Начаткі», XVI — «Вечарамі», XVII — «Воўк», XX — «Каляды», XXV — «Летнім часам», XXVI — «Агляд зямлі» і закончан XIV раздзел — «Дарэктар». Апошні раздзел — «Смерць Міхала» напісан у 1922—1923 гг.

Да выхаду ў свет паэмы асобным выданнем некаторыя раздзелы яе змяшчаліся ў беларускім перыядычным друку.

Да выхаду паэмы ў свет асобным выданнем не былі надрукаваны наступныя раздзелы: «На першай гаспадарцы», «На панскай службе», «Таемныя гукі», «На глушцовых токах», «Панская пацеха», «Вялікдзень», «Дзедаў човен», «Сесія», «Начаткі», «Вечарамі», «Воўк», «Каляды», «Летнім часам», «Агляд зямлі», «Дарэктар», «Смерць Міхала».

У 1923 годзе паэма вышла асобным выданнем.

Друкуецца па тэксту беларускага выдання 1946 года.

Стар. 12. **Павець** — адкрытае з трох бакоў, крытае гонтай ці саломай памяшканне на сялянскім двары для захоўвання сельскагаспадарчага інвентару.

Стар. 12. **Панарад** — калёсы без кузава.

Стар. 12. **Поўасміна** — старая мера сыпучых цел — паўтара пуда, або 24 кілограмы.

Стар. 13. **Прыгрэбнік** — склеп для захоўвання бульбы і агародніны.

Стар. 13. **Агон** — хвост.

Стар. 14. **Услон** — лаўка.

Стар. 17. **Весніцы** — простыя вясковыя вароты.

Стар. 18. **Пацеры** — малітва.

Стар. 18. **Свержань** — назва вёскі Стаўбцоўскага раёна, Баранавіцкай вобласці.

Стар. 18. **Псалм** — хвалебная царкоўная песня.

Стар. 18. **Модлы** — малітвы.

Стар. 24. **Даць «лэмбуся»** — пацягнуць залаб (за валасы).

Стар. 24. **Даць «квасу»** — правесці сагнутым вялікім пальцам па галаве супроць валасоў.

Стар. 27. **Капа** — старая мера лічэння — шэсцьдзесят штук ці адзінак.

Стар. 27. **Валока** — мера зямлі каля 20 дзесяцін.

Стар. 27. **Цаля** — адзінка меры даўжыні, каля 25 міліметраў.

Стар. 28. **Зэдаль** — услончык.

Стар. 31. **Шляга** — драўляны молат, доўбня.

Стар. 32. **Мікалаўцы** — жыхары вёскі Мікалаеўшчыны, дзе нарадзіўся Якуб Колас.

Стар. 33. **Віціна** — плыт, бярвенні, звязаныя ў некалькі радоў для сплаву.

Стар. 33. **Прусы** — Прусія.

Стар. 33. **Падлоўчы** — старшы аб'езчык.

Стар. 33. **Камора** — звычайна, кладоўка пры доме, тут кантрольны пункт лясніцтва ў дарэвалюцыйны час.

Стар. 34. **Морг** — мера зямлі каля $^2/_3$ дзесяціны.

Стар. 36. **Пастаўнік** — загарадка для жывёлы.

Стар. 38. **Сесія** — нарада ляснічага з леснікамі і аб'езчыкам.

Стар. 42. **Цапстрыкі** — розная дробязь. .

Стар. 43. **«... Як-бы прыехалі ў калоды...»** — на вывазку лесу.

Стар. 43. **Навой** — драўляны валік у кроснах (ткацкім станку), на які навіваецца аснова (пража).

Стар. 44. **Трайня** — перакладзіна ў калёсах, адным канцом прымацаваная да пярэдняй калёснай падушкі, а двума раздвоенымі канцамі — да задняй падушкі.

Стар. 44. **Рагач** — остаў сахі.

Стар. 46. **Вочап** — тонкая, доўгая жэрдка пры студні, служыць рычагом для даставання вады.

Стар. 49. **Прасла** — звяно, частка плота.

Стар. 51. **Варыўня** — невялікая будыніна для захоўвання гароднiны.

Стар. 51. **Пайсці «да адбору»**—пайсці на адборку лесаматэрыялу.

Стар. 53. **Баранчык** — балотная птушка з доўгай прамой дзюбай (па-руску — бекас).

Стар. 54. **Чараўнік** — чалавек, які паводле народных паданняў, валодае незвычайнай звышнатуральнай сілай.

Стар. 55. **Вобцас** — вельмі хутка.

Стар. 56. **Ягомасць** — яго, ваша міласць.

Стар. 58. **Пляцка** — пляскатая булка.

Стар. 64. **Кнігаўка** (кніга) — балотная птушка (па-руску—чыбіс).

Стар. 66. **Кватэра** — лясніцтва, памяшканне, дзе жыве ляснічы.

Стар. 67. **Адрына** (адрынка) — будынак для складання сена і саломы.

Стар. 67. **Абора** — вялікі хлеў для жывёлы.

Стар. 68. **Рандэлек** — каструля.

Стар. 69. **«...На шапках «R» было з каронай...»** — фамільны герб князёў Радзівілаў.

Стар. 70. **«Тэш»** — клічка чалавека.

Стар. 79. **Нясвіж** — мястэчка, цяпер раённы цэнтр Баранавіцкай вобласці.

Стар. 79. **Калашман** — шырокая штаніна (тут у пераи. сэнсе).

Стар. 82. **Ілья-прарок** — біблейскае імя.

Стар. 87. **Кіпець** — ногаць.

Стар. 88. **«Гітал»** — шапка (яўр.), тут у сэнсе каўнер, карак.

Стар. 88. **Будан** — дзеравяны шалаш.

Стар. 89. **«... Ды толькі трэба мець знароўку, каб не страляць у саракоўку...»** — не даваць промаху.

Стар. 91. **Пострыжань** — прылада для лоўлі рыбы, звычайна шчупакоў.

Стар. 91. **Скарбовы** — княжацкі, панскі.

Стар. 92. **Сенатар** — член сената—вышэйшай судова-адміністрацыйнай установы ў царскай Расіі.

Стар. 92. **«... Дадому дзядзька ехаў лёсы...»** —улегцы, паражняком.

Стар. 92. **Мыцкі** — дробныя мошкі.

Стар. 92. **Нагавіцы** — ніжнія штаны, кальсоны.

Стар. 94. **Прыс** (прысок) — шост, жэрдка.

Стар. 97. **«...вядзе балотцам на ачосы...»** — напрасцяк, нацянькі.

Стар. 98. **Засценак** — невялікі пасёлак.

Стар. 98. **Саган** — чыгунны гаршчок.

Стар. 99. **Бома** — кол для падважвання бярвенняў і іншых цяжараў.

Стар. 99. **Дзядзінец** — тут у значэнні — двор.

Стар. 99. **Мыслівы** — паляўнічы, кіраўнік палявання.

Стар. 103. **Мондры** (польск.) — мудры.

Стар. 103. **Гога** — франт.

Стар. 103. **Дока** — мастак, майстар сваёй справы.

Стар. 107. **Спас** — назва рэлігійнага свята, якое адзначалася 6-га жніўня па ст. ст.

Стар. 108. **«... Як мех Баландзішын на зёлкі...** — як мех знахаркі Баландзішыхі.

Стар. 115. **Біскуп** — асоба духоўнага звання, якая мае так званую трэцюю ступень свяшчэнства.

Стар. 120. **Басэтля**—музыкальны інструмент кантрабас.

Стар. 122. **Дарэктар** — вандроўны настаўнік, часцей за ўсё падлетак, які скончыў пачатковую школу і вучыў вясковых дзяцей грамаце.

Стар. 124. **«Кікса»** — мянушка, клічка чалавека.

Стар. 125. **Еўтушэўскі** — аўтар падручніка па арыфметыцы для пачатковай школы.

Стар. 125. **Ваўкалак** — у міфалагічных уяўленнях — чалавек, пераўвасоблены альбо маючы здольнасць пераўвасабляцца пры дапамозе чараўніцтва ў ваўка.

Стар. 126. **Барыш** — частаванне пры заключэнні здзелкі, пагаднення.

Стар. 129. **«Начаткі»** — падручнік па закону божаму, начаткі, асновы хрысціянскага вучэння.

Стар. 131. **Адам, Ева, Каін** — біблейскія імёны.

Стар. 132. **«...Куды-б «закон» яму справадзіць...»** — тут маецца на ўвазе падручнік па «закону божаму» для пачатковай школы ў дарэвалюцыйныя часы, у якім даваліся асновы вучэння аб рэлігіі.

Стар. 132. **Абрам, Ісак, Якаў** — біблейскія імёны.

Стар. 134. **Сім, Хам, Саламон, Самсон, Ісая, Агей, Ілья, Елісей** — біблейскія імёны.

Стар. 135. **Лот** — біблейскае імя.

Стар. 135. **«Верую»** — малітва, якая ў самым сціслым выглядзе перадае асноўныя палажэнні хрысціянскай веры, сімвал веры.

Стар. 142. **Шчытняк** — жорсткая, сухая, трава.

Стар. 142. **Пасад** — тут рад снапоў для малацьбы цэпам.

Стар. 143. **Біч** — кароткая частка цэпа, якой б'юць па снапах.

Стар. 153. **Брамка** — курок паляўнічай стрэльбы.

Стар. 154. **Стрыжэнь** — крыніца на дне рэчкі, над якой у зімовы час не замярзае вада.

Стар. 154. **Дубальтоўка** — двухствольная паляўнічая стрэльба двухстволка.

Стар. 158. **Пароша** — толькі што выпаўшы снег.

Стар. 159. **Дрывотня** — месца для дроў на двары.

Стар. 160. **«Гладыш»** — гліняны збан без ручкі; тут — мянушка.

Стар. 160. **Гула** — фіга.

Стар. 162. **Свяржэнская града** — урочышча, назва лесу.

Стар. 171. **Піліпаўка** — паводле рэлігійных звычаяў — пост перад калядамі, які цягнуўся ад 14 лістапада да 25 снежня.

Стар. 171. **Мікола** — рэлігійнае свята, якое адзначалася 9-га мая і 6-га снежня.

Стар. 172. **Каберац** — дыван, кілім.

Стар. 173. **Торп** — снапы збожжа, зложаныя ў пэўным парадку для захоўвання ў гумне.

Стар. 174. **Буч** — прылада для лоўлі рыбы, нерат з дубцоў лазы.

Стар. 175. **Куцця** — тут апошні дзень перад калядамі; каша, часцей з ячменных круп.

Стар. 176. **Цёрла** — гліняная пасудзіна для расцірання маку, канапель.

Стар. 176. **Кашчэй** — у народных казках — міфічная істота: худы, кашчавы стары, які валодае сакрэтам доўгавечнасці, багаты і злы.

Стар. 178. **Праснак** — перапечка ў выглядзе бліна, якая спечана з хлебнага цеста.

Стар. 179. **Капеж** — край страхі,адкуль сцякае вада.

Стар. 181. **Знічка** — тут — падаючая зорка.

Стар. 184. **Глыза** — глыба лёду.

Стар. 189. **«Пся крэў»** (польск.) — сабачая кроў (лаянка).

Стар. 195. **Вербніца** — назва царкоўна-хрысціянскага свята; апошняя нядзеля перад вялікаднем.

Стар. 198. **Дзіда** — кап'ё.

Стар. 199. **«Пся юха»** — сабачая кроў (лаянка).

Стар. 199. **Вудка** (польск.) — гарэлка.

Стар. 200. **«... Седм вількув забів едным стшалэм»** (польск.)—сем ваўкоў забіў адным стрэлам.

Стар. 203. **Вялікая субота** — апошняя субота перад вялікаднем.

Стар. 204. **Варволь** — тлушч, вытаплены з марскіх жывёл (кіта, цюленя).

Стар. 206. **Літанні** — маленні.

Стар. 206. **Кантычка** — зборнік малітваў і духоўных песень (кантаў).

Стар. 207. **Швагер** — родны брат жонкі.

Стар. 207. **Кацьмак** — цёмны, неачэсаны, нязграбны, няспрытны чалавек.

Стар. 207. **Плашчаніца** — кавалак тканіны, на якой намаляваны Хрыстос у труне; захоўваецца ў спецыяльным катафалку.

Стар. 208. **Цвінтар** — абгароджанае месца вакол царквы; царкоўны двор.

Стар. 211. **Муштарда** — гарчыца.

Стар. 212. **Падосак** — жалезная падкладка пад драўлянай воссю.

Стар. 215. **«... Касцы расходзяцца па гаку...»** — па закругленню ракі.

Стар. 216. **Пятроўкі** — назва рэлігійнага посту, які прыпадаў звычайна на чэрвень месяц.

Стар. 223. **Заедзь** — машкара (мухі, авадні, сляпні).

Стар. 223. **«... Па струнах-кальвах пальцы граюць...»** — перабіраюць пальцамі калівы збожжа, нібы струны.

Стар. 223. **«...Напрост кладуцца жмені жыта...»** — кладуць жмені жыта, не вяжучы ў снапы.

Стар. 227. **«... Найсці на неруш...»** — найсці на нярушанае грыбное месца.

Стар. 231. **Арала** — плут.

Стар. 232. **Абэржа** — вялікая будыніна для розных гаспадарчых патрэб.

Стар. 234. **Стадола** — канюшня, стайня.

Стар. 247. **Балагол** — фамізнік.

Стар. 249. **«Лягаш»** — лягавы сабака; тут—мянушка кандуктара.

Стар. 249. **Ворчык** — невялікі мяшок, торба.

Стар. 251. **Цыр** — тут — высушаны грыб (губа), нараст сухі, які ўжываўся пры высяканні агню.

Стар. 251. **Крэсіва** — кусок сталі для высякання агню з крэмня.

Стар. 255. **Конка** — гарадская чыгунка з коннай цягай, якой раней карысталіся ў буйных гарадах да з'яўлення трамвая.

Стар. 257. **Гарадавы** — у часы царызма — ніжэйшы чын царскай гарадской паліцыі.

Стар. 272. **Лукішкі** — назва часткі раёна горада Вільні.

Стар. 274. **Чартавіца** — назва ляснога ўрочышча.

Стар. 280. **Манаполька** — у дарэвалюцыйнай Расіі — казённая крама па продажу гарэлкі.

Стар. 283. **Церабяжы** — назва ўрочышча, дзе знаходзіліся могілкі.

## «СЫМОН-МУЗЫКА»

Паэма «Сымон-музыка» — выдатнейшы твор Якуба Коласа, у якім з вялікай сілай мастацкага абагульнення выразіліся літаратурна-эстэтычныя погляды паэта. Галоўная праблема паэмы — становішча народнага мастацтва ў капіталістычным грамадстве, роля мастака і мастацтва ў жыцці народа і яго вызваленчай барацьбе. Праблема гэта вырашаецца праз вобраз Сымона, таленавітага мастака з народа, які ва ўмовах капіталістычнага грамадства з вялікімі цяжкасцямі прабівае сабе дарогу ў жыццё, мужна адстайвае права на развіццё народных талентаў, народнага мастацтва. Колас праводзіць свайго героя праз цэлы шэраг жыццёвых выпрабаванняў, паказвае паступовы рост яго свядомасці, светапогляду. Ад рамантычнай летуценнасці, ад наіўных дзіцячых разважанняў аб жыцці прыроды да адмаўлення існуючага грамадска-палітычнага ладу — такі шлях эвалюцыі праходзіць Сымон-музыка.

Усім ідэйна-мастацкім зместам паэмы, логікай апавядання аўтар прыводзіць чытача да думкі аб немагчымасці свабоднага развіцця таленту ў капіталістычным грамадстве, якое «варожа некаторым галінам духоўнай дзейнасці, якімі з'яўляюцца мастацтва і паэзія» *. Значыць, для таго, каб інтэлектуальныя здольнасці чалавека маглі

* К. Маркс—Ф. Энгельс. Аб мастацтве, М—Л. 1938, стар. 89.

свабодна развівацца, а мастацтва дасягнула свайго росквіту, неабходна знішчыць капіталістычнае эксплаататарскае грамадства. Такі рэвалюцыйны вывад робіць Якуб Колас у сваёй паэме «Сымон-музыка», прасякнутай жыццесцвярджальным аптымізмам, верай у перамогу працоўнага чалавека над прыгнятальнікамі народа. У сцверджанні рэвалюцыйна-дзейснай сілы народнага мастацтва, у вызначэнні яго актыўнай ролі ў вызваленчай барацьбе народа—пафас паэмы.

Працу над паэмай «Сымон-музыка» Якуб Колас распачаў у лістападзе 1911 года. Першая частка паэмы была напісана на працягу 22/XI — 21/XII — 1911 года ў горадзе Лунінец. Другая частка паэмы напісана ў 1912 годзе.

Першы, другі, трэці і чацверты раздзелы трэцяй часткі паэмы напісаны 3 — 7 лістапада 1917 года, пяты раздзел — 8 — 12 снежня 1917 года ў горадзе Абаянь, Курскай губерні.

Першыя тры часткі паэмы вышлі ў свет асобным выданнем у 1918 годзе ў Мінску пад назвай «Сымон-музыка» (Казка жыцця).

Першы раздзел чацвертай часткі быў напісан 13 — 16 снежня 1917 года, другі раздзел — 17 — 20 снежня 1917 года, трэці — 21 — 25 снежня 1917 года, чацверты — 6 — 10 студзеня 1918 года — у горадзе Абаянь Курскай губерні, пяты раздзел пятай часткі паэмы напісан 13 — 18 студзеня 1918 года ў вёсцы Малыя Крукі, Курскай губерні.

У далейшым Колас прадаўжаў працу над паэмай «Сымон-музыка». У 1924 годзе была створана другая рэдакцыя паэмы, рукапіс якой загінуў у час паездкі паэта ў Кіславодск. У 1925 годзе першы варыянт паэмы аўтарам быў перапрацаваны занава і ў гэтым-жа годзе твор вышаў у свет у новай, трэцяй рэдакцыі.

Апошняя рэдакцыя паэмы (1925 г.) прыкметна адрозніваецца ад першай. Значна ўзбагаціўся ідэйны змест твору, вобраз Сымона набыў больш шырокі, філасофска-абагульняючы сэнс, выразна і акрэслена паказаны рэвалюцыйныя імкненні галоўнага героя, яго палымянае жаданне аддаць свой мастацкі талент народу, верна служыць яму ў яго вызваленчай барацьбе.

Паэма друкуецца па тэксту беларускага выдання 1946 года.

Стар. 295. **Дурубала** — дурань.

Стар. 301. **Стажары** — назва групы з сямі зорак у сузор'і Цяльца.

Стар. 303. **Вератнік** — частка паласы, доўгага загону.

Стар. 308. **Кульбака** — крывая палка.

Стар. 315. **Паняверка** — блуканне, бадзянне; цяжкое, беспрасветнае жыццё.

Стар. 315. **Духоўніца** — духоўнае завяшчанне.

Стар. 317. **Пакровы** — рэлігійна-хрысціянскае свята, якое адзначалася першага кастрычніка.

Стар. 319. **Наджэга** — лупцоўка.

Стар. 324. **Амбон** — узвышэнне ў царкве перад так званымі царскімі варотамі.

Стар. 339. **Жагялі** — парусы, ветразі.

Стар. 341. **Шалыга** — лгун, круцель, махляр.

Стар. 341. **Шалахта** — балбатун, лапатун.

Стар. 344. **Шэлег** — дробная старая манета.

Стар. 347. **Лясун** — у народнай міфалогіі — звышнатуральная істота, якая жыве ў лесе.

Стар. 349. **Ставы** — заставы, запруды, плаціны.

Стар. 354. **Клуня** — пуня пры гумне для сена.

Стар. 357. **Вясёлка** — радуга.

Стар. 361. **Нехлямяжы** — змарнелы, заняпалы,

Стар. 368. **Кампора** — камфора.

Стар. 374. **Пасэсар** — часовы ўладальнік, арандатар маёнтка.

Стар. 374. **Майдан** — плошча, узгорак, узвышанае месца.

Стар. 383. **Млён** — палка, пры дапамозе якой круцяць жорны.

Стар. 390. **Шчур** — пацук.

Стар. 390. **Ладуннік** — патранташ.

Стар. 420. **Фатыга** — турбота.

Стар. 432. **Ахмістрыня** — эканомка, ключніца.

Стар. 432. **Альтанка** — крытая лёгкая пабудова ў садзе для адпачынку.

Стар. 439. **Вадзянік** — у народнай міфалогіі — казачная істота, насельнік вод.

Стар. 445. **Анталяжыкі** — карункі.

Стар. 447. **Андарак** — жаночая шарсцяная, суконная спадніца.

Стар. 450. **Абэцадлы** — буквар, тут — у сэнсе грамата, вучэнне.

Стар. 452. **Фуз** — смецце, адкіды.

Стар. 464. **Жох** — жулік, махляр, круцель.

Стар. 465. **Вэлюм** — вуаль.

Стар. 469. **Конаўка** — кружка.

Стар. 471. **Сарна** — дзікая каза.

Стар. 478. **Тыга** — род выклічніка.

*Заўвагі склалі кандыдаты філалагічных навук*
*В. В. ІВАШЫН і А. А. СЕМЯНОВІЧ.*

